Выданне „Вольнае Беларусі“

# Зборнік сцэнічных твораў.

## Вадэвілі.



Том першы. Сшытак II.



МЕНСК
Друкарня Я. Грынблята.
1918.

# ЗБОРНІК
# СЦЭНІЧНЫХ ТВОРАЎ.

СШЫТАК ДРУГІ.

## ВАДЭВІЛІ.

МЕНСК
Друкарня Я. Грынблята.
1918.

К. Каганец.

# Модны шляхцюк.

Бытовая камэдыя у I-ой дзеі.

# МОДНЫ ШЛЯХЦЮК.

## АСОБЫ:

ЯН—гаспадар.

ЯКУБ—сват Пранцішка.

ГАННА—дачка Яна.

ПРАНЦІШАК . } шляхцюкі з другога засьценку.
ІГНАСЬ . . }

АНДРЭЙ—сват Ігнася.

СУСЕДЗІ Янавы.

(Усе дзеецца у хаце Яна).

## ЗЬЯВА І-ая.

**Ян** і **Якуб**, седзючы за сталом, выпіваюць, закусываюць і вядуць гутарку.

Ян (прапівае і налівае Якубу). Пій на здароуе!

Якуб. Будзь, вашэ, (прыймае чарку) здароу!

Ян. Пій на здароуе!

Якуб. Так-то яно то... (Глядзіць на чарку). Так, так, так... (Уздыхае). А усе-ж па-людзку ні выходзіць...

Ян. А што там за бяда такая?

Якуб. Бяда—ні бяда, а так, што яно ні так, як трэба.

Ян. Ды пійце-ж, пане браце! Пры чарцы і высказаць лягчэй будзе.

Якуб. Ну, дай, Божэ, каб усе было гожэ. (Выпівае і налівае Яну). Э, Яне, Яне!

Ян. А што?

Якуб. Дзело, бачыш, маю.

Ян. Ну, дык кажы, што так за дзело такое?

Якуб [скрабучыся за вухам]. Так,—бачыш вашэ,—я як-бы за дзелам, а і пачаць ні ведаю с чаго...

Ян. Будзь здароу, пане браце. [Пье і налівае]. Так скажы, пане браце, якое такое труднае дзело маеш? Але перш чарку выпій.

Якуб. Дзякую. Калі-ж неяк і піці сорамна.

Ян. Чаму так? Чым хата багата, тым і рада.

Якуб. Дзякую, дзякую!

Ян. Я бачыш, вельмі упрашываць ні умею.

Якуб. Ды ні аб тое. Здаецца, ні цяпер мы знаемся.

Ян. Дык чаму-ж гэта ты?..

Якуб. Я, бачыш вашэ, на добры лад павінен-бы сам да вас з гарэлкаю прыйсці. А так то і пачаці ні ведаю с чаго..

Ян. Та-а-ак! Вось яно што...

Якуб. Ды ужо-ж..

Ян. Прауда, што яно трохі ні па-людзку. А дзе-ж ваш маладзец? Чаму ен ні прыехау?

Якуб. Га, мода цяпер такая.

Ян. Мода—модю, а звычай—сьвятое дзело.

Якуб. За тым-то і мне так цяжка. Ці то мне першыня сватацца? Бо, па-праудзі сказаушы, у сватанні шчасьце маю. Адно цяпер неяк язык у роце вязьне.

Ян. Так, так...

Якуб. Сам ні ведаю, што рабіць; але мой кавалер так захацеу.

Ян. Кепска, кепска...

Якуб. Кажэ, што мода цяпер такая, што па-нашаму ні сватаюцца. А ен-жа у гэтым дзеле маракуе, бо хлопец вучоны, шмат сьвету бачыу, у горадзе бывау, уселякае навукі набрауся, дык ужо і ні жыве па-нашему, але с культураю...

Ян. А што гэта такое?

Якуб. (Засароміушыся, заікаецца). Ну, ку-уль-ту-у-рра...

Ян. Куль-куль-куль... Нешта я гэтаго ні уцямлю. Што гэта: баба якая, ці што?

Якуб. (Заклапочаны). Па-праудзі сказаць, то я і сам ні ведаю, што гэта такое.

Ян. Ну, дык чаму-ж ты гаворыш, чаго ні ведаеш сам? На ліхо нам тыя выдумкі заморскія? Ці у нас сваіх слоу ні хватае?

Якуб. Ні гневайся, вашэць: гэта ен мяне так навучыу, каб зразу відаць было, што ен ні абы які кавалер.

Ян. Ого-го! Штось мне ні спанарауна. А хто ен такі, ваш гэты заморскі паніч?

Якуб. Пранцішак.

Ян. Які Пранцішак? Адгэтуль?

Якуб. Ды гэты, з Вішнеукі, Карчэушчык.

Ян. Ага-а-а! Гэта Антоняго, вечны яму пакой, сын. Гэта той, што гаспадаркі ні любіць, і найболей у горадзі бадзяецца.

Якуб. Для навукі, бачыш, усе.

Ян. Ведаю я, якой навукі: у карты гуляць, гарэлку піць за дзеукамі валачыцца—вось гэткіх панічоу навукі.

Якуб. Мне ен казау, чаго ен там вучыцца, але штось ні успомню.

Ян. Была калісь прауда, ды іржа зьела.

Якуб. Ну, дык як-жа будзе?

Ян. Пабачымо.

Якуб. Да і дачцы скажыце, каб ні працівілася. Усе-ж то такі паніч бывалы, дэлікатны,—ні так, як нашы засьцянковыя.

Ян. Дачкі пяволіць ні буду. Як яна спадабае. Адну толькі маю. Яна у мяне і дома гаспадыня і у полі работніца. Добрае дзіця. Вольную волю мае. Каб я толькі ведау, што ен хлопец добры, ні лайдак, то перашкод рабіць ні буду.

Якуб. Так-то яно так. Але растлумачце ей, што гэта ні просты хлопец, а вучоны.

Ян. А што тамака вучоны, вучоны! Хочэце,—самі намауляйце. Я гаварыць ні буду.

Якуб. А мо і пагаварыць з ей?...

Ян. (Клічэ). Ганна, а, Ганна! Хадзі, дзеткі, сюды.

## ЗЬЯВА II.

### Тыя-ж і Ганна.

Ганна. (Убегае босая, падкасаушыся, з дзеркачом у руках, убачыушы чужога, засаромілася, абцягнула спадніцу і стала у качарэжніку). Тата мяне клікалі?

Ян. Але! Вось, пан Якуб с табой пагаварыць хочэ.

Ганна. (Утарапіушыся) Пан Якуб?!.

Якуб. Што, паненка, на мяне так дзівішся? Сядзь лепей, пагаворымо.

Ганна. Дзякуй, я магу і стоючы паслухаць.

Якуб. (Заклапочаны, памаучаушы). Памажэце, вашэ, пане Яне.

Ян. Бачыш, Ганна! Пранцішак Карчэушчык да цябе свата прыслау.

Ганна. (Саромліва павярнуушыся да печы, нішчыком усьміхаецца і маучыць).

Якуб. Ну, што-ж паненка на гэта скажэ?

Ганна. (Прыкідываючысь нізнайкою). Ні ведаю...

Якуб. Падумай, паненка: ен-жа і вучоны і дэлікатны,—і папольску і па-расійску гаварыць умее. Будзеце у горадзі жыць, с панамі таварыство вадзіць.

Ганна. У-у-га! (Як-бы да сябе). Так многа!

Якуб. Будзеш, паненка, у дарагіх сукнях хаджываць, дэлікатную страву есьці... Ну, дык што-ж, паненка, маучыш? Кажы: пойдзеш за Пранцішка?

Ганна. Ні ведаю...

Якуб. Ні саромяйся, паненка.

Ганна. На што мне гэта усе? Ці мне у бацькі дрэнна?

Ян. Дрэнна—ні дрэнна, але векаваць пры мне ні будзеш... Трэба-ж калі нібудзь замуж выйсьці.

Ганна. Ваша, тата, воля,—але пры вас я бы ахвотней асталася.

Якуб. А калі-б вам у горадзі добра пайшло, дык і бацьку узялі-б к сабе. Бацька на старасьці сапачыу-бы ад працы. У горадзі і памаліцца есьць гдзе. .

Ян. Бог усюды е, а у горадзі мне ні прынадна. Дый сам, вашэць, я думаю, ні вельмі-б то у горадзі рад жыу.

Якуб. Яно-то так; я бы у горадзі ні мог жыць, бо ужо стары— цяжка прывыкаць. А маладым то другое.

Ян. Ну, Ганна! А што ты на гэта?

Ганна. (Маучыць, адно край хвартушка зубамі цярэбіць).

Якуб. Бачу, што с паненкаю да ладу ні дайду, бо саромяецца, —а свае дзело я споуніу, дый то толькі праз памяць па нябошчыка бацьку Пранцішковаго, бо сам-бы я за гэтакае сватаустно ні узяуся. А цяпер, людцэ добрыя, аставайцеся здаровы, хай бацька з дочкаю парадзяцца добра, а Пранцішак сам на адповедзь прыйдзе, калі у яго мода такая. Бывайце здаровы!

Ян. Ідзіце з Богам здаровы! (Якуб выходзіць).

## ЗЬЯВА III-ая.

**Ян і Ганула.**

Ян. Ну, што-ж, Ганyля? Пайшла-б за Пранцішка?

Ганна [энэргічна]. Да куды там?!

Ян. Але што с таго будзе, што усім адказываеш?

Ганна [прыбіраючы хату]. Ці-ж бо мне дома кепска? Тата-ж мяне ні праганяеце...

Ян. Добра, але усе-ж такі век маладая ні будзеш, а як пастарэеш, хто цябе тады возьме? Я ужо стары, ужо столькі ні пражыву, колькі пражыу. Як прыдзецца рукі злажыць, то хто тады табе у помач стане? Гаспадарку разарвуць, цябе пакрыудзяць... Старасьць— ні радасьць.

Ганна. Пажывеце, тата, пажывеце.

Ян. Я ведаю: у цябе у галаве Ігнась.

Ганна. Ігнась—ні Ігнась, а за Пранцішка ні пайду.

Ян. То чаму-ж свату зразу ні сказала?

Ганна [з абідаю]. А гдзе хто бачыу, каб дзяучына с сватам гаварыла? Гэта-ж сорам! Тагды-б мяне на засьценку засьмеялі.

Ян. Яно-то прауда, што табе неяк ні выпадае.

Ганна. Але тату то я усе скажу, як на споведзі. Ні пайду за Пранцішка, бо тут яго усе знаюць, як аблупленаго кота. Усе з яго толькі кпяць і сьмяюцца. Ніхто аб ім дабраго слова ні скажэ. Ходзіць па-моднаму, увесь у чорным, сурдут доугі, з-заду разрэзаны... Ні раунуючы, як той чорт.

Ян. Бачыш яго! А я гэтаго ні ведау!

Ганна. Бо тата усе або у полі, або у хаце. А я ведаю, бо ні раз яго спатыкала. Як сустрэну яго на вуліцы, дык кожын раз ажно жахнуся. А сабакі нінавідзяць яго горш, як воука. Часам за паувярсты ад засьценку дагоняць яго ды калошы паабрываюць. Цьфу! Сабака яго ні можэ сьцярпець, а я-бы мела за яго замуж ісьці!...

Ян. Кажуць, што вучоны.

Ганна. Вучоны, вучоны! Бульбы ад рэпы ні распазнае! А гаворыць дык так, што і зразумець яго трудна. Нашае мовы саромяецца...

Ян. Гэта брыдка! Але хацелося-б мяне зяця прычакаць,—унукау бы гадавау.

Ганна. Прычакаеце, прычакаеце.

Ян. Цяжка, бачыш, з гаспадаркою упрауляцца, а наймiт—ні свой чалавек: і дарага каштуе і на старану гатоу што перадаць,—ведама, чужы.

Ганна. Але! А хочэце мяне у горад аддаць. А хто у вас за гаспадыню будзе, хто каровы падоіць, хто сьвінні пакорміць? Хто страву вам зварыць? Хто з жнейкамі у постаці стане?

Ян. Я цябе ні няволю.

Ганна. Тут я радзілася, тут і матуля мая пахована, тут я і астануся. Хто-б тагды магілку матчыну прыбрау? Зарасла-б яна дзікім зеллем, а вам-бы матка супакою ні дала за тое, што мяне ад яе адлучылі... (Плачэ).

Ян (разжалены). Ні плач-жа, ні плач! Я-ж цябе ні прымушаю. Мне-й самому дужа ен ні падабаецца. Дый цяжка мне ужо аставацца аднаму. Ведаю, пра Ігнася думаеш, дый нешта-ж ен маучыць дагэтуль, ні сватаецца.

Ганна. Але і да іншых ні удаецца.

Ян (сьмяючыся). А ты-б яго хацела? (Ад якойсь пары ужо сабакі брэшуць).

Ганна. Мала-бы што, ды мне і з вамі добра.

Ян. Але каго гэтак сабакі апанавалі? Выскачы, дачушка, глянь, каго яны так тамака бяруць? (Ганна выходзіць).

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Ян, Пранцішак**, пасьля **Ганна**.

(Ян, зняушы с кручка кажух, падкінуу сабе пад галаву і прылег за сталом на лаві, так што яго ні відно ад дзьвярэй. У хату ускаківае, уцекаючы ад сабак, Пранцішак—бледны, задыхаючыся; ен у чорным сурдуціку, у чорных нагавіцах, у белых рукаучыках і каунерыку).

Пранцішак (азірнуушыся па хаці). І тут нікагусенька! А, псямаць іх, чуць мне сурдута ні зьелі. Цэлых пяць рублеу жыду аддау за яго,

але на такія залеты, дык і то дарага. (Падышоу к лаві і зьметае яе хустачкай). Але жыць тутака—то я бы ні жыу. Забяру Ганну у горад, дам сабе з ею рады, каб толькі пасаг у рукі як прыбраць—вось што.

Ганна (прычыніушы дзьверы). Тата тут? (Убачыушы Пранцішка). А-а-а! А гдзе тата?

Пранцішак. Не вем... Добры вечар, паненка! А на цо-то паненка таты шукае? Можэ мы і без таты маглісь-бы паразмавяць. Я наумысьле тэго пшышэдлэсь.

Ганна. А аб чым мы маем гаварыць? Калі якое дзело маеце, тата на тое...

Пранцішак (прыдержываючы Ганну за руку). Але ніхай паненка пачэка. Без таты нам бэндзе свабодней; паненка ве, што пры тату не вшыстко можна робіць. (Памаучаушы). Паненка ужо ве, чаго я ту пшышэдлэсь.

Ганна. Не, ні ведаю!

Пранцішак. Як-то? Прэце-ж ту был пан Якуб, он мне мувіл...

Ганна (ніцярпліва). Што вам пан Якуб гаварыу, таго я ні магу ведаць.

Пранцішак Але-ж, паненка, я ту пшушлэсь до паненкі у сваты, а паненка гневася на мяне, як на злэго.

Ганна. А ці-ж у сваты хто гэтак ходзіць і сорам дзяучыні прычыняе і дзьверы заступае?!

Пранцішак. Цо-бо то паненка до мне, як до хлопа, гада? Чы бы то мы не маглісь фізычней паразмавяць? Прэце-ж, паненка такі шляхэтна естэсь, а то по-простэму і по-простэму.

Ганна. Ніхай сабе і «па-простэму». Няужо-ж крыва лепш, як проста?

Пранцішак. Я, відзі паненка, не естэсь просты. А вшыстко такі цоколек розумем. Я у месьці да школы ходзілэсь. З ружнымі панамі знамся. Так паведзявшы, я чловек с культуро, выкшталцоны естэсь, —так то мне неякось ні выпадае так па-хлопску гадаць: гале ды гале.

Ганна. Та чаму-ж, паніч, у засьценак прыходзіш? Нам гэтаго усяго ні трэба—гэтых вашых хвізыкау. Нам досі нашае мовы, нашых звычаеу.

Пранцішак. Э! то так?! То паненка мне не хцэ? Почэкай, паненка, я патрафя паненка намувіць, што і маей бэндзеш і нікому ані пісьнеш... (Хочэ злавіць яе).

Ганна. Што гэта?! Адчапіся!.. Разбойнік! Шалены!.. (На сцэне пузаніна, а, тым часам, з-за стала устае Ян).

Пранцішак (убачыушы Яна, пускае Ганну і гвалтуе). Гэй, людзі! Ратуйце!.. Ратуйце!..

Ян (падыходзіць з гневам). А гэта што?.. (Ад гневу ні можэ гаварыць).

Пранцішак. А, пан?! Адкуль гэта пан?.. Чы то пан тутэйшы? Ратуйце! Памажыце!.. Гэта дзяучына шаленая, ці якое ліхо... Забіць хочэ...

Ян. Вон, паганец!.. Бач, ты! Брэхаць будзе... Вон, каб і нага твая тут ні была!.. Я-б с табой іначэй пагаварыу, але абразы шаную і звычай сьвяты. Адно вынасіся бардзей, а то часам і ні вытрываю.

Пранцішак (адступаючы да дзьвярэй, к сабе гаворыць). Ну, іщчэ добра скончылося... Я баюся, каб ні было горэй.. (Шмыгнуу за дзьверы).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Ян і Ганна.**

Ганна (туліцца к бацьку). Балазе, татачка, вызвалілі мяне ад гэтаго гада.

Ян. Дык прауду казалі аб ім, што ні самавіты. Вось табе і моднае сватоуство!

Ганна (утаропіушыся). Ціха, ціха, тата!

Ян. А што там?

Ганна. Як-бы званок чутно, чуеце?

Ян (слухаючы). Але-ж. Пошта, ці што?!

Ганна. Як-бы са шляху зьвярнулі. (Глядзіць у вакно).

Ян. Зноу беда якая, ці што? Да каго-ж бы гэта? Хіба што ні да нас... Дый хто?..

Ганна (стаіць ля вакна). А мо і да нас. (Разам зрадзеушы). Татачка! Ды гэта-ж сваты! І да нас, да нас! Ужо і Бэйшарову хату мінулі...

Ян (пагледаючы у вакно). Прауда! Во, гэта дык па-людзку, нагаспадарску.

Ганна. А што, тата? ці-ж ні казала? Вось і сваты!

Ян. Але коні добрыя. Ды хто-ж бы то?

Ганна. Ігнась! Ігнась са сватам едзе!...

Ян. Ідзі-ж, дзяучына, прыгарніся трохі, бо растрэпалася, з гэтым злодзяем тузаючыся.

Ганна. Што гэта сягоньня?! Ажно галава кругом пайшла... (Выбегае).

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Ян і Андрэй.**

(Ян ходзіць ніспакойна па хаці. Дзьверы адчыняюцца і увайходзіць сват Андрэй).

Андрэй. Хай будзе пахвалены!

Ян. На векі векау! Што гэта, куме: ці ні воук здох, што урэшці успомніу аба мне? Гэтулькі часу і носа ні ткнуу.

Андрэй. Часу, кумочку, ні было. Далі-Бог, колькі разоу зьбіраУся, ды усе неяк ні выходзіло.

Ян. Эй, гавары, куме!.. Вось сядай лепей і кажы што чуваць? Як баба маецца? Як дзеткі?

Андрэй. Дзякую! Нічагутка, жывемо памаленьку. Як сам? Як дачка?

Ян. Здаровы, дзякаваць Богу. Але сядай-жа нарэшці!

Андрэй. То і дзякаваць. А калі будзеце рады купцом, дык сяду. .

Ян. Да ужо-ж, хто мае тавар, той і купцом рад. Што да пaverы, то ці зойдземся,—а так ласкава просім.

Андрэй. Калі-так, то і аб цану зьмяркуемся, дасьць Бог (садзіцца і ставіць на стол пляшку). Так значыць, ты ні праціве́н, куме?

Ян. Што я? Ні мне-ж з Ігнасем жыць. А дачкі няволіць ні буду.

Андрэй. Яно-то так. Але, пакуль аб цану таргавацца, трэба-б тавару паглядзець.

Ян. Пачакайце крышку: я пайду клікну яе. (Выходзіць).

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Андрэй, Ян, Ганна і Ігнась.**

Ян. (Уходзіць, вядучы засаромяушуюся дачку, за ім ідзе Ігнась). Ого! Пакуль мы тут, яны самі праз вакно таргуюцца. Кажы, дачка, ці хочэш Ігнася?

Ганна. Як тата скажэце... (Падходзіць да Андрэя і цалуе яго у руку).

Ян. Бач, якая пакорная?! А дауно-то аднаго адправіла. Ну, давай падвячоркаваць. (Ганна выбегае, штурхнуушы Ігнася). Ну, Ігнась, седай, паговорым.

Ігнась. (Цалуе у руку). Дзякую пану бацьку. (Усе паселі за стол. Ганна прыносіць яечню на скавaрадзе; бацька рэжэ хлеб і кладзе перад кожным па лусьце).

Андрэй (налівае чарку). Такі трэба-б было нам старгавацца.

Ян. А што нам таргавацца? Дзеці ужо згаварыліся, а усе што мае, тое іх будзе. Гаспадарка Ігналева ні-вялікая, дык там брат яго управіцца,—а Ігнась пры мне будзе.

Андрэй. Ну, дык згода! Будзь, куме, здароу і дзяржыся крэпка! (Выпівае).

Ян. Пій на здароуе! Хай Бог дзецям памагае! (Тым часам пачынаюць зьбірацца кабеты, хлопцы, дзеучаты.

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Тыя-ж** і **госьці** (хлопцы, дзеучаты).

Ян. Ну, калі і гасьцей нам Бог прыслау, то ніхай ужо усім будзе весела. Хадзі, Юрка, сюды. (Падходзіць шустры чэрнявы хлопец). Схадзі, бач, скрыпку вазьмі ды ніхай і Волесь цымбалы цягне.

Юрка. Мо і Юзіка с клярнэтам клікнуць?

Ян. Так бегай хутчэй. А ты, Ганна, скажы Піліпу, хай с клеці прынясе баклажку. (Ганна выбегае і, як бач, прыносіць разам с Піліпам місу нарэзанага сыру і баклажку з гарэлкай. За імі уходзяць музыкі, строяць інструмэнты і пачынаюць іграць. Ігнась бярэ Ганну і ідзе у танец, прыпеваючы, а за імі другія).

Хор дзеучат.

Каціліся па вуліцу белая талерка.
Слауны хлопец, слауны хлопец,—харошая дзеука.

Хор хлапцоу.

На што дзеуцы рэшато,
На што дзеуцы сіто,—
Хлопец дзеуку пацалуе,—
Дзеука будзе сыта.

Ганна. (Да Ігнася)

Мая песьня уся:
Люблю Ігнася...

Ігнась. (Да Ганны).

У гарадзі гарбузы,
У Кіеві дзядзька;
За то цябе палюбіу,
Што цалуеш гладка.

(Да музыкі).

Іграй, іграй, ігрaчу,
А я табе заплачу,
А я хатку прадам,
Табе грошы аддам...

(Танцуе з Ганнай. Хор утурыць апошнія словы песьні. Пасьля Ігнась з Ганною выходзяць з грамады і становяцца на перадзі сцэны, каля вакна).

Ганна. Чуеш, Ігнась, як сабакі бяруць? Што там за ліхо па засьценку цягаецца?

Ігнась. (Пазіраючы у вакно). Цемна, ні відаць. Трэба выйсьці паглядзець, што там такое.

Ганна. А цябе сабакі ні парвуць?

Ігнась. Яны мяне ужо знаюць. (Ігнась выходзіць. Ганна глядзіць у вакно. Моладзь танцуе, а старыя частуюцца).

Ігнась. (Вертаецца). Нехта дарогаю да нас бяжыць, як жару ухапіўшы.

Ганна. (Пазіраючы у вакно). Бачу, бачу —каля загарадзі. Гэта-ж нашае ліхо!

Ігнась. (Гледзячы у вакно). І як раз сюды зьвертае.

Ганна. Тату, тату! Той гад ізноу к нам бяжыць. (Пачуўшы Ганну, усе пакідаюць танцаваць, а за імі і музыкі адзін за адным зарываюць ігру).

Ян. (Устаючы з-за стала). А ліхо-ж яго галаве! Хаты маей ні шануе. Ой, мусіць такі прыйдзецца мне выкінуць яго за дзьверы.

## ЗЬЯВА IX-ая.

### Тыя-ж і Пранцішак.

Пранцішак (бледны, у абарванай адзежы, у памятым капелюшы; ускаківае на сярэдзіну сцэны). Га, зладзеі! Гэта вы павыпускалі сабак на мяне?! Ну, заплаціце-ж вы мне за гэта!

Ян. А ягомасьць так ні крычы, бо тут есьць і старэйшыя за цябе, ды такія, што цябе супакоіць патрапяць.

Пранцішак. А самі мне за адзежу заплаціце? Мала таго, што нада мною тут назьдзекаваліся, іщчэ і сабакамі нацкавалі...

Ян Гэта-ж ужо з гадзіну будзе, як ягомасьць адгэтуль выйшау.

Пранцішак. Ужо у канцы засьценку быу, як мяне сабакі апанавалі.

Ян. Мае сабакі у канцы засьценку былі?

Пранцішак. Вашы, ці ні вашы, але вы мне заплаціце, бо я у вас быу.

Ян. Ніхто ні звау.

Пранцішак. Паліцыю паклічу. У суд пацягну...

Ян. Баюся я, як заяць рабой кабылы.

Пранцішак. Сурдут 20 рублеу і порткі 6, а капелюш 2 рублі, то разам 28 рублеу. Плаціце! А то у суд падам і на вас і на увесь ваш засьценак.

Ігнась То мы усе будземо плаціць?

Пранцісь. А ужо-ж усе.

Ігнась. І за той брыль?

Пранцішак. І за той.

Ігнась (выхапіушы з рук капелюш). Давай сюды! Калі маю плаціць, то ніхай хаця пацешуся ім. (Кулаком прабівае брыль).

Пранцішак. Што ты робіш, дурню?!

Ігнась (спакойна). Што? А беларускую шапку...

Пранцішак (сярдуючы). Мой капелюш папсавау!

Ігнась. А табе якое дзела? Я заплачу. Гэта ужо мой, а ні твой.

Ян. Прауда Ігналева. Сварыцца я с табою ні буду, дый па судох цягацца ні хачу. Сам табе заплачу. Але за тое, што ты мяне на шальмоуску хочэш ашукаць ды хочэш злупіць 28 рублеу за тое, што каштуе 10,--кару, панічу, дастанеш і свае лапсардакі тутака на мейсцы пакінеш.

Пранцішак. Што? Я паліцыю! Я у суд!

Ян. Паліцыя тут нічога ні паможэ, а на такога злодзея, як ты, суду ні Божаго, ні людзкога німа. А ну, хлопцы: разьдзеньце яго, гэтаго панічыка (Хлопцы абступаюць і прыдзержываюць Пранцішка).

Пранцішак. (Тузаючыся). Што?! Сурдут? Ні здзірайце сурдута! А-ей! а-ей! а-ей... Паненкі гледзяць...

Андрэй. Ніякіх тут паненак німа, адно нашы дзеучаткі, а яны ведаюць, што чалавек у сьвіце ні родзіцца. Хлопцы, а ну, жыва! (Хлопцы зьдзіраюць сурдут. Пранцішак астаецца у манішцы на голым целі і у рукаучыках на голых руках).

Андрэй. Глядзеце! Гэта іх такая гарадзкая мода, што без кашулі ходзюць.

Ігнась. Ну, а цяпер давай, братко, і нагавіцы!

Пранцішак. Ой-ой-ой ой! Людцы добрыя, ратуйце! Забьюць!

Ян. Ціха, ні крычы! А то на твой прыродны мундір яшчэ што прыложым. А калі я за нагавіцы плачу, то давай!

Хлопцы. Скідай барджэй нагавіцы! Скідай, скідай! (Адны дзержаць Пранцішка пад пахі, а другія пачынаюць спушчаць нагавіцы).

**Заслона.**

---

*КАНЕЦ.*

---

# МІХАЛКА

Камэдыя у 1-ой дзеі.

С польскаго на беларускі лад

перарабілі **Долецкія.**

# МІХАЛКА.

**А С О Б Ы:**

ЯЗЭП КАРЫТО, шляхціц.

АДЭЛЯ, яго дачка.

ЮЛЬКА, пакаеука.

МІХАЛКА БАГДАЛЕВІЧЫК.

ЗМІТРУК, хурман Карытау.

Усе дзеецца на весцы у Карыты. На сцэні—шляхоцкая сьвятліца.

## З Ь Я В А I-ая.

**Язэп**, пазьней **Адэля**.

Язэп (праз акно). Адэля, Адэлічка, кінь палівaць кветкі!

Адэля (за сцэнаю). Трэба-ж пападлівaць кветкі, бо зьвянуць, пасохнуць.

Язэп. Гэтак-то гэтак: моладасьць—блазнота, а усе кветкі, вецяр па галаве летае; хадзі, Адэля, да мяне, калі кажуць.

Адэля (за сцэнаю). Зараз, татачка, зараз!

Язэп. Хадзі-ж, бо маю да цябе пільны інтэрас.

Адэля (за сцэнаю). А ужо іду, татачка, іду.

Язэп (адзін). Прычакау. З гэнымі паненкамі раданькі сабе ні дам. Адну дачку маю, а столькі клапотау, што лепш меці капу сыноу. Пакуль ні трэба было замуж, то ішчэ сяк так было. А цяпер прышла пара аддаваць, і вось, дзякуючы ласцы Боскай, аддаю яе замуж ужо двацацаць гадоу! Усе неяк так выходзіць: ці той малец ей па сэрцу ні будзе, ці ен яе ні упадабае. Ужо думау, што мае дзіцятко Адэлічка і састарыцца у дзеуках, ажно падкруціуся дзяцюк і ні быля які... Каб хаця упадабала яго мая Адэлічка?!...

## З Ь Я В А II-ая.

**Язэп і Адэля.**

Адэля (прыбегаець с палівачкаю у руках, у саломенным капелюшы). Прышла, татачка, да вас! Што вам трэба?

Язэп. Сядай, Адэлічка! Ці згадаеш, галубачка, аб чым буду с табой гаварыць?

Адэля. Ні згадаю, татанька.

Язэп. Няужо-ж ні згадаеш?

Адэля. Далібог не.

Язэп. Прауда, то-ж я табе нічога і ні казау. Як-бы гэта табе вытлумачыць... Бо-ж яно папенцы трудна сказаць, ні зразумее...

Адэля. Татанька, гэта нешта дужа цікавае?

Язэп (цалуе яе). Толькі-ж ні пужайся, мая ты зязюлька.

Адэля. Натта-ж ужо зацікавілася я.

Язэп. Бачыш, мая дачушка, табе ужо 38 гадоу...

Адэля. Толькі што пашоу трыдцаць дзевяты.

Язэп (перапыняе яе і гаворыць далей). Гэта самая пара выйсьці замуж. Ці ні так?

Адэля. Выбачайце, татанька...

Язэп. Знаю я вас: быццам і ні хочуць, а за вачыма аж пішчаць да хлопцау, шэльмы...

Адэля (круціць фартушок). Татанька, кіньце...

Язэп. Ні перапыняй! Пара ужо выйсьці з дзявок!

Адэля. Нікога я ішчэ ні палюбіла.

Язэп. Прауда. Бо і перабіраеш ты, Адэлічка. Ды гэна цяпер усе роуна; што было, то было, а цяпер мая рада: ні задзірай носу, бо малец— шчырае золато.

Адэля (з радасьцей). Ці прыслау хто у сваты?

Язэп. А, жэужык, такі трапечэцца твае сэрцо, дрыжыць...

Адэля. Кінь, татанька, сьмеяцца з мяне. Але хто сватаецца?

Язэп. Сын майго добраго прыяцеля. Дауно я яго ні бачыу.

Адэля (пляскае у ладоні). А які-ж ен?

Язэп. Цікавасьць!?

Адэля. Татанька, так які ен?

Язэп. Ні ведаю сам, бо сына ніколі у вочы ні бачыу. Калі у бацьку удауся, будзе зух, добры, удалы малец. З гэтаго лісту даведаешся усю драбязу. Пачытай яго у голас, то і я прыпомню сабе усе, аб чым ен пісау.

Адэля (бярэ пісьмо). Так гэта, значыць, ліст ад таго, хто сватаецца да мяне! (Прыціскае да сэрца ліст).

Язэп. Гэта-ж пісьмо ні ад яго, а ад ягонаго бацькі... Чытай жа-ж!

Адэля (чытае). «Браток мой дарагенькі і дабрадзей! Ні відзеу я цябе гадоу з двадцаць...

Язэп. Пачакай... (Лічыць на пальцах). Але, прауда, як гэтыя годы праляцелі! Як сягоння помню, калі ты радзілася...

Адэля (чытае у голас). «Часам даводзілося чуць мне, што табе усе добра ручыць, і мне, дзякуй Богу, ні найгорш ідзе. Назбірау трохі грошы і усе было-б добра, каб ні сын: хачу яго ажаніць, а ен малец, падла, с печы ні злазіць...»

Язэп. Ну, ну, чытай далей.

Адэля. «Аж тут даведауся, што у цябе дачка падрастае і нават адзін мой сваяк дужа яе хваліць. Кажуць, ей ужо мінуло 18 гадоу...» (Задзівілася)..

Язэп. Ну, чаго ж задзівілася? То-ж дауно табе мінуло 18 гадоу.

Адэля. А няужо-ж—мінуло...

Язэп. Ну, дык чаго-ж вочы лупіш? Чытай далей!

Адэля (чытае). «А майму сыну 25 гадоу—добрая будзе пара». (Да сябе). Толькі 25 гадоу...

Язэп. Ну-ж і блазнамі цяпер жэняцца!

Адэля (чытае). «Спадзеваюся, што твая дачка упадабае яго, бо малец, як шкло, як ядрэная рэпа. А цяпер цалую з усяго сэрца і цябе і маю спадзевауную нявестку». Як шкло! Чаму-ж, татанька, раней ні паказау мне гэтаго лісту?

Язэп. Бо хацеу уцешыць цябе нісупадзеукі, а даужэй хаваць сэкрэту ні мог. Восека—прышла тэлеграма, што сягоння прыедзе той Міхалка.

Адэля. Зараз прыедзе?! Трэба-ж прыбрацца! Юлька! Юлька!

Язэп. Во гарачая! Адэлічка, пачакай, пасьпееш!

Адэля. Але, татулька, зробіце мне адну ласку?

Язэп. Якую, мая зязюлька?

Адэля (круціць фартух). Ні кажыце, татачка, сколькі мне гадоу.

Язэп. Чаму-ж гэта?

Адэля Бо... паненкі ніколі ні кажуць, колькі ім гадоу.

Язэп. Ужо гэтаго ні зраблю. Каб ты была старая, до другая справа, але 38 гадоу, што гэта значыць? Майму бацьку было, як жаніуся 55 гадоу, а матцы 45 і жылі яны с сабою у добрым шчасьці.

Адэля. Але відзіш, татачка, ен крышку малодшы за мяне.

Язэп. Э, два—тры годы, што гэта значыць, а лгаць—я ні лгау і ні буду.

Адэля (да сябе). Што тут зрабіць? Ага, ведаю! Калі ен запытаець, колькі мне гадоу, скажыце, што мне мінуло 25—гэта-ж шчырая прауда.

Язэп. А ні абыйдзецца без гэтаго?

Адэля. Ні абыйдзецца.

Язэп. Ну, то ужо для цябе зраблю гэтак.

Адэля. Гэта прауда? Пабажыцеся!

Язэп. Да душы! Каб мне так сонца ні убачыць!

## ЗЬЯВА ІІІ-ая.

**Тыя самыя**. Уходзіць **Юлька**.

Юлька. Паны, нейкі нізнаемы чалавек прыехаў.

Адэля. Да каго ен падобны?

Юлька. З вялікім носам, з лупатымі губамі...

Адэля. Ужо сэрцо мае чуе, што гэта ен,—трэба скорэнька пераапрануцца. (Бяжыць вон).

Язэп. Гэта пэуне ен, а я ні абууся, ні памыуся. Грышка, Іванка—каб вашы ногі вецяр калыхау—сурдут, боты,—жыва, блазны! (Ідзе у свой пакой).

## ЗЬЯВА ІУ-ая.

**Юлька** [адна].

Юлька. «Гэта ен»... Што за ен, які ен? Нейкі малец з вялікім носам. І сьмешны-ж! Дзякуй Богу, што хаця такі прыехау. Усе-ж такі навіна, а то можна памерці з нуды. Жыць такому маладому дзеучаці, як я, між гэтых трухлявых грыбоу, ні бачыць нікога, апроч пахтара і мужыкоу, то ужо лепш памерці. Я ужо пабажылася: калі выраблюся адгэтуль, то ні за якія грошы ні пайду на службу у веску. Толькі Бог адзін ведае, калі гэта будзе! (Падходзіць да люстра). Трэба прычасацца. Ніхай гэты гарадзкі паніч пазнаець, што і я гарадзкая, ні нейкая вясковая...

## ЗЬЯВА У-ая.

**Юлька** і **Міхась**.

Міхась. (Уходзіць, азіраецца па сьвятліцы). С сярэдзіны нічога сабе паказывае, затос з надворку—адно сабачча буда. Хлявы—ішчэ нічога, а бровар сусім пакрывіуся. Ну, як пападзець гэта усе у мае рукі—усе наладзім. (Азіраецца па хаці). Прыбрана хата нічога, нічога сабе, толькі ніхто мяне ні сустрэу. Пагляджуся я у люстро, бо з дарогі чалавек да сябе ні падобны. (Падходзіць да лавы, гдзе сядзіць Юлька. Юлька толькі тады убачыла яго).

Юлька. Ах, Божэнька!

Міхась. Ой, што гэта! (Зачапіу зэдлік і перавярнууся).

Юлька. (Засароміушыся). Ой, спалохалася!

Міхась. І я сам спудзіуся.

Юлька. Вы мусіць да пана Карыты?

Міхась. (Да сябе). Ні іначай—дачка. (Сьмяецца). Ні гэтулькі да пана Карыты, скулькі да яго дачкі. (Да сябе). Удалося мне. Мусіць спадабала мяне, бо нічога ні гаворыць.

Юлька. Зараз і яны прыдуць.

Міхась. (Да сябе). Неяк і язык ні варушыцца.

Юлька. Зрабіце ласку, сядайце.

Міхась. Дзякую. Насядзеуся я на каламажцы. (Да сябе). Пекная дзяучына. (У голас). Вы, паненачка, мусіць ні ведаеце, хто я такі?

Юлька. А, прауда, ні ведаю. (Да сябе). Дэлікатны чалавек і кажэ да мяне «паненка».

Міхась. То-ж я Міхась Багдалевічык!

Юлька. (Скланіушыся). Дужа рада пазнаць вас.

Міхась. А ведаеце, чаго я сюды прыехау?

Юлька. Не, ні ведаю. (Да сябе). Чаго ен хочэ?

Міхась. То вы ні чыталі пісьма майго бацькі?

Юлька. (Вырабляючыся). Не, тутака на весцы німа чаго чытаць...

Міхась. Але-ж вы можэце чытаць?

Юлька. Вядома—толькі тут, на весцы...

Міхась. То мусіць, паненка, і ні ведае, што я прыехау сюды у сваты?

Юлька. I ні чула аб тым.

Міхась. (Да сябе). Я думау прыехаць сюды на гатовае, аж тут іщчэ трэба круціцца каля яе. (Памаучаушы). Паненцы даводзілося бываць у горадзе?

Юлька. Я жыла цэлы год у Менску.

Міхась. А гэта вялікі горад? Большы за наша Лепле?

Юлька. А вы ніколі ні былі у Менску?

Міхась. Ехау раз у Менск с коньмі на кірмаш. Коні у мяне на дарозі укралі і вярнууся дамоу, ні пабачыушы Мінска.

Юлька. Шкода!

Міхась. I усе мне хочэцца паехаць у Менск.

Юлька. I мне хочэцца туды. (Уздыхаючы).

Міхась. (Да сябе). Узцыхнула. Упадабала мяне. (У голас). Як ажанюся, паедзем у Менск.

Юлька. Што? Возьмеце і мяне с сабою?!

Міхась. Вядома... як мне там жыць без вас? То-ж я ні ведау-бы куды павярнуцца.

Юлька. Э, маніце!

Міхась. Дальбог, прауда. Ні маню!

Юлька. А што панскі бацька скажэ на гэта?

Міхась. Цяпер тата ні пускаець мяне у Менск, але, як ажанюся, буду жыць па свойму.

Юлька. Я вам пекне падзякую.

Міхась. Пабачыце, паненка.. там будзе у нас жыццё.

Юлька. [Засароміушысь]. Што вы кажэце?

Міхась. Я ні сьмяюся. Тата сыпне нам грошы. [Цмок яе у руку].
Юлька. Што вы робіце!...
Міхась. [Да сябе]. Агонь, ні дзяучына. Дальбог!
Юлька. Пусьціце мяне, мне трэба ісьці!
Міхась. Дайце іщчэ ручку.
Юлька. Будзьце здаровы (Бяжыць).

## ЗЬЯВА VI-ая.

Міхась (адзін). Вось так дзяучына... з ей пагаварыць можна. Дасюль, бывала, кожная паненка, так сабье мяне с панталыку, што і разяулюся і слова ні выгавару. Мусіць толькі добра яна мяне упадабала, калі мы так з ею спазналіся. Эх, я тут скорэнька спраулюся, аж тата задзівіцца. А гаварыу ен мне, калі я ехау: (Адзіраецца). «Помні, баранная галава, каб без жонкі ні варочауся, бо калі шесты гарбуз да хаты прывезеш — пяць, бачыце, ужо прывез—то усыплю табе (азіраецца). пяцьдзесят бізноу, і гамрэш старым мальцам»; і яшчэ гаварыу: «Глядзі, каб ні была лішне маладая і старой ні бяры, бо захочэ нас вадзіць за нос». Ажно тут папалася паненка у самую меру, толькі суседзі будуць глядзець і аблізывацца, гледзючы!

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Міхась і Язэп.**

Язэп. Ха, ха! зразу згадау хто ты: такі твар, такі нос—чысты бацькаускі нос.
Міхась. Ні іначай Язэп Карыто?
Язэп. Так, дзетачка, так. Але якжа-ж ты сюды прыехау Міхаська?
Міхась. Дык як,—на каламашцы, паночку.
Язэп. Ды я ні аб тое кажу. Ты зьявіуся да нас усе роуна, як з дажджом, і ніхто цябе ні бачыу уходзючы.
Міхась Чаму ніхто? Тож я і гаварыу з васпанавай дачкой.
Язэп Гаварыу ужо? Зух, удалы малец. Толькі парог пераступіу, ужо дзеучатам галаву дурыць.
Міхась (зухуючысь). Го, паночку, да мяне бабы, як мухі да меду. Я, паночку, раз у Леплі...
Язэп. Э, што было у Леплі, то было. Ты кажы, як упадабау Адэльку?
Міхась. Дужа упадабау!
Язэп. Пацешыу мяне. Удалая дзеучына, даліпан?

Міхась. Удалая, даліпан. Упадабау яе за тое, што ні такая язычлівая, як другія дзеучаты, што зараз с чалавека кпінкі строюць.

Язэп. А ты-ж ні умееш сам каля дзеучат хадзіць?

Міхась. Ні дужа добра, бо дасюль найбольш каля быдла хадзіу.

Язэп. Вось і спомніу, як твой бацька дванцаць гадоу таму прыслужыуся мне...

Міхась. А ведаю, ведаю; бацька аб гэтым расказываець, калі толькі пару знайдзе.

Язэп. Падумай сабе—гнау я валы на кірмаш у Вільню, аж тут як ухопіць мяне хвароба у Дзісьне, ні рукою, ні нагою. З валамі некуды дзецца,— ні стаяць-жа з імі у Дзісьне? А паслаць з імі німа чалавека. Ажно, скуль ні вазьміся: твой бацька. Я яго іщчэ і ні знау. Ен пагнау валы у Вільню. (Ласкаве). Як пагляджу я на цябе, то усе гэтыя валы прыпамінаю. (Абнімаюцца). Рад я дужа, што табе сталыя жонкі да упадобы.

Міхась. Отож-то, ні люблю я такіх папенак, што вечна рагочуць, зубы высківаюць.

Язэп. І я так сама. Я люблю бабу, калі ей поукапы стукнець. Тады яна ні блазніца, розум маець.

Міхась. А сколькі-ж папавай дачцэ гадоу.

Язэп (папярхнуушысь). Ей гадоу... мінула 23...

Міхась. Вось так штука. Ніколі ні падумау-бы!

Язэп. А мінула, мінула ужо.

Міхась. А я думау, што ей ні больш за 18 гадоу.

Язэп. Отож-то. З вока ні дасі ей больш. Што-ж дзівіцца—маладая, рухавая. О, будзе твая жонка, як гарэх. А што пачцівая, за гэта я галаву аддам.

Міхась. Дам веры.

Язэп (Ідзе да дзьверэй Адэльчынай станцыі). Адэлька, хадзі жыва! Пан Міхал чэкаець цябе, ні даждэцца. [Да Міхалкі]. Яна ураз прыдзець. А ты мусіць і ні сьнедаушы, а? кажы прауду?

Міхась. Прауда, ні сьнедаушы.

Язэп. І чалавек с цябе, Міхась,—сядзіш і нічога ні кажэш, што галодны. Зараз дамо пасьнедаць. [Ідзець у правыя дзьверы].

Міхась [адзін]. Аж у вушах бурчыць, столькі пагаварыу. Ага, нехта ідзе, нейка старая кабета, ні іначэй цетка панны Язэпавай дачкі.

## ЗЬЯВА VIII-ая.

Уходзіць **Адэля**, **Міхась** прэцца да яе, цалуець у руку.

Адэля (да сябе). Які шпаркі! (У голас). Вы, мусіць, прысталі з дарогі?

Міхась. Не, дзякую вам, спау усю дарогу.

Адэля. Як-жа-ж вы упадабалі нашу старонку?

Міхась. Дужа упадабау. Асабліва бульба пекная.

Адэля. Ато-ж вы тутака казалі, што спалі усю дарогу?

Міхась (засароміушысь). Гэта, бачыце, праўда, але хвурман разбудзіу мяне бульбы паглядзець.

Адэля. То з вас, мусіць, заядлы гаспадар?.. Сядайце, будзьце ласкавы!

Міхась. Дзякую вам, пані дабрадзейка. (Сеу здалек).

Адэля [строючы міну]. Сядайце бліжэй!

Міхась. Дзякую, мне і тут добра.

Адэля. Я-ж вас прашу!

Міхась. Дзякую. [Сядае пры ей на лаві].

Адэля. Ці добра здароу ваш бацька?

Міхась. Дзякую, пані дабрадзейка, [цмок у руку]. добра, толькі дужэ многа есьць.

Адэля [да сябе]. Маладзенькі! Нічога ні разумеець. [У голас]. Але-ж гэта ні шкодзіць.

Міхась. Не, ні шкодзіць, бо-ж і мае за што добра есьці.

## З Ь Я В А IX-ая.

**Тыя самыя. Язэп.** Хлапец нясе сьнедаць.

Язэп. Ага, папаліся! Брукуеце, сеушы адзін пры адным на лаві. [Да Міхася]. Ах, ты баламут!

Адэля. Да душы, брыдка!

Язэп. Міхаська ураз на лаву і рамансуець?.. ці ні так?

Міхась [задзівіуся]. Што вы, паночку, яж нічога...

Язэп. Сядзі ціха! Яж гэта люблю, я-ж люблю, калі кавалер умеець дурыць галаву дзеучатам.

Міхась. Што вы, паночку, я-ж, далібог, нічога...

Язэп. Ні вырабіпся. Сядай сьнедаць. У нас гавораць: «Высьпіся, наесіся, а тады гавары».

Адэля. Просім сядаць. [Міхась хочэ есьці с канца, Язэп садзіць яго пры Адэлі].

Язэп. Сядайце разам, адзін пры адным!

Міхась. Калі тутака скразьнік, я сяду гэттака, на проціу. [Сядае проціу Адэлі].

Язэп [па-ціху]. Ага, жэужык, хочэш сядзець напроціу, каб лепей было тэлеграмы пасылаць.

Міхась. Я ніколі тэлеграм ні пасылаю сьнедаючы.

Язэп. А калі-ж?

Міхась. Найчасьцей у вечар, дабрадзею.

Язэп. Ну, і жэужык ты, скажу іпчэ раз, Міхась. У вечары, кажэш, змеркам?..

Міхась. Не, паночку, ні па-поцемку, пры агні.

Язэп. Пры агні, пры агні. Хай цябе качалка, а то-ж зух малець, то сьмех—чысты бацька!

Адэля [да сябе]. Штукар малец. [Да Міхася]. Ешце-ж больш на здароус.

Міхась. Дзякую вам. [Да сябе]. Што яны лапочуць?

Язэп. Еш, Міхаська. Што гэта? няужож с кахання і есьці ні хочэш?

Адэля [скромна]. То пан Міхал закахаушысь?

Язэп. Што! Увяз у каханні па самыя вушы.

Міхась [засароміушысь]. Што вы... што вы!..

Язэп. Ага, пачырванеу. Ні вырабішся цяпер. Ну, і штукар ты!

Адэля. Ешце, будзьце ласкавы, для мяне зрабіце гэта.

Міхась. Дзякую, ні здолею больш.

Язэп Ці бачыш, глядзіць у тваю талерку. Знаю я гэтыя жарты і гулі кахання. Ведаеш што, Адэлічка? падсунь яму кусок с сваей талеркі.

Адэля. Калі ні важусь, татанька.

Язеп. Калі любіш мяне, зрабі гэтак. Глянь: у яго вочы, аж гараць.

Адэля (засароміушысь, падае сваю талерку). Вазьміце!

Міхась. Далібог ні магу!

Язэп. Ага, ен хочэць, каб ты свасй рукой дала ему кавалак проста у зубы. Зрабі гэтак, зязюлька.

Адэля. Калі стыдаюся.

Язэп. Ні стыдайся. Вось гэтак! (Адэля бярэ на вільцы кавалак мяса: Міхась нічога ні разумеючы, лупіць вочы на яе).

Адэля. Вазьміце!

Міхась. Дзякую!

Язэп. Раззяуляйся барджэй! (Міхась разявіуся). Зацьмякай-жа цяпер! Так, мае галубочкі, кахайцеся! Я стары пайду адсюль, бо дзе двое, там рада, дзе трое, там здрада. Вы, маладыя, лепш уладзіцеся самі... Зух малец, ніхай яго маланка! (Выходзіць са сьмехам).

## ЗЬЯВА Х-ая.

**Адэля** устае ад стала, **Міхась** сядзіць пры стале, як калода.

Міхась (да сябе). Што гэтаму староту сталося? Чаго гэта ен так выляцеу? Чаго нас адных пакінуу? Няужо-ж нам у дваіх скончыць гэту пячонку?

Адэля (да сябе). Сядзіць пры стале, то дурны! (Кашляе).

Міхась (да сябе). Сухвоты яе душаць, ці што?

Адэля [да сябе]. Трэба зачаць гутарку. [У голас]. Вось і асталіся адны...

Міхась (устае). Пані дабрадзейка, я пайду адсюль, калі вам патрэба.

Адэля. Чаго-ж вы,—заставайцеся. Адно толькі паненцы ні пекне заставацца самой с кавалерам...

Міхась. А якая-ж тут паненка у пакоі?

Адэля (да сябе). Што ен гаворыць. (Да Міхася). Што вы гэта мяне ні відзіце?

Міхась. Віджу, бачу вас, пані дабрадзейка, я-ж, дзякуй Богу, ні сьляпы.

Адэля. Чаму гэта вы да мяне гаворыце «пані дабрадзейка».

Міхась. Як-то? Як-то чаму? С пашаноты.

ЗЬЯВА X-ая.

**Тыя-ж** і **Юлька** уходзіць, стаіць паодаль.

Адэля. Нягож вы ні маеце для мяне яшчэ нічога, апроч пашаноты?.

Міхась [да сябе]. Гасьцінца хочэць. [У голас]. Я-ж ні с кірмашу еду.

Адэля. Ой, гэта кепскія жарты!

Міхась. Кепскія жарты?

Адэля. Каб мой тата быу тут, дау-бы вам за гэта.

Міхась. Ваш тата? То ваш тата ішчэ жыу?

Адэля [зазлаваушы]. Ну, гэта ужо лішнія жарты!

Юлька [да сябе]. Ен ні ведае, што гэта пана Язэпава дачка.

Міхась. Выбачайце, пані дабрадзейка, але я ні ведаю, чаго вы сварыцеся.

Адэля. Ні ведаеце?

Міхась. Ваш бацька, мусі, дужэ стары чалавек?

Юлька (ціха да Міхася). Перастаньце, гэта-ж дачка пана Язэпа.

Міхась. Ці прауда?!

Адэля (са злосьцю). Досі ужо тых жартау, што вы строілі сьнедаючы, але гэтыя ужо цераз меру кепскія! (Адходзіць).

ЗЬЯВА XII-ая.

**Міхась** і **Юлька**.

Міхась. Так гэта дачка пана Язэпа? А я думау, што гэта ваша цетка...

Юлька. У самую пору перасьцерэгла я вас.

Міхась. Дзякую вам пекне. Толькі цяпер сьцяміу я: то-ж пан Язэп гвалтам сватау мне яе за сьнедавнем.

Юлька. То-ж вы і дзеля гэтаго прыехалі сюды.

Міхась. Вядома, але-ж ні дзеля старой дачкі, калі есьць меньшая і харашэйшая (кланяецца Юльцы).

Юлька. А то-ж у пана Язэпа адна дачка.

Міхась (задзівіуся). Адна, а хто-ж вы будзеце?

Юлька. Я,—Юлька, тутэйшая пакаеука.

Міхась. Па-ка-еу-ка...?

Юлька. Але, пакаеука.

Міхась. Чаму-ж вы мне гэтаго раней ні сказалі?

Юлька. Я ні думала, што вы палічыце мяне за панскую дачку.

Міхась (у перапузе). Ой-ой, то-ж цяпер мне трэба жаніцца с гэтай старой кабылай.

Юлька. А ужо-ж так выходзіць.

Міхась. А сколькі-ж ей гадоу?

Юлька. Ні ведаю.

Міхась. От так жонку прывязу да хаты!

Юлька. Чаго-ж зажурыуся? То-ж вам німа ніякой прынукі з ею жаніцца.

Міхась. Як не? То-ж калі бацька ні дасьць веры, што яна была старшая за мяне, то мне будзе так... (Паказывае у паветры, як сьцебаюць).

Юлька. Ні выдайце мяне, то я вам дам раду.

Міхась. Прауда?! За гэта я завязу цябе у Менск, што ты так упадабала.

Юлька. Добра. Будзьце добрай мысьлі, а тымчасам бывайце здароу, нехта ідзе (бяжыць).

## ЗЬЯВА XIII-ая.

### Міхась, Язэп і Адэля.

Язэп (зачынаець за сцэнаю). Супакойся, Адэлічка, гэта былі толькі жарты...

Міхась. Ой, аж з душы прэць! (Стаіць з боку).

Язэп. «Хто любіцца, той чубіцца,»—гэта ужо старая прыказка. (Цягнець яе з гвалтам).

Адэля. Я гэтаго ніколі ні забудуся!

Язэп. От, знашла аб чым думаць! (Угледзеушы Міхася). Глянь, стаіць як авечка, чуець, што лішне сабе пазволіу, але, як ажэніцца с табою, папрапавіцца. Ці-ж ні так, Міхаська?

Міхась. Прауда, пане. (Да сябе). А Юльці німа!

Язэп. Ні гневайцеся-ж ужо, загаварыце адзін да аднаго.

Адэля (Спусьціушы вочы). Я ужо выбачаю.

Язэп. А ты, Міхась, прасі выбачыць, скажы-ж, што нічога дрэннаго ні зрабіу, от, жарты як у маладых, прасі-ж выбачыць.

Міхась. Прашу выбачыць, павна Адэля!

Язэп. Цяпер ладна. Пацалуйцеся добра. (Цягнець Міхася). Хадзі, ні спрэчайся: жарты строіць умеець, а цалавацца стыдаецца.

Міхась. Дальбог не...

Адэля. Што вы, тата, робіце?!

Язэп. Гэта ужо мае дзело. Ну, пачынайце, я стану задам, ні буду глядзець. Ужо?

Міхась (да сябе). Далібог ні магу!

Язэп. Ужо?!

Адэля. Ні так скора, нам-жа стыдна.

Язэп. Ужо ні сьцярплю чакаць. (Міхась і Адэля цалуюцца).

Міхась (у старану). Тфу!

Язэп. Гэтак то люблю. Цяпер можэце, усе роуна, як па запоіпах сабе казаць «ты» проста, (Убачыушы што німа Адэлі). Ага, уцекла, засаромілася, зязюлька!

Міхась. Ніхай яе немач, такую зязюльку!

Язэп. А што, Міхась, салодка было цалаваць?

Міхась. Здаецца, крышку трухой пахнець.

Язэп. Што? Мая дачка трухой пахнець?!

Міхась. Да ні дачка, пячэвне.

Язэп Так ты і зразу гавары, а то я хацеу ужо злаваць.

Міхась (да сябе). Паспытаем яшчэ апошнюю раду. (У голас). Які пан пасаг дасі за дачкой?

Язэп. Ага, хочэ канчаць, упадабау маю Адэльку.

Міхась. І гэта прауда. Ды і бацька наказывау мне, каб ні жаніуся без пасагу пяць тысячау.

Язэп. Ні бойся, Адэльцэ дам пад падушку дзесяць тысячау.

Міхась (да сябе). Німа ужо ратунку!

Язэп. Уцешыуся! А я табе яшчэ скажу: з унукамі гультаваць ні будзеце, то яшчэ накіну.

Міхась (астаткам сіл). Што воліце, дачку, ці дзесяць тысячау?

Язэп. Ні згадаю, нашто табе гэта патрэбна ведаць, але калі прыдзецца выбіраць, то-ж лепей дачка, чым дзесяць тысячау.

Міхась. А маркотна вам будзе без дачкі?

Язэп. Што-ж рабіць, прывык я да гэтай шчэбятухі, але ужо нічога ні зробіш.

Міхась. Чаму нічога! Дайце мне дзесяць тысячау, а я вам пакіну дачку.

Язэп Ха, ха, ха! Табе усе жарты у галаве, а каб я цяпер прыстау да цябе... аддай Адэльцю, то ты бы яе і за мілен ні аддау. Раскажу я ей усе, вось будзе сьмеху, ха, ха, ха! (выходзе).

Міхась (сам). Якія-ж тут сьмехі, якія-ж тут жарты! Я усе гэта зрабіу-бы за дарма, каб ні баяуся бацькі: ніхай тата даведаецца, што вырабілася ад мяне паненка на дзесяць тысячау пасагу, то жыцця мне у хаці ні будзе... А гэта Юлька дурыла галаву, што паможэ мне, —ні яе гэта сіла, смашны жабе гарэх, ды зубоу Бог ні дау. Ось Юльцю узяу-бы за жонку, каб ні баяуся бацькі... Чаму-ж гэта ні яна дачка пана Язэпа...

## ЗЬЯВА XIV-ая.

### Міхась і Юлька.

Юлька (уходзіць; ціханька да сябе). Стаіць, зязюлек, маркотны і ні ведаець, што я для яго раду маю.

Міхась (убачыушы Юльку). Прышла-ж такі? Ты-ж гаварыла, што мне паможэш, ажно я блізка што посьля запоін.

Юлька. Ужо? якім парадкам?

Міхась. Прыпер мяне пацалаваць яе, тфу!

Юлька. Ну і што?

Міхась. Ну і пацалавау.

Юлька. Смачна было?

Міхась. Ей то смашна было, аж аблізалася.

Юлька. Куды-ж вы яе пацалавалі?

Міхась. Ну куды-ж—у лупы.

Юлька. А што-ж яна?

Міхась. От, быццам засаромілася і уцекла.

Юлька. А калі-ж вяселле?

Міхась (у перапузе). О-ей! Няужо-ж мне трэба жаніцца, няужо-ж німа ужо ратунку?!

Юлька А што-ж, калі пацалавалі, то па закону, значыцца, па праву, усе прапало.

Міхась. І што-ж мне было рабіць? Сама яна выставілася, а бацька стаяу нада мною, як чорт над грэшнаю душою...

Юлька. Ну і чаго-ж замаркоціліся? Будзе у вас жонка, гаспадарка...

Міхась. Ніхай яно прападзець, з гэтакай гаспадаркай. (Салодка). А ты, Юлька, будзеш у нас служыць за пакаеуку?

Юлька (шчырыць зубы). Абы паны мяне захацелі!

Міхась. (падсовываючыся да Юлькі). Мусіш служыць у нас, нам будзець весялей.

Юлька. А мне здаецца, што з гэтаго нічога ні будзе.

Міхась. Чаму так?

Юлька. Бо вы ні жэніцеся з маей паненкай.

Міхась. Ага, ні ажанюся!

Юлька. Я-ж вас выратую.

Міхась. Як, як??

Юлька. То-ж вы казалі: вашаму бацьцэ трэба даведацца, што панна Адэля старэйша за вас.

Міхась. Гэта праўда, але што далей?

Юлька. А калі вы яго пераканаеце?

Міхась. Чым-жа яго пераканаць?

Юлька. Мэтрыкай.

Міхась. Але мэтрыку трэба мець у руках, а лягчэй вырваць з зямлі дуб сталетак, чым мэтрыку у старой панны.

Юлька. А што будзе, калі я дастану?

Міхась (у радасьці). Што ты! толькі без жартаў, бо я чуць ні плачу з радасьці.

Юлька (паказываець паперу). А гэта што?

Міхась (адбірае ад яе паперу). Праўда, мэтрыка! (Чытае). Радзілася у 1871 годзі... Ей 38 гадоў. Хадзі, Юлька, пацалую, адплачуся я табе, завязу цябе у Менск!

Юлька. Толькі-ж ні кажыце, што мэтрыку я дастала!

Міхась. Добра, добра... 38 гадоў... Добрая рэч гэтыя мэтрыкі!

## ЗЬЯВА XV-ая.

**Гэтыя самыя. Язэп** уходзіць і чуе апошнія словы.

Язэп. Якія мэтрыкі? аб якіх мэтрыках тут гутарка?

Юлька (тузае Міхася за рукаў). Маўчыце-ж!

Міхась. Э, гэта конскія мэтрыкі. Юльця ні даець веры, што коням пішуць мэтрыкі.

Язэп. Вядома, кожны заводны конь маець мэтрыку. То у цябе конская мэтрыка у руцэ?

Міхась. Але, гэта маей кабылы мэтрыка.

Язэп. Каштанкі?

Міхась. Гэтай самай, каштанкі.

Язэп. А што ж, кабыла нічога, спанаравілася мне.

Міхась. Дапраўды? (Да сябе). Старая, падла, і сьлепая.

Язэп. Ведаеш, што я скажу табе: есьціка у мяне такая самая кабыла, і ніяк пары ні знайду, можэ паменяем?

Міхась. Чаму-ж не, меняцца коньмі я люблю; скажыце прывесьці яе.

Язэп. Чаму не. (Праз вакно). Зьмітрук! хадзі сюды!

Зьмітрук (за вакном). Што пану трэба?

Язэп. Вывядзі каштанку пана Міхала пад вакно, ведаеш катору?

Зьмітрук. Каб ні ведаць...

Язэп. Упадабау кабылу: мусіць пекная і рослая.

Міхась (да сябе). Ну, і пазнауся! (У голас). Так, паночку, гэта зграбная, шпаркая, чыстая канінка, добрая вам будзе пара.

Язэп (глядзіць у вакно). Вось і вядуць тваю кабылку.

Міхась (да сябе). Ужо буду хваліць яе так, як ты сваю дачку.

Язэп. Упадабау! і рысь добрая.

Міхась. А пекная, як абразочак!

Язэп. Ну, ужо як абразочак. Ці ні залішне, Міхаська? А сколькі ей гадоу?

Міхась. Чатэры годы мінуло. (Да сябе). Старая падла.

Язэп. Чатэры годы мінуло, гм... А сколькі хочэш за яе?

Міхась. Дайце мне 200 рублеу і пару да мае шпачкі. (Да сябе). Падкавау ужо я яго.

Язэп. Зяцю дам ужо 150 рублеу і пекнаго коніка да твае шпачкі, добра? с палы на палу!?

Міхась. С палы на палу! (Да сябе). Сам ашукауся.

Язэп. На грошы, каб зразу скончыць.

## ЗЬЯВА XVI.

**Тыя самыя**. Уходзіць **Зьмітрук**.

Зьмітрук. Паночку!

Язэп. А што?

Зьмітрук. Кабыла гэтаго пана разбіла сабе галаву.

Язэп. Калі-ж гэта?

Зьмітрук. А вось цяпер. Мы яе пусьцілі, а яна, ідучы да стайні, ударылася галавою аб слуп і скалечылася.

Язэп. Якім парадкам?

Зьмітрук. Да такім парадкам, што гэта кабыла сьлепая.

Язэп. Як гэта, чатэры годы і сьлепая?

Міхась (да сябе). Вось усьцешыцца тата, як скажу яму усе гэта.

Зьмітрук. Да ей ужо з 20 гадоу: ні воднаго зуба...

Язэп (да Міхася). 20 гадоу, а што ты казау: мінуло чатэры?

Міхась. Мінуло чатэры годы, як вашай дачцэ 23.

Язэп. Ты с кім маю дачку раунуеш!

Міхась. Я так таргую коньмі, як вы дачкой.

## ЗЬЯВА XVII-ая.

**Тыя самыя.** Уходзіць **Адэля** і стаіць пры дзьверах.

Адэля. Што тут за крыкі?

Язэп. Я-ж вам ні сватаю сьляпой дачкі!

Міхась. Хоць іжчэ ні сьляпую, але старую.

Язэп. Што? як вы сьмееце?

Міхась. Але, сьмею, бо маю мэтрыку панны Адэлі у руках!

Адэля (ідзе уперад). Татачка, які-ж грубіян!

Язэп. Цяпер хоць на каленках прасі, дачкі ні аддам!

Адэля. І я ні пайду за такога.

Язэп. Падам цябе у газэты. Усе жыцце будзеш старым мальцам!

Міхась (у дзьверах). Вось напалохау! Што-ж вы мне зробіце, калі я газэт у рукі ні бяру? Юлька! едзем!

---

**(З а с л о н а).**

---

*КАНЕЦ.*

А. Валодзьскі.

# Як яны жаніліся.

(Ж А Р Т).

Вольны пераклад **ВЛАСТА**.

# ЯК ЯНЫ ЖАНІЛІСЯ.

**А С О Б Ы:**

ЗАБЛОЦКІ—удавец, 55 гадоу, загадчык хору, жвавінькі, лысы.

ГАННА—яго дачка, маладая дзяучына. Пяе у хоры у бацькі.

ЗАЙЦЭВІЧ, кандуктар.

ЖЛОБА, панок, гадоу 35, ходзіць у шляхоцкай шапцы.

УЛАСЕНКО—друкар.

АЛУБЕЦ—штабны пісар.

Дзеіцца у паветовым горадзі.

Сцэна прэдстауляе садок Заблоцкаго. На права, з-за дрэу, відаць вугал хаты Заблоцкаго, ганак. На дзьверах хаты візытовая картачка і званок. З заду паркан і фортка. Сьцежка. Здалеку відаць горад: цэрквы, дзе-ні-дзе будоуля, бляхай крытая. Дзень ясны.

## ЗЬЯВА І-ая.

**Зайцэвіч** (адзін).

(Спачатку німа нікога. За сцэнай недзе здалеку іграюць „Разлуку").

Зайцэвіч (с кветкамі у руках бяжыць да дзьвярэй. Пазваніу раз, другі). Гм, гм! Німа. (Ідзе да вакна). Панна Ганна! Панна Ганна! Анелачку мой!.. Німа! Гм... Гм!..

## ЗЬЯВА ІІ-ая.

**Зайцэвіч** і **Алувец.**

Алувец (с цукеркамі у руках, пазваніу раз, другі). Дзіуна!.. (Глядзіць у дзюрку ад ключа, клічэ). Панна Ганна! Панна Ганна! Золатко мае! (Убачыу Зайцэвіча). О-о! І вашэ тут ужо?!

Зайцэвіч. І я тут ужо.

Алувец. Чаго-ж вы сюды прыперлі ды ішчэ і с кветкамі?

Зайцэвіч. А вас чаго прыперло сюды ды ішчэ і с цукеркамі?

Алувец. Я люблю салодкае!

Зайцэвіч. А я люблю пахучае!.. Слухайце вашэ, як вас?!.. Чаго вы мосьціцеся, чаго падлізываецеся? Я ведаю, я ужо даведауся, што гэта вашэ да грашай, да пяці тысячау молішся!

Алувец. А вы? Чыя-б казала, а чыя-б маучала!

Зайцэвіч. Ні крыюся, усім кажу: люблю я Ганну і за душу яе шчырую, і за стан гібкі, і за...

Алувец. І за грошы...

Зайцэвіч. І за грошы! Ні перапыняйце мяне! За галасок яе звонкі. Пабачым ішчэ, хто возьме!

Алувец. Ну, ведама, пабачым. Курчатак у восені лічуць.

Зайцэвіч. Я ні маю саусім ахвоты гаварыць з вамі.

Алувец. І я з вамі ні маю ніякай ахвоты гаварыць.

Зайцэвіч. Як сабе хочэце!

## ЗЬЯВА III-ая.

**Тыя-ж** і **Жлоба.**

Жлоба (нешта прыпевае здалеку).

Зайцэвіч. Во, ішчэ адзін галыш прэцца і так сама да грошэй панны Ганны.

Жлоба (пазваніу). Гм! Німа! А-а! Сябры! Пазьбегаліся так рана, што яшчэ і багатай маладой дома німа,—аж двое за раз. Адзін с кветкамі, бо ні спадзеваецца на свае сілы, а другі хочэ абласаваць салодзенькім. А я, як бачыце, без нічога. Вусы, шляхоцкая кроу, езда па заграніцах, французская ды італьянская мова—вось у чым мая перавага над вамі. Я пэвян, што усе вы ні пойдзеце о рэтур, пассэ, алле.

Зайцевіч. Э, пужайце сабе на здароуе, лайцеся сабе, колькі улезе, а такі... такі свайго дабьюся...

Алувец. Ды і я ні дурань!

Жлоба. Пабачым, хто будзе жаніхом, хто да венца пойдзе. Ага!

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Тыя-ж** і уваходзіць **Уласенко.**

Зайцэвіч. Во, і чацьверты нумар!

Алувец. Пан друкаршчык.

Жлоба. Ніякога чыну, адна, можна сказаць, акурачка чужая.

Зайцэвіч. Безбілетны пасажыр.

Жлоба. Памыуся-б лепей, а то увесь мурзаты.

Алувец. І ен, зауважце, туды-ж лезе, і ен заглядаецца. Ха-ха-ха!!

Зайцэвіч. Да грошы мосьціцца.

Уласенко. Каму што, а курыцы ячмень! Чаго вы прычапіліся да мяне? І гаварыць з вамі ні варта.

Жлоба. Ды мы ведаем, мусье друкарня, што з намі німа што час траціць.. Ен, яго благародзе, да панны Ганны... Ха-ха-ха!

Уласенко. Ні лезьце асой у вочы. (Пайшоу).

Жлоба. О рэвуар!

Алувец (у сьлед). Дыліжанс! (Усе трое ходзяць, прыпеваючы сабе пад нос).

Зайцэвіч. Хіба пабегчы на сустрэчу?.. (Пабег).

Алувец. Уцекаю і я!... Бывайце здаровы! (Пайшоу).

Жлоба. Ах, вы цукернікі!.. Пабеглі... Набрэшуць там маей маладой, што я голы, як ліпка, і тады бывай здарова жонка с пяцью тысячамі! На уздагон, на уздагон! (Пайшоу).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Заблоцкі, Ганна** с ключамі, афішай—ідуць с садку.

Заблоцкі (яшчэ за сцэнай). Вось які сорам! Сьмех на сьвет увесь!

Ганна. Татачка дарагі, ні прыпамінайце, хай яго там!... Супакойцеся.

Заблоцкі. Калі супакоіцца ні магу ніяк! Колькі жыву на сьвеці, з роду ні чуу, каб гэтак можна было зьневажыць загадчыка хору. Бас... той самы, валовы... як яго... Жлукта, каб цябе курыца брыкнула!.. Папсавау канцэрт увесь... Адчыні хату! Дачка, памятаеш, як добра пеялі?.. Якое было пьянісімо—як-бы муха праляцела і то чуваць было-б, а якое фортэ было! Гэтак хараша пеялі і... на табе!.. Прынясі мне вады.

Ганна. Супакойцеся, татачка, забудзь, ні вернецца (Ідзе і хутка вертаецца з вадой, нотамі і скрыпкай).

Заблоцкі. Як-жэ забыцца аб гэтым? Ніколі ні забудуся! Дачушка, што-ж мне рабіць з гэтым?

Ганна. Забыцца.

Заблоцкі. Забыцца! Забыцца, як той бык зьнівечыу канцэрт мне! Забыцца, як той бык заместа. „А хто там ідзе“ пацягнуу на увесь голас. «Ці ні дудка мая». Забыцца! Ні магу-ж я забыцца! Помніш, як хараша пеялі, як актаву Барыла гракатау гучна, як ты зацягнула соло, як твой галасок лунау, як салавейкава песьня! (Пье ваду). Даю тон на «А хто там ідзе»... пачынаем.. А гэты вол, Жлутка, як той Піліп с канапель: «Ці ні дудка мая»... Ой, дай яго сюды, я яму гарлянку разьдзяру на двое, як Самсон калісь...

Ганна. Ды ні прыпамінайце. Што з возу упало, то і прапало—ні вернецца. Прагані яго, тата, дый годзі!..

Заблоцкі. І гэты Жлукта наважыуся... зяпнуць на усе горло «Ці ні дудка мая». Ажно камэртон вываліуся з рук... Добра, што уцек, а то я-бы яму нос адгрыз.

Ганна. Ды годзі, тата! Дайце лепей я прасьпеваю перад вамі, бо сягоння нядзеля, і я буду сьпеваць у чайнай. Вось і скрыпка і ноты.

Заблоцкі. А тут яшчэ, як наумысьля, твае кавалеры былі у салі, як стары Заблоцкі сароміуся перад імі. Зачыні фортку. Гэта, пэуна, капэлля тваіх кавалерау была тут... «А хто там ідзе?... «Ці ні дудка мая»...

Ганна (зачыніла фортку). Ну, пачнем. Прачытайце вось, якая я знаменітасьць.

Заблоцкі (чытае афішу). «Як паехау сын Даніла» запяе Г. Заблоцкая. «Ой, пайду я лугам, лугам»—запяе Г. Заблоцкая... Пачатак роуна а восьмай гадзіне. Друкаваць пазваляецца... Глядзі-ж, дачка, ні асаром мяне!.. Ну, пачнем. Пакланіся... так, так! Ноты у рукі!.. Так, так!... Кветачку белую прышпілі!.. Ну, пачнем. «Як паехау сын Даніла».. (Ганна сьпевае. Заблоцкі часам падыгрывае на скрыпцы ды падсьпевывае.. Скончылі).

Заблоцкі. Калі спадабаецца, другі раз прасьпеваеш на біс... А, праўда, добрая рэч?

Ганна. Добрая!

Заблоцкі. І ні цяжкая, а як доуга гаруем!.

Ганна. Галава баліць.

Заблоцкі. Што, ты хвора? Ні бойся, кажы...

Ганна. Ад думак галава баліць.

Заблоцкі. Ад якіх думак?

Ганна. Якіх?.. ды так!...

Заблоцкі. Ні крыйся, кажы!

Ганна. Вы, тата, бачыце, што да мяне тут залецаюцца, жаніцца хочуць...

Заблоцкі. Бачу, мая ты кветачка! А і запрауды ад гэтаго можна захварэць.

Ганна. І друкаршчык, і кандуктар, і гарадзкі паніч, і маскаль...

Заблоцкі. Усякаго стану...

Ганна. У мяне галава баліць ад думак. І ні ведаю, чаму гэта зразу наляцело жаніхоу аж стольні?

Заблоцкі. Як мухі на мед!

Ганна. На красу, дык ні так я ужо і хароша.

Заблоцкі. Другая прынада есьць—пяць тысяч пасагу. Ведаеш: на голы кручок рыбкі ні зловіш, і без пасагу нічым жаніха ні прынадзіш. Палажыу я грошы на твае імя у банк ды неяк ні нарокам пахваліуся, вось цяпер даведаліся, і жаніхоу, як сабак, поуна.

Ганна. А хто вам, тата, больш падабаецца?

Заблоцкі. Ведаеш—кажуць, што свату першая чарка, або першая палка. Баюся, каб па маіх старых плечах ні папалося палкай. Нічога табе ні скажу. Сама прыглядайся, у душу заглядай... А Жлукта, бугай гэты, каб яго багавіца, заместа «А хто там ідзе»—«Ці ні дудка мая». Га! Бяры ноты, сьпевай «Ой, пайду я лугам». (Ганна сьпевае, Заблоцкі іграе).

## ЗЬЯВА VI-ая.

(Калі Ганна сьпевае, зьяуляюцца: **Зайцэвіч, Жлоба, Алувец, Уласенко.** Слухаюць... Як толькі Ганна скончыла пеяць, усе пляскаюць у далоні—брава, брава, біс!).

Заблоцкі. А-а! Цэлая капэлля, цэлая аудыторыя контрамарачнікау! (Усе адразу падаюць Заблоцкаму рукі, той бярэ іх усе разам двумя рукамі. Уласенко вітаецца за руку з Ганнай).

Алувец. Шаноунаму пану рэгенту! З нядзеляю! Бег да вас... с сьвятамі...

Жлоба. А з мяне мала дух ні выперло,—усе хацеу першы прывітаць вас, талентны маэстро.

Заблоцкі. С чым? Пэуна, чулі канцэрт «А хто там ідзе»?

Алувец. Пачакайце,—спачатку палагаецца кавалеру прывітаць кветку нашу, панну Ганну.

Жлоба (да Ганны). Шчыры паклон і пашанаванне.

Зайцэвіч. Ні ем, ні сплю, а усе бачу вас адну, дарагая, любая, ясная зорачка, сэрдэнько, сэрцо, усе такое.

Заблоцкі. С чым-жа хацелі вы віншаваць мяне?

Алувец. Такі хор, такі дзіуны хор! Проста, так сказаць вам, ваенны аркестр.

Жлоба. У Італіі німа такога! Дзе-е та-ам!

Заблоцкі. Ды вы чулі, пэуня, як сьпевалі сягоння «А хто там ідзе?»

Алувец. Чулі.

Жлоба. Чулі, ні лезьце. Чулі!.. Слухалі!..

Заблоцкі. Спадабалося?

Алувец. Гармонія!

Жлоба. Проста у хмары цягне.

Алувец. Стройнасьць, вывучка, хоць-бы табе хто зьбіуся!. А ваш галасок, (да Ганны) як той званочак!

Жлоба. Вы, паненачка, проста прымадонна, а хор ваш гэта італьянская опэра...

Заблоцкі (сьпевае). «А хто там ідзе»...

Алувец. Бацька і матка мае кланяюцца вам нізенька.

Заблоцкі. «А хто там ідзе...»

Зайцэвіч. У мяне мала што ні пасыпаліся сьлезы—так хараша было, так хараша!

Уласенко. Так прысмна было, як-бы вы, пане Зайцэвіч, везьлі цэлы вагон зайцау.

Зайцэвіч. Ні забегайце наперад, ні перапыняйце, калі гаворуць старшыя за вас.

Заблоцкі. Вы ні знаемы, пане кандуктар? Гэта наш друкар—Мікіта Уласенко.

Зайцэвіч (падае адзін палец) Асобам без чыну я падаю толькі адзін палец...

Уласенко. Маеце вам здачы паупальца.

Зайцэвіч. Груба і па-хамску!

Уласенко. Якая пашана, такая і падзяка. Як з намі, так і мы з вамі. (З-за вакна чуваць „Разлука“).

Ганна. Пойдзем усе разам, паслухаем!

Заблоцкі. Ні бауся, дачка, бо абед хутка!

Ганна. Мы скорэнька вернемся. (Алувец і Зайцевіч ухапілі Ганну пад рукі. Жлоба с пераду. Пабеглі).

Заблоцкі. Ну, а вы ні любіце слухаць музыкі?

Уласенко. Не, люблю, толькі ні люблю грамадой хадзіць.

Заблоцкі. Так, так!.. Чулі вы сягоння наш канцэрт?

Уласенко. Чуу, бадай і ні успамінаць! У нас у горадзі адна толькі і есьць уцеха—гэта ваш хор, бо тэатру беларускаго німа, а яны... Эт! Вы сееце пахучыя кветкі, а па вашай ніве топчэцца усякая паскуда і толькі псуе вашу працу. Так хараша пачалі было сьпеваць, чароуна, маліцца хацелося, забыцца аб усім на сьвеці, а тут найміт на жарты пусьціуся.

Заблоцкі (цалуе яго). Дзякую, што хоць вы адзін ды прауду кажэце... А-а!.. годзі аб гэтым думаць. (Змоук). Як-жа вы жывеце цяпер?

Уласенко. Жывем і спадзеваемся лепшаго, працуем да крывавых мазалеу, і што дня прыслухаемся да бяды людзкой. Пане Заблоцкі, будзьце ласкавы сказаць: ці магу я спадзевацца слова ад панны Ганны?

Заблоцкі. Хіба-ж я маладая, што вы пытаецеся у мяне? Пагаварыце з ей, а мая хата с краю... Схадзіце лепей да сястры маей, ніхай падаюць абедаць, бо, чуеце, ужо сунуцца жаніхі і, пэуна, усе галодны. Будзьце ласкавы!

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Ганна, Зайцэвіч, Алувец, Жлоба і тыя самыя.**

Заблоцкі. Шчасьлівая ты, дачка! Цэлае стадо жаніхоу у цябе, усе на услугі твае... капэлля...

Зайцевіч. Капэлля, толькі безгалосая.

Уласенко. Абы ні доугарукая! (Пайшоу).

Зайцэвіч. Ідзіце сваей дарогай. Да пабачэння, пане друкаршчык! (Зайцэвіч гутарыць з Ганнай).

Алувец (да Заблоцкаго). Я вас прашу на пару слоу у хату.

Жлоба. І я маю да вас інтэрас. Пойдзем у садок!

Заблоцкі. Ды ці-ж вы мяне разьдзерці на двое хочэце, ці што?

Жлоба. Пойдзем, талентны маэстро, у садок, у мяне да вас есьць сэкрэт.

Алувец. А я прашу вас у хату, у мяне так сама сэкрэт.

Заблоцкі. Памалу, памалу, бо вы мяне чыста разьдзерыце. (Пайшлі у хату). Па чародзі кажыце, чаго вы ад мяне хочэце?

Ганна. Ні падабаецца мне тое, што вы кажэце. Ні добры вы!

Зайцэвіч. Памыляецеся! Я дужа добры чалавек. Як на сьвет нарадзіуся, цэлых пяць дзен ніхто ні ведау—хлопчык я, ці дзяучынка?.. Ну, ды ні у тым справа... Што-ж тут дзіунаго, калі мы пабяромся—вы мне аддасьце свае грошы на гасьцінніцу...

Ганна. Выходзіць, быццам вы ні мяне бярэце, а мае грошы; ні мяне за жонку сабе, а маіх пяць тысячау.

Зайцэвіч. Бажуся перад вамі усім сьвятым, ні сваім кундуктарскім сьвістком, што кахаю вас без усякаго прыдатку. Каб мне трапілася асоба з грашмі, панначка с прыдаткам, але я-б гэту асобу—панначку—ні любіу, то лепей забіу-бы самога сябе, на рэльсы кінууся-б, чым-бы меу ажаніціся з ей. Ды вы, я бачу, згаджаецеся са мной. Гасьцінніца—гэта мая старая дауная думка. Я чалавек практычны...

Ганна. Аб каханні вы мне мала кажэце, а усе аб грошах. Вось Уласенка, паніч той, Алувец...

Зайцэвіч. Цэлае стадо сьвістуноу!.. Да вяселля яны вам пяюць аб каханні, падлабуніваюцца, а пасьля возьмуцца за вас, як за безбілетнаго пасажыра, і каханне, як дым у паверты, дзе і дзенецца. Вы думаеце, што шчыра кахаюць вас, вось тыя жаніхі? Ды ніколі у сьвеце! Яны хочуць толькі заграбіць вашых пяць тысяч. Жаніх ваш, нумэр чацьверты, друкар той... ха-ха-ха!!. Мяне смяшыць... Ні рожы, ні кожы, як кажуць маскалі, ха-ха-ха!

Ганна. Ні сьмейцеся. Ен чулы чалавек, працавіты, шчыры...

Зайцэвіч. Дзівуюся я, што вы мяне рауняеце, ставіце на адну дошку з асобай без чыноу, без усякаго полеру...

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Ганна, Зайцевіч.** Уваходзіць **Заблоцкі.**

Заблоцкі (да Зайцэвіча). А хадзіце, вашэ, на хвілячку сюды! Горо мне з гэтымі жаніхамі!.. Горш, чым з дачкамі!

Зайцэвіч. Як ні шкада мне вас пакідаць, мае сэрцо, мае золато, але-ж трэба пайсьці. (Пашоу у хату).

## ЗЬЯВА IX-ая.

**Ганна** сама. Уваходзіць **Алувец.**

Алувец. Я цяпер вольны і ваш увесь. Ваша сэрцо, як вецяр, вольнае... і я!.. і я!.. і вы!.. і я хачу мець сопрыкаснавеніе з дзевіцай, каторая вольна, як той вецяр, што нясецца далека, далека...

Ганна. Што вы там начауплі такога?

Алувец. Зразумейце-ж мяне. Як вам шчыра кажу, рапартую, як... Жыць без вас ні магу: два разы вы сьніліся мне і тры разы папсавау казенныя паперы, напісаушы заместа «прошэніе»—«Ганнуся». Гэта вы нарабілі так!.. Вы можэ думаеце, што я хачу вашых грошы... Забій мяне пярун, хай я згнію на гауптвахце, як мне ні патрэбны,—ні трэба мне вашых грошай... Скажыце, прамоуце, ці магу я з вамі нясьці ланцуг Гімэнэя?

Ганна. Наказалі, намалолі паутара засеку.

Алувец. Не угодно-ль мармеладу?

Ганна. Дзякую!

Алувец. Ежце!

Ганна. Посьля, па абедзе.

Алувец. Хе-хе-хе!... Ішоу я вось цяпер да вас і бачу панначку у пачтова-тэлеграфнай—тэлеграммы прымае. Адзін сьмех бярэ.

Ганна. А я думаю паступіць на якую небудзь службу.

Алувец. О, вы—другая справа! Ха-ха-ха! Ці ні будзеце ласкавы закурыць?

Ганна. Што гэта вы?

Алувец. А вось курсісткі кураць. Ежце мармелад.

Ганна. Ні хочу!

Алувец. Ну, як-жа будзе? Няужо-ж я вам ні ясна кажу аб каханні? (Робіць позу). Прашу пакорна сдзелаць завісяшчае распараджэніе: палюбіць мяне. І цяпер маучыце? Ага! Дагадываюся. Аба мне нагаварыу вам Жлоба, што у мяне быу той раманс с шутным вынікам с Карчэушчынкай—брэшэ, як той... Я тут ні вінават.

Ганна. Ды што вы кажэце?

Алувец. Гэта ен з зайздрасьці... ен зайздросны, як які небудзь... Падлабуніваецца да вас. Гэта жулік.

## ЗЬЯВА X-ая.

**Ганна, Алувец, і Жлоба.**

Жлоба. Хто жулік?

Алувец. Ні да вас гаворыцца.

Жлоба. То-то! Любая, дарагая панна Анна.

Алувец. А так, панна Анна.

Жлоба. Ведаем і без вас, што панна Іоанна. Ні разумею—да-гэтуль маучыце. Я бывау усюды па сьвеці... Бачыу італьяначак, французачак, а вы цягнеце... Канкурэнты мае, панно Аблоцка...

Ганна. Майго бацьку завуць ні Аблоцкім, а Заблоцкім.

Жлоба. Выбачайце,—забыуся... Кандуктар... ха-ха-ха! Ад кандуктара астауся адзін сьвісток. Зайцы зьелі!.. Быу кантроль і „фюць"—паляцеу, прагналі.

Алувец. Ні люблю, калі лаюць людзей. А вы аб гэтым дзе даведаліся?

Жлоба. А вы мне што такое? Спаведальнік? Спаведаць мяне хочэце! Я шляхціц, дваранін!..

Алувец. Ні забывайцеся, што і мой бацька ні якое там мурло, а губэрскі сэкрэтар.

Жлоба. Прашу быць асьцярожна са мной! Шчасьце вашае, што перад вамі панна Анеля...

Алувец. Ганна.

Жлоба. Ведаю... а то дау-бы вам, што і юхай умыуся-б. Другі канкурэнт вось маскаль, кіслая воуна. Фі, пісарышка! Люблю я вас шчыра; прашу, пане служывы, далей стануці; люблю я вас горача і чакаю слова, а не, то куля у лоб і памінай, як называлі!

Ганна. Стрэляйцеся, калі ахвота, бо такога жаніха мне ні патрэба...

Жлоба. Ага! Гэта усе з нагавору во гэтаго мужыка. Ды я цябе пад суд! Разстрэляю!

Алувец. Пакуль мяне разстрэляюць—куты твае прададуць. Праматауся у шчэнт.

Жлоба. Хто?

Алувец. Хтокала! Усім ужо вядома. Уся Кавалеука ведае, што усе пазакладалі, параспрадавалі. Усе дабро пойдзе с-пад малатка. Ніхто і капейкі ні верыць.

Жлоба. Паслухай ты, крупеня,—давядзі гэта!

Алувец. Давяду!

Жлоба. А ты—харошы! Уся Ганчароука ведае, што ты жывеш с Карчэушчынкай. Ага! ага!

Ганна. Што я чую?

Алувец. Брэшэш ты, як які небудзь... У мяне сьведкі есьць... Ні пазволю! Я на вочную стауку. Зьвяду усіх суседзяу!...

Жлоба. І я ні пазволю! Крупеня!

Алувец (крычыць). Абармот!

Жлоба (крычыць). Брахун!

Алувец. Сам ты брахун!

Жлоба. Фрынды-рынды з макам!

## ЗЬЯВА XI-ая.

**Тыя-ж і Уласенко.**

Уласенко. Людзі добрыя, чаго вы так паднялі гэткі гвалт? Ні сварыцеся... Я вас паміру!

Жлоба. А ты хто такі?

Алувец (да Уласенкі). Чаго ты лезеш сюды?!

Жлоба. Пайдзі, вымыйся перш!

Алувец. І ен пхнецца!...

Жлоба. І ен закахауся. Мурза!

Алувец. Заступнік!

Уласенко (да Ганны). Ідзіце вы адгэтуль у хату, хай іх нялегкая! (Ганна пайшла).

Жлоба (да Уласенкі). Ды я табе як дам за твае прамовы! Вы мяне мала знаеце!

Алувец. Шпак!

Уласенко. Вось табе і памірыу на сваю галаву!

Алувец. Забастоушчык! Вы толькі баставаць умееце!

Жлоба. Ніданосак! Буржуй!

Уласенко. Ну, яшчэ, яшчэ штось прыдумайце! Гар-гар! гір-гір! Ну, што яшчэ?

## ЗЬЯВА XII-ая.

**Тыя-ж і Зайцевіч.**

Зайцэвіч (уходзіць). Цішце! Цішце! Ды ці ні сорам лаецца! Памірыцеся! У чужой гасподзі ні гожэ.

Жлоба. А ты хто такі?

Зайцэвіч. Ні «ты», а «вы», хіба ні бачыце—кандуктар.

Жлоба. Быу калісь ім, а цяпер прагналі.

Зайцэвіч. А вы скуль гэта ведаеце?

Жлоба. Даведауся! І лезеце сюды, каб аблавіцца... Панна Ган... німа яе!..

Алувец. Ды і вы-ж да грашай! Знаемо вас.

Жлоба. Замаучыце, бо разстрэляю!

Зайцэвіч Ні вельмі! Вы у мяне прыкусіце язык.

Жлоба. Ні баюся я вас!

Зайцэвіч. Вы прывыклі цягацца па судох і сядзелі у халоднай за гашэнне сыгары у гарадавога на носі. Ведаем, ведаем усе чыста.

Жлоба. А твой бацька быу ганчар!

Зайцэвіч. Прауда, ганчар, ды ні пазычау грошы у люкаеу, як вы!

Алувец (да Жлобы). Мой бацька губэрскі сэкрэтар, а твой дзядзька глухі, як пень.

Жлоба. Разстрэляю, разстрэляю!!

Зайцэвіч. Прапаласкау бацькаушчыну.

Жлоба. Дакажыце! (Да Уласенкі). Будзьце сьведкай!

Алувец. А вы маім...

Зайцэвіч. Як вас завуць?

Жлоба. Я вас усіх разстрэляю, дайце мне стрэльбу, рэвальвер дайце мне!

## ЗЬЯВА XIII.

**Тыя-ж і Заблоцкі.**

Заблоцкі (вышау крыху раней, з газэтай). Вось што завялі! Замаучыце, хай вас хрэн!!. Чаго расхадзіліся? Вось беда, вось беда! Ні радзіся багатым, а радзіся шчасьлівым, Ой, людзі добрыя!..

Усе. А што там такое?

Заблоцкі. Слухайце, чытайце. (Усе чытаюць). «Менскі банк збанкрутавау».

Усе. Ну! Ну! Ну!

Заблоцкі. Вось і ну! Чым прагнявіу я Бога? Апошнія грошы, усе дабро...

Усе. Што такое?

Заблоцкі. Прапало пяць тысяч—увесь пасаг дачкі. (Змоуклі усе, перапужаныя).

Заблоцкі. І хто мне параіу! Праклятыя той дзень і гадзіна, калі паехау я... А усе нінажорліваесьць тая!.. Сем працэнтау у год.

Уласенко. Ды ві маракуйце! Вы зьбялелі... Яшчэ зьбярэце грошы.

Заблоцкі. Легка сказаць. Калі гэта іх зьбярэш? Пайду я да сястры з гэтай весткай. Хоць паплачэмо разам. (Ідзе у хату. Маучанка).

Алувец. Прапалі надзеі!
Зайцевіч. Вось табе й гасьцінніца!
Жлоба (да Уласенкі). Добры з вас чалавек, толькі без тытулу.
Уласенко. Ці вам яшчэ ні абрыдзело лезьці асой у вочы?

## ЗЬЯВА XIV-ая.

**Тыя-ж і Ганна.**

Ганна. (выходзіць с хаты выціраючы сьлезы. Адзетая, як у дарогу). Хто са мной пойдзе, хоць памаліцца за грахі? Я такая цяпер стрывожаная, што яшчэ, чаго добраго, захварэю! Хто-ж са мной пойдзе? (Падходзіць да Алоуца, той уцекае, да Жлобы—і той уцекае; да Зайцэвіча—той уцекае).

Алувец. Ая-яй!!. Якое нішчасьце трапілося! Ая-яй!!. У мяне быу знаемы крамнік... вось як раз гэтак сама трапілося. І што-ж? Павесіуся з гора! А то, служыу я да ваеннай службы па почці, тады... Загаварыуся я тут з вамі, а у мяне смотр!.. Бывайце здаровы, ні маркоццеся, с кожным можэ стацца во гэткае ліхо!.. Я, я чую... Бывайце! У мяне смотр, дый ні па дарозі нам. (Зьнік).

Жлоба (пяе). «Не плач, дзіця, не плач напрасна»! А я вам па праудзі скажу, па шчырасьці... ніхай вас кандуктар любіць! Выбачайце, панна Га... Га... Галіна... у мяне німа часу глядзець на чужыя сьлезы! А шчасьце было гэтак блізка! О рэвуар, о рэвуар! (Зьнік).

Зайцэвіч. Я службу кінуу... Я цяпер без мейсца. Сьлезамі сэрцо абліваецца... Я плачу і сэрцом і душой... Каб-жа мне, каб-жа я мог памагчы вам... я, я ні ведаю, што зрабіу-бы! (Пайшоу).

Уласенко. Ні праганяйце, ні чурайцеся мяне! За вялікае шчасьце буду лічыць ісьці поруч з вамі у жыцці.

Ганна. Дзякую вам! (Чула). А усе тыя мізэрныя людзі у цяжкую мінуту пакінулі мяне. Ведама стала, што іх цягнуло сюды, чаго яны тут хацелі. Дзякую вам! Вы для мяне найлепшы! Пойдзем-жа у дваіх! Ніхай глядзяць, а я цешыцца буду.

Уласенко. І над маім бедным, гаротным жыццем бліснуу цеплы, весьняны, сонечны прамень. (Выйшлі).

## ЗЬЯВА XV-ая.

**Заблоцкі** (адзін).

Заблоцкі. Ха-ха-ха! Вось падмануу, вось выдумау і разагнау капэллю жаніхоу! Гэй, дачка! друкарня! друкарня! вярніцеся! Ідзіце сюды! Ха-ха-ха!

## ЗЬЯВА XVI-ая.

**Заблоцкі, Ганна, Уласенко.**

Заблоцкі. Сядзіце дома ды языкі прыкусіце! Гэта я сумысьне падмануу усіх. Грошы цэлы!

Ганна. Няужо?

Заблоцкі. Другі раз лгаць ні буду. Лопнуу банк, ды толькі ні той. Слухайце! Ці любіце вы дачку маю?

Уласенко. Пытаецеся! Хіба-ж вы і так ні бачыце? Ды я усей душой, абы панна Ганна... Грошай мне ні трэба!

Заблоцкі. Дачушка! Таго?

Ганна. Ен мне падабаецца.

Заблоцкі. Ну, і цалуйцеся зараз мне, бадай усе добрае!..

Уласенко. Можна?

Заблоцкі. Ды годзі вам! Валяйце! Я вас блогаслауляю. Жывіце сабе добрэнька ды вяселінька, дзетак мне што найбольш, ды каб галасістыя былі! На старасьць у маім хоры будуць унукі. Свае альты, дысканты, а посьля басы, тэноры ды актавы. Чаго трасіце плечамі? Усе можна! Ды цалуйцеся, і Бог з вамі! Хадзіце у хату ды хоць пасьмяемся с тых во жаніхоу, с тэй капэллі! Эх, людзі! I усе дзеля грошы! У хату, дзеткі, за мной! Песьню вяселую зацягнем з радасьці! Хай іх нялегкая, грашай тых, бо яны толькі благое робюць на сьвеці! Дзеткі, за мной. (Абняу іх, пачынае песьню „Ой, урадзі, Божэ, пшанічаньку яру на удовіно шчасьце"! Ганна і Уласенко падцягіваюць).

## ЗЬЯВА XVII-ая.

**Тыя-ж** і **Зайцэвіч, Жлоба, Алувец.** (Ідуць вуліцай, абняушыся).

Зайцэвіч. Пане Заблоцкі! Бывайце здаровы! Мы жадаем вашэці назьбіраць другіх пяць тысячау.

Заблоцкі. На што зьбіраць? Грошы мае, дзякаваць Богу, цалюсенькія! Лопнуу банк, ды ні той.

Зайцэвіч (ногі у яго затрасліся). О-ей-ей!

Жлоба. Абдурылі!

Алувец. Ая-яй! (Заблоцкі, Ганна, Уласенко—сьмяюцца).

**(Заслона).**

*КАНЕЦ.*

М. Крапіўніцкі.

# ПА РЭВІЗІІ.

Камэдыя у 1-ой дзеі.

Перароблено з украі

# ПА РЭВІЗІІ.

**АСОБЫ:**

СЬЦЕПАН МІРАНОВІЧ—старшыня.

СЕВАСЬЦЯН САВВАЦЕЕВІЧ СКУБКО—пісар.

ПАНТУРЧЫХА—старая баба.

ГАРАСІМ—сьведка.

ПАРАСКА—салдатка.

СТОРАЖ пры валасьці.

(Усе дзеецца у валасьці).

(Сярэдзіна вялікай хаты. Стол накрыты зяленым сукном, на стале чарніліца, вялікая кніга і некалькі аркушау паперы. На рагу стала ляжыць пакет, запечатаны двумя печацямі, далей, з другога боку, меншы стол; на ем тры кнігі, каламар і паперы, каля столу крэслы, На сьцяне календар, каля уходных дзьвярэй—шафа с паперамі; каля сьцяны, дзе календар, лаука).

## З Ь Я В А І-ая.

### Стораж (адзін).

Стораж (сядзіць за сталом і прыглядаецца на шчоты). Ну, і як той пісар можэ выкласьці усякае дзело на гэтай штуцы? Ужо я колькі раз пробавау рабіць гэтак, як ен,—але ніяк ні выходзіць. «Во гэта, кажэ, семдзесят капеек. А гэта рубель дзесяць, а гэта будзе дзевяцьдзесят пяць». І нагаворыць, нагаворыць столькі грошай, што у тыдзень, здаецца, ні пералічыу-бы. От ен—цок, цок. Цок сюды, цок туды—і ні пасьпееш высмаркаць носа, як ен ужо і палічыу. Што гэта, падумаеш сабе, навука: да усякаго дзела спосаб дабірае. Ен, мусіць, вучыуся ні блізка: сам кажэ, што быу у Смаргоні, ну, а як я думаю, то ен быу за Смаргонем. Каго ні спытайся, усе кажуць, што с такой галавой можна дастукацца і да прыстава! Ну, а я думаю, што ен ні дрыгацьме і перад самым спраунікам. Як пачне казаць, дзе ен толькі ні быу і чаго ні бачыу, дык аж горло раззявіш. Англічанку ен табе бачыу. У Вільні быу аж два разы, а за морам-акіянам, дзе жывуць паганыя, і туды яго насіло! Быу нават у тых краех, дзе сьвінні большыя за нашы каровы... вядома, калі чалавек бывалы разскажэ табе, дык ты увесь сьвет і бачыш перад вачыма, як на далоні. Вось калі я далей Крэва ні быу, дык мне і здаецца, што за Крэвам ужо ні далека і канец сьвету. Ну, а ці падрахую, колькі мне засталася да канца году? Колькі-ж то дзен у годзі? Ці гэта будзе 200, ці не? Ну, гэта вось ніхай будзе ад Вадохрышча да Запустау. (Кладзе на

шчотах). А гэта ад Запустау да Вялікадня. А гэта да Семухі, а гэта да Пакроу... (Пауза). Ну, паглядзім, колькі-ж тут усяго набралося? (Пауза. Устае). Чорт яго ведае, як ні лічы, усе-ж нічога ні паказывае. Не, ужо калі ні поп, дык і ні убірайся у рызы! Трэба, мусіць падмясьці хату з нуды. О-хо,-хо! (пацягваючысь). Цяжкая доля мая! Сядзі цэлы дзень ды пазіхай. (Мяце хату). Ці загляне хто колечы сягодня у воласць? Яшчэ да дня нейкі чалавек прынес паперы ад пасрэдніка, ці што. Чэкау, чэкау распіскі ды і так паехау. Ідзі, кажэ, пашукай пісара, альбо сам распішыся. На!.. добра табе казаць «распішыся». Здаецца, быццам і ні вялікая штука павясьці пяром па бумазе, але ты мне хоць пальцы паадрэзай, то ні напішу. Колькі раз я брауся напісаць абы-што; украду гэта трохі паперы дый зачну вадзіць пяром, здаецца гэтак, як і пісар, і пяро мачаю у атрамэнт і так сама нарыхтуюся: чырк, чырк, а яно чорт ведае, нічога ні выходзіць.

## ЗЬЯВА ІІ-ая.

**Сторож**, уваходзіць **старшыня**.

Старшыня. Каб мне за поугадзіны коні былі перад ганкам! Чуеш? Каб мне—як маланкай спаліць! Сягоння трэба мне канешне у Куляшы ехаць па рэвізіі.

Сторож. Калі-ж коні далека... на пашы.

Старшыня. Ну, дык што?

Сторож. Дык мне за імі бегчы, ці што?

Старшыня. А ты як думау? Ці гэта табе першына?

Сторож. Дык яно...

Старшыня. Зноу насьмярдзеу махоркаю? Колькі раз казау табе, каб ні сьмеу у прысуцтві курыць гэтаго паганаго тутуну?

Сторож. Насьмярдзеу... Я нават забыуся, які той тутун на масьць. (У бок). Як жа-ж! Заграніэчнаго табе буду купляць! Вельмі пэнсію добрую плаціш!

Старшыня. Што ты там мармочыш?

Сторож. Дык яно... Каб як барджэй дабыць да году,—ніхай яго чорт возьме, каб я застауся яшчэ служыць у гэтым пеклі...

Старшыня. Ну, а як закамандую на сходзі, каб цябе зноу выбралі за стоража?

Сторож. А ужо-ж—калі сход захочэ, тады ні адкажышся служыць.

Старшыня. Так яно і будзе! Я табе яшчэ учора прыказывау, каб коні рана былі тутака каля ганку.

Сторож. Учора? Дык я вас учора і у вочы ні бачыу. Прауда, у панядзелак вы мне казалі, каб былі коні... так што-ж,—прастаялі яны увесь панядзелак і ва уторак да палудню, а вы і ні паехалі.

Старшыня. Маучаць! С кім ты разгаварываеш? Распусьціу язык... Сказау табе, каб як маланкай спаліць!

Сторож. Дык мне-ж усе роуна. Я і пайду, але калі я добра ведаю, што вы і сягоння ні паедзеце.

Старшыня. Ну, ну, ні вельмі многа гавары. Пашоу па коні, сьвінячая морда!

Сторож. Пэуне-ж так...

Старшыня. Ціха! Мусіць хочэш, каб я табе па мордзі заляпіу?!

Сторож. Ці-ж гэта першына, ці што? Бійце, на гэта вы начальство... (Выходзіць, у дзьверах застанауліваецца і кажэ). Ось дзе папера... нейкі чалавек прывез... Такі сабе спрытны, з барадою, і шалік натта добры на шыі...

Старшыня. Бяжы па пісара!

Сторож. Куды там! Яго цяпер і с сабакамі ні зловіш, ен яшчэ пазаучора паехау у веску кумаваць.

Старшыня. Каб ен мне у момэнт тут быу!

Сторож. А па коні хто-ж пабяжыць?

Старшыня. Ну, жыва! Каб адна нага была тут, а другая там! Як маланкай спаліць!

Сторож. Ото-ж напасьць! (Пайшоу).

## ЗЬЯВА III-ая.

**Старшыня** (адзін).

Старшыня (распечатывае пакет). Ад каго гэта можэ быць? (Чытае па складах). „Прэдпісываю оному волостному правленію прыняць энергічэскія меры“... Якія? Няргічэскія? А ну, што далей? (Чытае). «к скорэйшэму составленію сістематічэскаго указателя і категорычэскіх»... Не... віхай ужо, як пісар прыдзе, то хіба у двох разбяром. Сам я яшчэ да гэтаго ні даехау. От, калі напішуць, што шукаюць пару коней,—гнядых, ці с плямаю на лбе, альбо як паявіцца ліхая хвароба на каровах, тады я ужо добра ведаю, што мне трэба рабіць: узяу тую паперу ды сунуу далей пад сукно. (Пахадзіушы трохі па хаці). Што, што, але сягодня канешне трэба ехаць па рэвізіі! Дзе-ж гэта пісар падзеуся? (Сплювае). Цьфу! як дрэнна с пахмелля! (Глядзіць у вакно). Эгэ... ужо і сонцо паднялося высока, а у мяне яшчэ нічога нават у роце ні было. А можэ паслаць за поубутэлькай?.. Яшчэ да дня прачнууся, дык так штось ні добра, а у сярэдзіне пячэ, і у бок штось коле. Пагана, натта пагана! Кепска што дня піць... Учора піу,

пазаучора піу... Ага! Які гэта у нас сягодня дзень? (Глядзіць на сьцяну, дзе вісіць календар). Што гэта? Першае кастрычніка? Дык гэта на том тыдні было. Э... ні люблю я безпарадкау! Казау колькі разоу пісару, каб што дня адрываць лісткі, каб часам ні патраціць дзен; для гэтаго і калірндар наумысьле купіу. А тут стаіць першае акцября. А на першае акцября, на Пакровы, я быу на кермашы. От табе і страцілі дні! Ага, пачэкай! Як гэта было? На тым тыдні, у пятніцу, прыежджау асэсар... Так, асэсар... У нядзелю сабрауся сход... У вечары прыехалі да мяне мае кумы: «матушка» і дзячок... Так... У панядзелак гуляу цэлы дзень; а пад вечар прыехау поп... Ну, а далей ішчэ што было? Было ішчэ шмат гасьцей. Старшыня с Грышкавіч з жонкаю, пісьмавадзіцель земскаго з жонкаю... Добрая у яго жонка! Яна мне штось разоу пяць падмаргнула. Дык як ей і ні падміргнуць мне? Яна сьвежая, маладая, кроу з малаком, а ен—чалавек нейкі плюгавы. Добра яна гэту песьню сьпевала:

«Эй, кужэль, кужэль ты мой,
«Я ні спраулюся с табой.
«За кужэль—рука трасецца,
«А за чарачку бярэцца».

Пападзьдзя наша добрая; якія яна штукі вырабляе! Завяла моду, каб кожны, хто каго пачастуе, каб зараз пацалавуся... і пашлі частаваць адзін аднаго. Матушка з дзячком цалуюцца, а я с пісьмовадзіцеліхай. Але-ж якія у яе гарачыя губы... Натта салодка яе цалаваць. Хаця-ж яно і так, але-ж ей далека да Параскі—салдаткі. От, дык маладзіца! Як агонь гарачая; як ідзе сялом, дык ажно зямля дрыжыць пад ею. Э... каб ей, каб ей... шкода, што я жанаты! А то ужо як начальнік, зараз сюды яе і як... маланкай спаліць! На тым тыдні, у сераду у ночы, трохі-трохі ні ускочыу... Толькі адно падышоу да хаты Параскі ды пачау памаленьку стукацца, ажно старая Пантурчыха с свае хаты: „А хто гэта, пытаецца, лезе да салдаткі?» А я гэта сагнуушыся ды памаленьку і давай Бог ногі—уцек; а яна цкаваць сабакамі... Хай яго чорт возьме—той рабы сабака то-ж за малым ні адкусіу лыткі. Трэба будзе пратакол напісаць, каб яна такога сабаку на ланцузе трымала.

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Старшыня.** Уваходзяць **Пантурчыха** і **Гарасім.**

Пантурчыха (пакланіушыся). Дзень добры! С пятніцаю дай Божэ добраго здароуя!

Старшыня (з жарам). А ці-ж сягодня пятніца?

Пантурчыха. А як-жа! Вядома, што пятніца, да ужо нават другая посьля Пакроу.

Гарасім (пьяны). Але, праўда!

Старшыня. Ці адно ні абмыліліся вы?

Пантурчыха. От табе і маеш—каб я дый памыялілася...

Старшыня Як-жа гэта так стала сягодня ужо і пятніца?

Гарасім. Бог яго ведае, як гэта стала...

Пантурчыха. А ужо-ж, пане старшыня, намяркуйце самі. У сераду ваша суседка, выбачайце, надла Ганка, сарочкі мыла у лузе. Я гэта прыбегла, да яе і кажу: ці-ж табе ні сорам ні ведаць, што у сераду сьвято, а ты сарочкі мыеш...

Старшыня. Што? у сераду было сьвято?

Герасім Але, праўда!

Пантурчыха. Але, як-жа-ж, сьвято. Сьвятога Хаты... Дык кажу ей: ці-ж табе ні сорам, калі-ж ты звалкуеш? І туточка вы, дай Божэ добрае здароуечко, выйшлі с хаты дый пачалі нас лаяць, яшчэ мяне самую так пагана лаялі. Мусіць хацелі, каб сваей сварбай ні мешалі вам гуляць, бо у вас было шмат гасьцей.

Старшыня. Нічога я ні прыдумаю. Ці ведаеш ты, старая, што у нас, у начальнікау, заусягды шмат работы?

Гарасім. Вядома, начальство... Ці-ж можна так?

Пантурчыха. Дык як-жа-ж мне гэтаго ні ведаць? Вы адзін, а нас усіх—глядзі колькі! Тутака трэба дзьве галавы мець! А ужо-ж і мой нябошчык, царство яму нябеснае, быу за начальніка, ці па-просту сказаць, за сьвінапаса; каля грамадзкіх сьвіней дык так, бывала, заклапоціцца, так заклапоціцца...

Старшыня. Ен, здаецца, ад гарэлкі памер?

Пантурчыха. Умер мой галубочак... Цераз гэтыя клапоты і піу...

Старшына. От цераз гэтыя самыя клапоты і я пью. Неяк на сэрцы лягчэй, як выпьеш...

Гарасім. Праўда.

Пантурчыха. А ужо-ж так. Гарэлка, вядома, адразу выцягне табе усе с-пад сэрца. Так і бачыш, як клапоты парай з горла выпірае... Так, так,—усе гэта было у панядзелак, бо ва уторак я была за «бабу» у Зосі Пухленчыхі і стуль прынесла вам яшчэ рабое кураня і прасіла на радзіны.

Старшыня Кураньо? От гэтаго даль-Бог ні успомню.

Пантурчыха. Яшчэ ваша жонка, дай Божэ ей добрае здароуе, узяла у мяне тое кураня і нават пачаставала півам,—дзякуй ей, повен кубак выпіла.

Старшыня. А на радзінах я быу?

Пантурчыха. Не, ні былі, бо вы адгаварываліся тым, што у вас былі госьці.

Старшыня. От ты гэтак заклапаціся, як іншы раз начальнікі!

Пантурчыха. А у сераду, як скончылася абедня (імша), дык да вас прыехалі госьці: бацюшка ды яшчэ нейкія людзі.

Старшыня. У сераду, кажэш?

Пантурчыха. Але. А учора я пасварылася с Параскаю, салдаткаю, дый прыходзіла да вас на жалабу.

Старшыня. С кім,—с Параскаю, кажэш?

Пантурчыха. А з ею, так.

Старшыня. Ты адно прауду кажы! Альбо падумала мяне зводзіць?!

Пантурчыха. Даль-Бог, прауду кажу. Я ей гэтаго ніколі ні дарую.

Старшыня. Божэ табе памажы, калі так. Гэтая справа натта цікавая.

Пантурчыха. Дык учора вы самі сказалі, каб я сягоння прыйшла, бо учора, дай Бог вам здароуе, вы былі пьяныя.

Старшыня Клапоты! Што у мяне, старая, тых клапотау! Дык выходзіць так, што сягоння пятніца? Дзякуй Богу, што хаця дзень знайшлі!

Пантурчыха. Дык тут ні то, што дзень забудзеш, а і есьці ні успомніш. У вас, пане старшыня, клопатау поуна галава!

Старшыня. Больш, як поуна галава!

Гарасім. Цераз галаву паліецца... Але, прауда...

Старшыня. О, паліецца! (Да Гарасіма). А ты-ж па якому дзелу?

Пантурчыха. А гэта мой сьведка.

Гарасім. Але прауда, пане старшыня...

Старшыня. Дык ты чуу, як яны сварыліся?

Гарасім. Але, прауда. Але як яны біліся, дык я ні бачыу. Па закону, значыць, па праудзі...

Старшыня. Пабяжы-ж, пакліч сюды Параску-салдатку, дык мы зараз і суд зробім.

Гарасім. Зрабіце праведны суд, як перад панам Богам. Бо яны праклятыя бабы. Ім абедзьвім трэба канешне, як той казау, „бярозавай кашы“, каб ні калаціліся больш. Бо яны халеры, але прауда, вашэ благародзе...

Старшыня. Вядзі яе сюды, каб як маланкай спаліць была тут, перад маімі вачыма!

Гарасім. Прывяду! А трохі пачакаць ні можна? А яе, халеру, зараз сюды. Пастау, кажу ей, гарэлкі з гарнец і будзе добра, ні

трэба і судзіцца. (Да Пантурчыхі). Казау, пастау гарнец, было-б добра. (Пашоу).

Старшыня. Дык ужо трэба і пісара пашукаць!..

Пантурчыха. Ой, пане старшыня, ужо лепей вы самі разьбярыце нашу справу.

Старшыня. Дык разабраць ні вялікая штука. Але-ж можэ мне трэба будзе доуга пытаць Параску? А тут трэба канешне зараз ехаць па рэвізіі. Можэ-б можна было пачэкаць з гэтым дзелам хаця да заутра?

Пантурчыха. Ой, пане старшыня, разьбярыце зараз, бо як ні разьбярэце, то я ні сьцярплю, я ей... (Шэпчэ яму нешта на вухо). Зрабіце ласку, разьбярыце канешне, я ужо як небудзь вам за гэта падзякую. Помніце, як яшчэ вы ні былі за начальніка, дык судзіліся с Хведарам за кажух? Ці мала тады я грэху на душу узяла?

Старшыня. Ну, што калі было, успамінаць ні трэба. Але што с табою рабіць?.. Дык кажы толкам, што у цябе з ею выйшло? Ці ні за пабіты гаршчок пасварыліся?

Пантурчыха. Ой, пане старшыня, калі усе сказаць, дык валасы на галаве падымуцца. Вы добра ведаеце, што мой гарод упіраецца як раз канцом у яе хату...

Старшыня. Ну?

Пантурчыха. Яшчэ мой нябошчык, царство яму нябеснае, вечны пакой яго душацы, ды усім змерлым вечная памяць!.. От, кажу, як мой нябошчык яшчэ быу жывы, дык выкапау роу проці яе хаты, каб зьвярнуць сьцежку з яе двара... Бо яна куды-бы ні йшла, ці у поле, ці у сяло, дык так табе і прэцца праз мой гарод.

Старшыня. Эгэ, пачакай! Як бачу, то гэта дзело натта цікавае. Ці маеш даказацельствы?

Пантурчыха (выймае пляшку гарэлкі і колькі абаранкау). Восека... ужо я добра ваш звычай ведаю.

Старшыня. От, можэ-б і ні піу сягоння, каб ні гэткае глаунае дзело...

Пантурчыха (частуе). Дык выпійце, пане старшыня.

Старшыня. А ужо-ж трэба выпіць, каб у галаве прасьвятлело... А ну, сама ужо выпі.

Пантурчыха. Дай Божэ усім нябошчыкам царство нябеснае, а жывым добрае здароуе! (Выпіла і падносіць старшыне).

Старшыня. Вельмі дзякую (выпіу). Цяпер ужо дзело стало ясьнейшае.

Пантурчыха. А ужо-ж так! Яно адразу у галаве штось заварушыцца. Закусіце-ж абаранкам (дае абаранак).

Старшыня. Што-гэта? бытцам штосьці у вуху дзілінькаіць?

Пантурчыха. Гэта мала выпіушы так дзілінькаіць. Выпійце яшчэ.

Старшыня. Дык пэуне. Чарка у цябе ні вялікая. Можна яшчэ па аднэй.

Пантурчыха. (Налівае). Я вам кажу, пане старшыня, што па маленькай нават лепей піць. Тож і людзі кажуць:

«Чарачка мая,
«Малюсенькая,
«Пацеш ты мяне,
«Мілюсенькая».

Дык выпійце.

Старшыня (выпіу). Ці дасі веры? Цяпер ужо у вуху ні дзілінькаіць. Як маланкай спаліць, замоукла.

Пантурчыха. Дык я ужо, ні вам кажучы, выпіла с тым с сваім сьведкаю. (Налівае). Дай жа-ж Божэ, каб ворагі маучалі, а суседзі ні зналі. (Выпіла). От, кажу, як выкапау мой нябошчык роу дык і пашла паміж нас што дня сварка.

Старшыня. Што дня?

Пантурчыха. А так.

Старшыня. Ну, так ужо мы і запішэм.

Пантурчыха. Як-жа ні што дня, калі я сваімі вачыма бачыла, як яна кожны ранак выносе ды высыпае попел у мой роу? Я яе як пачну лаяць, а яна маучыць, як-бы і ні да яе гавару.

Старшыня. Маучыць? Ну?!

Пантурыха. Вядома, маучыць, але-ж адно губы маучаць, а у сярэдзіне у яе так і кіпіць.

Старшыня. Ну, што у яе у сярэдзіне, дык гэта да дзела ні тычыцца.

Пантурчыха. І што-ж бы вы думалі? Гэтак што дня высыпаючы попял, зараўняла роу саусім. Дык я і пачала думаць, на якое яна ліхо высыпае туды попял? Ці німа тут якой штукі? Сяджу я гэтак на тым тыдні проці серады, ці проці ауторка... але, здаецца, проці серады, ці проці ауторка... але, здаецца, проці ауторка, бо у панядзелак хадзіла я па зелле у «Доугі луг». Але яшчэ вось што прытрапілося мне...

Старшыня. Што-ж такое? Ужо кажы усе да чыста, каб дзело было панятнае.

Пантурчыха. Адно я перайшла лагчыну, аж с-пад карча як выскачэ заяц і паляцеу з усіх ног. Каб мне язык адсох, калі брэшу.

Старшыня. Заяц, кажэш? Ці-ж гэта да дзела належыць?

Пантурчыха А як-жа ні належыць, калі гэта ні заяц быу?

Старшыня. Ні заяц! То што-ж там было?

Пантурчыха. Дык, кажу вам, што як схапіуся, дык з усіх ног паляцеу.

Старшыня. Дык ужо запісано, што паляцеу з усіх ног.

Пантурчыха. Дык вы думаеце, што гэта запрауды заяц быу?

Старшыня. Ну, а што-ж там?

Пантурчыха. Нячыстая сіла.

Старшыня. Гэта прауда?

Пантурчыха. Даль-Бог, прауда! Пакаціуся дый пакаціуся цераз гару! А я, як бачыш, тры разы перахрысьцілася дый сплюнула на левы бок.

Старшыня. А што яшчэ?

Пантурчыха. Як языком злізало... Вой, пачэкайце, што гэта я нагаварыла? (Думае). Ага, так.. вось набрала гэта я тамака зелля ды прынесла да хаты і пачала сушыць на прызьбе. А ужо ведама, як ідзеш па зелле ды калі перабяжыць табе дарогу заяць, то...

Старшыня. Дык што-ж тады трэба рабіць?

Пантручыха. А гэтаго ні можна казаць, бо як раскажэш, дык гэтае зелле хоць вазьмі ды выкінь.

Старшыня. Дык, значыцца, ні паможэ ні ад якой хваробы?

Пантурчыха. Э, не, ні тое. А ужо так, зьвяне, засьмярдзіцца, што нават і нос адвернеш. От, ужо як зусім сьцямнело, сяджу я сабе на прызьбе дый задрэмала, і сьнілося мне, што я маладая дый такая прыгожая, як кветка.

Старшыня. Ну, гэта ты пачала расказываць сон рабой кабылы.

Пантурчыха. Калі я была натта прыгожая, як была маладая, такая прыгожая, што ай-яй!

Старшыня. Брэшэш баба, гэтаго ты нават і у сьне ні магла бачыць!

Пантурчыха. Што-ж, ужо мінулося! Бывала за мной хлопцы так увіваліся, што аж платэ трашчэлі.

Старшыня. Дык гэта, пэуна, было яшчэ пры цару Батуры. Але пакінь ты гэтую брахню ды лепей дзело кажы.

Пантручыха. Ну, то слухайце-ж! От, я задрэмала. Аж чую нешта мармочэ мой Рабка. Вы-ж ведаеце майго сабаку?

Старшыня (у бок). Чаму не, і цяпер яшчэ лытка баліць.

Пантурчыха. У вауторак Аудоля, Гануліна нявестка, усе клікала мяне да сябе, каб я паглядзела тыя спадніцы, што нібыто іх парвау мой Рабка.

Старшыня. Дык яго Рабкам завуць? О, гэта трэба у пратакол запісаць!

Пантурчыха. Я была за «бабу» у сяле Вайбакох, і адтуль прынесла яго малюсенькім шчаняткам; тамака казалі мне, што будзе

патта сярдзіты; але-ж я яго нават і ні думала хаваць пад асінаваю бараной, каб быу сярдзіты. А ужо калі сабака сярдзіты, да яго ні схаваць найперш пад асінаваю бараной, дык зараз ведзьма возьме яго дый задушыць.

Старшыня. Задушыць? А ці-ж ні пара нам падліць трохі чарніла у чарніліцу, бо нешта кепска пішэцца.

Пантурчыха (налівае). Дай Божэ, каб усе было гожэ! А што ні гожэ, таго ні дай Божэ! (Выпівае і частуе).

Старшыня (выпіу). Добрая гарэлка. А у якой манапольцы бярэш?

Пантурчыха. А у «Чамялох».

Старшыня. Эгэ! адно такую мне і трэба піць. Ну, кажы ужо свае дзело мне да канца.

Пантурчыха. А ці ведаеце вы, што калі хто з людзей памрэ, крый Божэ, ні сваею сьмерцю дый яшчэ калі яго пахаваюць на выгані, то што ночы будзе хадзіць, пакуль ні убьеш у галаву асінавага кала? От, Максім Кушня як павесіуся, дык што месяц хадзіу пад вокнамі, я нават сама бачыла. От ходзіць, а далей пачне у комін дмухаць,—адно як дмухне, дык сажа па усей хаці і закурыць. Што-ж бы вы думалі? Мой нябошчык, царство нябескае яго душачцы, забіу асінавы кол, а я хадзіла дзевяць разоу, як сьвет, на яго магілу ды пасыпала яе макам, і тады ен перастау хадзіць.

Старшыня. Перастау? Канчай, канчай дзело... Што гэта ен Параскі ні вядзе?

Пантурчыха. Так гэта чую, хтось клічэ майго Рабку: «на, цюцю, на!» Слухаю, аж гэта яна прымапіла да сябе і дае яму штось с сваіх рук. Я да яе адзавалася: «А што ты, кажу, каб табе скулу пад бок, што гэты ты робіш? На што ты чужога сабаку гадуеш?»—«Каб знау мяне, кажэ, дый ні рвау». Як узялася я яе лаяць ды клясьці, а яна усе маучыць, усе дае штось Рабку есьці. Закрычала я ад злосьці: «Прападзі ты, чортава дачка!» дый плюнула: «цьфу»! (Плюецца).

Старшыня. Куды гэта ты плюеш? Сьвіначая морда, так і плюе проста на патрэт! Кажы далей!

Пантурчыха. Дык пайшла я у хату. Аж другой ночы сяджу я сабе на печы, а у мяне каля печы вакно, акурат проці яе дзьвярэй. Сяджу я, аж чую, мой Рабка на кагось брэшэ. Я гэта памаленьку да вакна, аж бачу, хтось пераскочыу цераз роу ды проста да яе; падышоу да дзьвярэй, пастукау і ціхутка кажэ: «адчыні».

Старшыня. Калі гэта было?

Пантурчыха. На тым тыдні, у сераду.

Старшыня. На тым тыдні? (У бок). От так штукэ! (Да яе). Ты сама бачыла?

Пантурчыха. А як жа-ж. Сваімі вачыма! Каб скрозь зямлю праваліласяя, калі брашу!

Старшыня (у бок). Дзяржыся, Сьцяпан! (да яе). А ці ні бачыла ты яго твару?

Пантурчыха. Дык што тут! Добра ужо усім людзям ведама. Нібы—то вы ні дагадываецеся?

Старшыня. Слухай, слухай, ты ні таго...

Пантурчыха. Але... не! Скажу жонцы, от і па усім...

Старшыня. Хіба-ж ты здурнела!?

Пантурчыха. Яна набрэхала на мяне перад усімі людзьмі, што нібы—то я украла у ея пеуня.

Старшыня. Якога пеуня?

Пантурчыха. Чорнаго, з жоутым хвастом.

Старшыня. Дык я нават підзе на двара ні бачыу такога пеуня!

Пантурчыха. Гэтак сама, пане старшыня, я і таго пеуня ні бачыла. А яна яшчэ зубы шчырыць: украла, ды украла... Я ей, шельмі, вочы выдзяру.

Старшыня. А у халоднай ты яшчэ ні сядзела?

Пантурчыха За гэтакую шэльму, за гэтакую нічапайку?

Старшыня. Брэшэш, старая, брэшэш! Скажы яшчэ адно паганае слово, дык я цябе пад дваццаць замкоу, як маланкай спаліць!

Пантурчыха. Ды каб мне пад дваццаць замкоу за гэту праклятую Язэпаву Параску!

Старшыня. Як гэта Язэпаву?

Пантурчыха. Кажу вам, што гэта Язэп да яе дабівауся.

Старшыня. Язэп?

Пантурчыха. Дык ен-жа, ен!..

Старшыня. Ты-ж так і кажы адразу. Разбалтай атрамэнт, а то штось вельмі густы.

Пантурчыха (частуе). Ен, запрауды ен! Так учора раніпька выйшла я с сваей хаты, аж і яна каля свайго парогу,—крышыць бацьвінне для халадніку. Я і кажу да яе: а які гэта чалавек стукауся да цябе у глухую ноч? Можэ, часам мужык вярнууся са службы? А яна на мяне як вылупіць вочы ды хоць бы слауцо сказала... ані-ні. Я яе стала сароміць, а яна маучыць! Ці табе кажу, ні сорам, ці табе ні грэх? Мужык твой Богу-государу служыць, можэ яму па табе маркотна, як той птушацы у клетцы, а ты вось як тужыш па ім, што чужых хлопцау пускаеш да сябе на-нач!» Яна слухала, слухала ды павярнулася да мяне патыліцаю. (Шэпчэ штось на вухо). Каб я хварэла, калі ні прауда!

Старшыня. І сьведка ужо бачыу?

Пантурчыха. Яно сьведка ні бачыу, а толькі...

Старшыня. Ну, гэта дзело трэба добра разглядзець, трэба падмацаваць даказацельствамі...

## ЗЬЯВА V-ая.

**Тыя-ж.** Уходзяць **Параска і Гарасім**.

Параска. Дзень добры вам!

Старшыня. Здарова, галубка!

Параска. За якім гэта дзелам мяне паклікалі?

Пантурчыха. Як гэта ты лаела мяне старой бабай...

Старшыня. Маучы, старая, бо я тут начальнік. (Да Параскі). Ну, як-жа табе жывецца?

Параска. А жыву, як гарох пры дарозі! Хто ні ідзе, той ні скубе.

Пантурчыха. Бач, бач, якая зрабілася ціхая ды сьвятая...

Старшыня. Маучы, старая!

Гарасім. Кажу, пане старшыня, з імі чыстая бяда.

Старшыня. Маучаць! (Да Параскі). Дык кажэш, як гарох пры дарозі?

Пантурчыха. Ды што вы з ей цацкаецеся?

Старшыня. Дык ты мяне будзеш вучыць, як дапрос здымаць, ці што? Маучы, ані пісьні!

Гарасім (да Пантурчыхі). Маучы,—пан старшыня ужо разумеюць, як і што!.. Але, прауда.

Параска. За якім-жа гэта дзелам мяне клікалі? Даль-Бог, ні маю часу з вамі тутака жартаваць!

Пантурчыха. Да вечера яшчэ далека, пасьпееш набачыцца!

Параска. Ні лезь, баба, асвою у вочы, бо пры усіх людзях злаю.

Пантурчыха. Ты мяне лаець маеш? Дык яшчэ той на сьвет ні нарадзіуся, каб мяне пералаеу. Каб табе скулы селі на плечах!

Старшыня (да Пантурчыхі). Вон с хаты! Я сам адзін здыму з яе дапрос. (Выпіхае с хаты).

Гарасім. Бяда з імі, пане старшыня.

Старшыня (бярэ Гарасіма і Пантурчыху за плечы і выпіхае). Вон с хаты пад дзесяць чарцей!

Гарасім. Яны лепей разум...

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Старшыня** і **Параска**.

Старшыня. Ледзьве дождауся таго часу, што бачу цябе воко на воко.

Параска. Вялікае шчасьце!.. Але за якім дзелам мяне клікалі?

Старшыня. Сядай жэ-ж, Парася!

Параска. Чаго?.. ні хочу, я і так пастаю.

Старшыня. Каб ты ведала, якая ты пекная ды прыгожая.

Параска. Пекная ды прыгожая, але ні для вас.

Старшыня. Калі хочэш, дык спытай абы якую на сяле маладзіцу, усякая будзе рада, каб да яе старшыня хадзіу. (Пантурчыха заглядае у дзьверы, а далей бярэ сваю пляшку і выходзіць).

Параска. А да мяне ні прыдзе!

Старшыня. Запрауды? (Хочэ яе абняць).

Параска. Ну, рукам волі ні натта давайце, бо ні воднаго воласу ні застанецца у барадзе.

Старшыня. Дык ты гэтак з начальствам?..

Параска. А ці-ж вы на тое начальство, каб хадзілі да чужых жонак?

Старшыня. А у халодніцу ні хочэш?

Параска. Ні для мяне тую халодніцу будавалі.

Старшыня. Пабачымо. Э... дурная... Адно падумай добра, чым я ні здатны да цябе?

Параска. Хоць здатны, ды ні мой. Хадзіце да свае жонкі.

Старшыня. А да цябе?

Параска. Кажу вам, што дарма...

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Тыя-ж** і уваходзіць **Пісар** (пьяны).

Пісар (пяе):

«Сказау раз я куме:
«Кума дарагая!
«Прыгалуб, кума, мяне,
«Ні будзь гэтак злая.
«А яна мне тады:
«Эх ты, дурнаваты!
«Каб хаця быу малады,
«А то?—Вон із хаты!

«Але я ні такі:
«Цмок яе у губы,
«А яна—браткі мае!—
«Дала мне у зубы!»

Старшыня. От, чэрці яго прынясьлі!

Пісар. Сьцяпан Міронавіч! Як маешся, душачка мая, як здароучко?

Старшыня. Вы адно толькі вочы заліваеце, а тут дзела поуна галава!

Пісар. Усе атцястуем у найлепшым культурным стаянні... А, кумачка! За якім гэта дзелам экстрыным?

Параска. Запытайце іх!

Старшыня. А вы гэта калі пасьпелі накумавацца?

Пісар. Ні далей, як на 1-е акцябра, на Пакровы.

Старшыня. Дык яна ад гэтаго такая сьмелая, што ужо накумалася с памоцнікам свайго начальства...

Параска. Не... Я такі і з роду ні с палахліваго карча.

Пісар. Вы маю кумку ні важцеся крыудзіць, бо хоць я і ваш памоцнік, але магу задаць начальству такую цывілізацію, што ой-ой!

Параска. Яны ужо мяне і халоднаю пужалі..

Старшыня. Э!.. Адно пажартавау трохі!

Пісар. Халодная ніхай будзе халоднаю, а нам пара ужо нагрэцца. (Вымае пляшку і чарку). Кума, сядай! (Параска садзіцца). Сьцяпан Міронавіч, душа мая! (Частуе).

Старшыня. Не, мой міленькі, у мяне ужо і так круціцца галава, годзі ужо піць, бо сягоння трэба яшчэ ехаць па рэвізіі.

Пісар. Ліхо яе бяры! Ось вып'ем ды паедзем. Просім...

Старшыня. Тамака якаясь бумага прыйшла.

Пісар. Прачытаем і рэзолюцію накладзем. (Чытае пацiху паперу).

Старшыня. Аб чым там пішыцца?

Пісар. Адкацегораем усю сісьцему у свой час. (Кідае паперу пад стол). Ось і рэзолюцiя гатова.

Старшыня. Няужо-ж пад сукно? на цыгаркі?

Пісар. А няужо-ж. (Частуе Параску). Кума, чарачку...

Параска. Не, куме, дзякую.

Пісар. Як? ад мяне чарку гарэлкі ні вып'еш? (Сьпевае):

«Пій, кума, пій,
«І другім налій;
«Чаркі доуга ні трымай,
«Выпіушы, другім давай!
«Хто да дна ні выпівае,
«Доуга чарачку трымае,

«Таму сорам на увесь век,
«Той паганы чалавек».

Міласьці прашу!

Параска (троха адпівае). Ой, якая-ж пякучая!

Пісар. Усю, усю!

Параска (пье усю, пяе):

«Вось ужо выпіла
«І вам, куме, наліла.
«Ну, а якжа-ж цяпер будзе?
«Хоць раз вышла баба у людзі».

Старшыня (у бок). Як я бачу, каля гэтай маладзіцы трэба троха іначай заходзіць. (Да яе). Дык выпійце-ж ужо на міравую са мной!

Параска. Я-ж з вамі ні сварылася. (Зноу пье).

Пісар. Кума, у цябе хата вялікая. А я пасьля заутра мянінні́к. Вары, рэж, пячы! Твая страва, мае грошы і мае піво! Эх, Сьцяпан Міронавіч, як я бачу, ні умееш ты з бабамі рабіць дзела! Ці гэтак, кума? Кума, ні дзяржы чаркі! (Параска пье).

Старшыня. Дык і я прыду на мяніны.

Параска. Дык ведама, ні выганю-ж с хату.

Старшыня (пісару). Шэлесьцян Салатавіч!

Пісар. Севастьян Савватьевіч!

Старшыня. Усе роуна! Дайце сюды пляшку, я пачастую вашу куму!

Пісар (падае пляшку). „Пярэмеце“!

Старшыня (налівае і частуе). „Меркіце“!

Параска. Ой, гэта будзе ужо зашмат!

Старшыня. Нічога! Выпійце яшчэ!

Параска (выпіла). З нашае сястры усе ласкаю можна узяць. (Сьмяецца). От я ужо і пьяная!

Старшыня. Дык другую выпій, яшчэ да мяне.

Параска. Дык лійце хоць тры, хоць чатыры, ніхай адна адную паганяе. (Рагочэ).

Старшыня (налівае). А ну, трэба выпіць.

Пісар. А маладзец, Сьцяпан Міронавіч! (Ідзе да парога). Гэй, хто тамака? На пляшку, пабяжы да манапалькі, прынясі яшчэ дзьве.

Старшыня. А ну, сьмялей! (Хочэ пацалаваць).

Параска (бье яго па губах). Пашоу пад ліхую долю!

Пісар. Сьцяпан Міронавіч, нельга! Кума, пачынай песьню, адно такую, каб аж, аж... (Сьпевае).

Параска. Ні умею я такой! Ой, то-ж я ужо пьяная! (Рагочэ).

Пісар. Пачынай сваю, а мы с Сьцяпанам Міронавічам падцягнем.

Параска (сьпевае):

«Ой, выпіла, выхіліла,
«Сама сябе пахваліла,
«Бо я панскаго роду, } (двойчы).
«Пью гарэлачку, як воду.
«Ой, мой мілы памер, памер,
«Дый у каморцы дуду запер,
«А я пайшла муку брадь, } (двойчы).
«Дый пачала у дуду граць.
«Ой, ты-ж дуда, мая дуда!
«Я малада—туда, сюда!
«На прысядку дый у далоні, } (двойчы).
«Пайшла мука па каморы».

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Тыя-ж, Пантурчыха** і **Гарасім** уходзяць.

Пантурчыха. Бачыш, які яны тут дапрос бяруць?

Старшыня (да Пантурчыхі). Кажу табе мірыся, старая! А то я цябе, чортаву качаргу! Ведаеш мяне: як маланкай спаліць!

Пісар. Аб чым звада? На основанні якой стацці?

Пантурчыха. Выслухайце мяне, Шэлесьцян Салатавіч!

Пісар. Севастьян Савватьевіч!

Пантурчыха. Ой, пане, ні вымаулю я так! Што яна толькі зрабіла! Вы адно толькі падумайце! (Шэпчэ яму на вухо).

Параска. Ні гняві Бога, баба! Ці-ж я такі сораму ні маю?

Пісар. Ні можэ быць? Чыстае горо!

Гарасім. Настаяшчая бяда!

Параска. Што я павярнулася да вас патыліцаю, гэта прауда, але апошняе...

Старшыня. Памірыціся зараз! Дык вы-ж такі суседзі.

Голас (за дзьвярыма). Наце гарэлкі!

Старшыня. От як раз і міравая пасьпела! Гэта ужо наша. (Бярэ пляшку). А ну, хто шустрэйшы—частуй, бо мяне ужо троха разабрало.

Гарасім. Давайце сюды, я навяду парадак.

Пісар (бярэ пляшку). Ціха-ліхо! Сядай, старая, каля мае кумы! Лауку сюды прысуньце (Гарасім падае лауку). Так! Сьцяпан Міронавіч на покутнае мейсцо, каля мае кумы; ты, Гарасім, тутака!

Гарасім. Ось і сядзем! Але...

Пісар. Кума, пацалуйся са старой!

Параска (рагочэ). Чаму-ж ні пацалавацца?

Пантурчыха (с плачам). Ці-ж ты думаеш, што мне ні шкода цябе? Ты-ж такая маладая ды харошая, як якая галубка, німа каму цябе пашкадаваць, ні даглядзець! .

Пісар. Годзі старая, пацалуйцеся!

Гарасім. Пацалуйцеся.. Начальство прыказывае... Цалуйцеся, чортавы сарокі... Чыстая бяда з вамі! (Бабы цалуюцца).

Пісар. От і годзі! Ну, за мной! (Пачынае сьпеваць, за ім усе).

Ва саду лі в агародзе
Птушачкі пяюць. (двойчы).
Ой, там нашы бацькі,
Ой, там нашы дружкі
Гарэлачку пьюць (двойчы).

(Частуе Параску). Ну, кумачка, налівайце!

Параска. Міронавіч, выпівайце!

Гарасім. На здароуе!

Усе. Дай Божэ!

Параска (частуе старшыню). Цяпер ужо і вы выпійце да мяне дзьве чаркі!

Старшыня (саусім пьяны). Ад вас з ахвотай. (Пье дзьве чаркі).

Пісар. Сьцяпан Міронавіч! Душа мая, ні зваліся!

Старшыня. Дзяржуся, яшчэ дзяржуся! Параска, пацалуй мяне! Пацалуй начальство!

Параска. Ніхай трохі пасьля, трэба пачакаць. (Частуе Пантурчыху).

Пантурчыха. Ці-ж я цябе ні шкадую, мая галубачка! Заутра прыдзі да мяне, я табе і бурачкоу, і капустачкі, і бульбы...

Гарасім. Старая, ні задзержывай чаркі!

Пантурчыха. Дауней ні гэтак сьпевалі. (Сьпевае).

Ой, хто пье, таму налівайце,
Хто ні пье, таму ні давайце!
А мы будзем піць
І Бога хваліць
І за вас, і за нас
І за стару бабу,
Што нас навучыла гарэлачку піць.
Ой, хто пье, той крывіцца,
Хто ні пье, той дзівіцца.
А мы будзем піць, і г. д.

Пісар. Сьцяпан Міронавіч! Заснуу?

Гарасім. А ужо-ж... бо ім натта шмат клопатау, чыстая беда!

## ЗЬЯВА IX-ая.

**Усе тыя-ж і сторраж.**

Сторраж Коні гатовы!

Пісар. Ну, ужо сягоння годзі ехаць па рэвізіі!

Стораж. Ці-ж гэта зноу коні стаяць-муць?

Пісар. Ні твае дзело! Нясі сюды званок! (Стораж пашоу).

Параска. Хадзем, баба, да хаты!

Пантурчыха. Хадзем, мае дзіцятко!

Пісар. Пачакай, кума, паедзем катацца!

Параска. Дзякуй, куме. Кажуць, ній ды розум ні прапій! Дзякуй за чэсьць!

Пантурчыха. Я табе, мае дзіцятко, і фасолі і гуркоу дам... У мяне, дзякуй Богу, урадзіло...

Гарасім. Адно ні сварэцеся!

Параска. Бывайце здаровы! Бывайце здаровы Шэлесьцян Салатавіч!

Пантурчыха. Дзякуй вам, што пагодзілі нас! (Пантурчыха і Параска пайшлі).

Пісар (праваджае іх да парогу). Кума! Глядзі-ж адно, ні забудзь прыйсьці да мяне на мяніны!

Гарасім (як яны размауляюць, хавае пляшку і абаранкі) Чыстая бяда! Ім натта многа клапотау. За што яны біліся?..

Пісар. Аслабані канцылярыю!

Гарасім. Вось, як бачыш! (Падходзіць да старшыні і бармочэ яму штось на вухо; пасьля ідзе, замест дзьвярэй, у шафу; пісар выкідае яго за дзьверы).

## ЗЬЯВА X-ая.

**Стораж** прыносіць званок.

Стораж. Ну, і на што дауся вам гэты званок? (Дае).

Пісар. Ні твае дзело! (Пачынае званіць над вухам старшыні). Но, конікі! Вярні ужо на Чубасуку! Ды ворчыковую ні стрымлівай!

Стораж. Паехау па рэвізіі!

Пісар. Ну, будзе з яго, ніхай едзе. А я пайду на сяло другую рэвізію рабіць!

Старшыня (сонны). Пішы пратакол!..

Пісар. То—есьць, какой я мучэльнік з гэтымі пьяніцамі!.. (Пайшоу).

Сторaж (выпівае чарку гарэлкі). Добрая рэвізія! Німа што казаць! Гэты ізноу цэлы тыдзень у хаці круціцьмеся, а той па селах.

Старшыня (сонны). Дай Божэ, дай Божэ!

Сторaж (бярэ шчоты, сядае на землю і выкладае). Ну, хай яго чорт возьме! Каб я болей застауся служыць у гэтым пеклі! Але я такі вылічу, колькі мне засталося служыць да канца году!..

**(Заслона).**

---

*КАНЕЦ.*

**Францішк Алехновіч.**

# ЧОРТ І БАБА

жарт у 1 акце.

(*Паводле народнай казкі*).

# ЧОРТ і БАБА.

**АСОБЫ:**

МІКІТА—малады селянін

МАРЫСЬКА—яго жонка.

БАБА—суседка.

ЧОРТ.

Селянская хата. Як заслона адчынілася, на сцэне нікога німашака. Пасьля с пад печы вылазіць **Чорт**.

---

## ЗЬЯВА І-ая.

Чорт. Вось дык бяда! Варочацца ні с чым да пекла—сорам, дый Люцыпар прагоніць вон...

Жывуць у хаце тэй Мікіта с жонкай Марыськай. Як я ні стараюся іх пазвадзіць, пасварыць—нічога ні магу парадзіць, ніпто ні памагае! Жывуць у згодзе, моу два галубкі. . Вось так-рок я закватэраваўся тут, у падпечку, так-рок Мікіта ажаніўся з Марыськай... Гэта-ж ужо часу шмат! Пара-бы ім хоць раз палаяцца, як сьлед, пара, каб мужык хоць раз дый жонку сваю аддубасіў. Іншы дык ужо на другі дзень пасьля шлюбу схваце за косы і лупню добрую задае, каб, значыцца, прагнаць уселякую дур, а той і ні думае! Жывуць у згодзе, цалуюцца, бытцым учора спазналіся. А, каб іх маланка! Вось дык мука, даліпантачкі! Бывае, што так замаруся, што ледзь дыхаю. То ей нашэптываю на мужыка усякай брахні, то яму набрашу на жонку,—нічога ні памагае, і слухаць ні хочуць! Фу! і сьмех, і стыд—німа як глянуць чартам у вочы: сьмяюцца усе... Што мне рабіць? На плач зьбіраецца ужо (выцірае хвастом вочы). Вось паганы льос, каб яго ні знаць! Ах, цяжка чартом быць на сьвеці!... (слухае).

Цсс! Нехта ідзе! Ідуць да хаты!. Ну, калі іх ні пасвару, прыдзецца хіба павесіцца на сухой асіне!.. Трэба хавацца зноу пад печ! (улазіць пад печ). Ох, горкая доля мая!

## ЗЬЯВА IIая.

**Мікіта і Марыська** (уходзюць), пасьля **Чорт**.

Мікіта. Людзі брэшуць... Кажуць: на сьвеці блага жыць. Усе злыя, сварацца, звадзяцца... Чаго? Далібог, ні разумею! Вось, бачыш, я с табой, Марыська, жывем у згодзі, ажно зайздруюць усе. Так-рок мы пажаніліся і праз гэны час ці адзін аднаму сказау хаця дрэннае слово? Ці-ж ніпрауда?

Марыська. Але, Мікітка, добра нам жывецца! Я іншы раз, дык сама дзівуюся: чаму гэта мы так шчасьлівы? Ты добры для мяне, такі ты добры, што аж мне страх бярэ, каб шчасьце нашае каліколечы ні папсавалося...

Мікіта. Ні папсуецца! Ніякі чорт ні здолее нас пасварыць. Дый чаго? Ты, Марыська, добрая для мяне, так сама язык стрымаць умееш зауседы; ні так, як іншыя, што мужа языком да злосьці даводзюць, —нічога насупроць ні робіш...

Марыська. Ніхай мяне Бог сьцеражэ, каб я каліколечы зрабіла, або хоць сказала нешта насупроць цябе!

Мікіта А мне ніхай рука адсохне, калі я наважуся цябе ударыць!

Марыська (абыймае Мікіту). Мікітка!

Мікіта. Марыська!

Марыська. Люблю цябе!

Мікіта. А я цябе!

Марыська. Цалуй мяне!

Мікіта. З усіх сіл!.. (цалуюцца).

Чорт (высоувае галаву с-пад печы). О! йзноу! А каб вас немач! І зрабі тут, што хочэш!..— (хаваецца).

Мікіта. Марыська! Сягоння еду да мястэчка. Скажы, што табе тамака купіць? Мо‘ хустку новую?

Марыська. На што гасьцінцы мне, Мікітка? Лепш сабе нешта купі.

Мікіта. Мне нічога ні трэба!

Марыська. Ды не, забыуся! Люльку-ж ты сваю зламау і другі ужо дзень махорку курыш у паперцы.

Мікіта. А прауда! люльку трэ‘ купіць... Добра, што прыпомніла. Значыцца, хустку для цябе, а для сябе люльку дый пачок махоркі.

Марыська. Ну, ніхай ужо так...

Мікіта. Іду, Марыська! трэба каня перад дарогай напаіць! (выходзіць).

## ЗЬЯВА III-ая.

**Марыська** (адна).

Трэба распаліць агонь, каб згатаваць Мікітцы есьці. Ен, бедненькі, ажно увечары вернецца—будзе галодны. (Дзьмухае у попял на прыпечку). А ад якога-ж чорта ен загас! Нідауна-ж гарачыя вуглі былі! (Шукае сярнічкау). А каб-жэ іх! Трэба пабегчы пазычыць .. Вось трэба йшчэ прыпомніць Мікітцы, каб сярнічкау пачок купіу у мястэчку...

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Марыська і Баба** (уваходзіць).

Баба. Пахвалены...

Марыська. На векі.

Баба. Ну, што чуваць, зязюлечка?

Марыська. Нічога, дзякаваць Богу, благога... Вось мой зьбіраецца ехаць у мястэчко і прычапіуся, што новую хустку хочэ мне купіць...

Баба. Ах, добры ен мужык! Усе дзівуюцца, уся веска так аб ім гамоніць. Скажы, зязюлька, прауду: няужо-ж ні разу ен цябе ні біу?

Марыська. Каб біць, трэба прычыну, а я ніколі нічога ні раблю ні паводле яго думак.

Баба. Ну, а як пьяны?

Марыська. Тагды ен яшчэ лепшы.

Баба. Дзіво, дзіво дый толькі!

Марыська. Выбачце, суседка, пасядзіце крыху, я толькі зьбегаю пазычыць сярнічкау, каб распаліць агонь (выходзіць).

Баба. Добра, добра, зязюлечка!

## ЗЬЯВА V-ая.

**Баба** (адна).

Бываюць-жэ на сьвеці гэткія дзівы дзіуныя: каб муж ды жонку ніколі ні біу! Гэта-ж проста сьмех! Прауда, што мой, нябошчык, мяне так сама ні біу ніколі, але гэта ужо іншая справа: за тое-ж я яго, бедненькаго, добра лупцавала, ажно ні стрывау, каточак, бый узяу дый памер... Адзін раз, памятаю, схавау ен ад мяне мяшочак збожжа і пацягнуу яго у карчму прадаць. Спаймала я яго і як пачала качаргою дубасіць па патыліцы і па чым папала: «ах, ты валацуга ты гэ-

такі! ад мяне ні утоішся!»... ажно людзі зьбегліся бараніць маго пьянічугу... Але каб, як тут, сваркі ніякай ніколі у сямьі ні было-б,—першы раз чую!

### ЗЬЯВА VI-ая.

**Баба і Чорт** (вылазіць с-пад печы).

Баба. Фу, ты згінь-прападзі! А ты-ж, чорце, чаго сюды залез? А кыш! а кыш, бо зара вазьмуся за качаргу!

Чорт. Выбачайце... Паслухайце мяне толькі цярпліва... Я бедны чорт... Хачу з вамі зрабіць адну умову.

Баба. Чаго хочэш, нечысьць пракляты?

Чорт. Фэ! кіньце, цетка, так брыдка лаецца! Я-ж вам нічога благога ні раблю...

Баба. Я-б табе зрабіла, ты—касматы!

Чорт. Успомніу я, што у вас, людзей, есьць прыказка: дзе чорт няйме, там бабу пашле...

Баба. Рэч вядомая: баба хітрэйшая за чорта.

Чорт. Дык, цетачка, памажы мне!

Баба. Якая я табе „цетачка», ты паганы сморад!

Чорт. Памажы!

Баба. Чаго-ж ты хочэш?

Чорт. Глянь на мяне: я высах ужо зусім, зусім ужо замарыуся, ледзь дух трымаецца у маем чартоускім целе. Пад прыпечкам,—вось там,—ужо год сяджу...

Баба. Дык пачынай аб справе! Чаго трэба?

Чорт. Як я ні мучуся, як ні стараюся, а пасварыць іх ні магу... значыцца, Мікіту з Марыськай... То ей шапчу: мужык твой пьяніца страшэнны, як гдзе спаймае які грош, у карчму да Боруха нясе. Яна сьмяецца толькі, туліцца ямчэй да свайго Мікіткі і кажэ: не, а не! ні дам я веры! Мікітка мой гарэлкі не, ні пье!»... (ірохічна) Але! дык с хлебам есьць!... Яму шапчу: дурны! дык твая жонка, як засьнеш, або с хаты выйдзеш вон, да каханка свайго зара бяжыць... А ен мне толькі плюне у вочы і маучыць... Ні верыць, шэльма!

Баба. Дык чаго-ж хочэш ад мяне?

Чорт. Пасварыць! Іх пасварыць!..

Баба. Э, які шпаркі! Захацелося кабыле воцту! Сам бачыш, што справа ні легкая.

Чорт. Я-ж ні дарма...

Баба. А што дасі?

Чорт. Чаго-ж хочэш?

Баба. Дасі мех грошы?

Чорт. Добра... Дам, дам, ты толькі пасвары!.. А ці патрапіш?

Баба. Што? каб пасварыліся? Я так зраблю, што дзед ні толькі аблае бабу, але і паналочыць за косы...

Чорт. Ну, пастарайся, заплачу... Ох, першы дзень я супачыну! Дагэтуль я ні еу, ні спау, а толькі думау аб справе... Скажы-ж мне, калі ты гэта зробіш? Хутка?

Баба. Калі так хочэш, дык можна нават сення.

Чорт. Калі? калі? Каб ні праспау-б я!

Баба. Як плюне яна тры разы пад печ, дык вылазь і глядзі.

Чорт. Ну, добра, дзякую табе... Мех грошы сення будзеш меці.

Баба. Эй, чорт, ты толькі ні скруці!

Чорт. Чартоусьім гонарам клянуся! Хоць я і чорт,—свой гонар я то-ж маю!... Бывай здаровенька, бабулька!

Баба. Бывай здароу!

## ЗЬЯВА XVII-ая.

**Баба** (адна).

Што-ж!.. пасварыць ні натта трудна. У жыцці сваем я ні такія нават штукі рабіла. Чаму-ж ні пасварыць, калі чорт так пекна просіць ды мех грошай у заплату абяцуе... А мілы чорт! Шкада толькі, што чорт, а то бліжэйшае знаемства я-бы з ім зьвяла!

## ЗЬЯВА XIII-ая.

**Баба** і **Марыська** (уваходзіць).

Марыська. Ну, вось і я! Ледзь-ледзь я сярнічкі дастала: у чатыры хаты бегала. Ну, дзякуй вам, што пасядзелі, папілнавалі хату мне.

Баба. Німа за што, німа за што, мая ты бедненькая!

Марыська. Чаго шкадуеце мяне?

Баба. Як ні шкадаваць, калі такая бедная, такая бедненькая, што аж страх!

Марыська (спалохаушыся). Што кажэце? чаму?

Баба. Ах, як ні шкадаваць цябе! Вось бачу, жывеш ты з мужам у згодзе, шчаслівы вы, здаецца, што усе добра, так добра, што і ні трэба лепш, а нішчасьце вісіць над бедненькай тваей галованькай, а ты й ні бачыш яго!

Марыська (я. в.) Кажэце-ж, ні палохайце! што? што гэта?

Баба. А ты і ні бачыш... Ды німа дзіва! Ні бачыш, дык і ні ведаеш нічога...

Марыська. Ах, суседка, ні муч, кажы!

Баба. Ці-ж ты ні бачыш, як муж твой дрэнна выглядае?

Марыська. А што? Няужо-ж ен хвор?

Баба. Ой, хвор, міленькая, ой, як хвор, так хвор, што хутка ужо і у дамавіну трэба будзе класьці. Ні раз я такія прыпадкі бачыла: жыве, жыве дый памрэ. Людзі нічога ні ведаюць. Адны кажуць: гаручка, іншыя яшчэ нешта выдумываюць, а я дык ведаю..

Марыська. Што кажэце? Мікітка мой памрэ? А што-ж яму гэтакае?

Баба. Як што? Сухія пад барадой вырасьлі валасы.

Марыська. Сухія валасы? пад барадой? Дык што-ж?

Баба. А гэта ужо першы знак: памрэ.

Марыська. Няужо-ж памрэ?

Баба. Памрэ.

Марыська. Дык што рабіць?.. Скажу яму, каб да цырульніка пайшоу, згаліу.

Баба. А крый-жэ Бог! Згубіць яго ты хочэш! Дык ен адразу на мейсцы зробіцца мерцьвяк, як скажэш яму гэта!

Марыська (у роспачы). О, Божэ-ж мой! Дык што-ж рабіць? Няужо-ж ратунку німа?

Баба. Э! які тут ратунак, калі вырасьлі пад барадой сухія валасы!

Марыська (плачэ). О, Божэ мой, Божэ мой! Ах, бедная я удава! Так добра усе было і вось звалілося нішчасьце! Памрэ Мікіта мой, памрэ! Што-ж я адна на сьвеці рабіць буду без яго! О, бедная я сірацінка—удованька! О, Божэнька ты мой! што ж мне рабіць!?

Баба. Ды што рабіць! Маліцца за душу грэшную, каб у чысцу доуга ні мучылася, бо ведама, што гэтыя с сухімі валасамі так адразу да неба ні пападаюць.

Марыська. Ах, бедная я, нішчасьлівая! Няужо-ж нічога ні парадзімо? Мо' да дохтара трэ' завязьці яго?

Баба. А крый-жэ Божэ! Доктар як убачыць сухія валасы, дык зара дасьць такое лекарство, што на другі дзень Мікіта твой памрэ... Гэта значыць, яны дохтары гэта так, каб заразы ні было.

Марыська. Цетачка! Суседкчка! Кажэце-ж! Ці-ж вы ні ведаеце ніякого спосабу на гэта? Мо' есьць якое зелле такое? Га?

Баба (спакойна). Ды што-ж! Спосаб есьць, дык трудна...

Марыська. Ах, міленькая, скажы! кажы хутчэй! Нічога я табе ні пашкадую.

Баба. Ды мне нічога ні трэба... Вось толькі вельмі трудна...

Марыська. Толькі кажы, я усе зраблю!

Баба. А трэба, каб ты, каб, значыцца, уласная жонка, узяла нож, нагастрыла яго аб прыпек, плюнула тройчы пад печ дый выразала гэтыя сухія валасы. Тагды усе добра будзе: ужо ні адрастуць.

Марыська. А як-жа-ж гэта зрабіць? Мікіта як пабачыць, што я раблю, спытаецца, што гэта значыць... Яшчэ Бог ведае што падумае! Што-ж я яму скажу?

Баба. А ты, зязюлька, зрабі гэтак: купі гарэлкі, сьпячы яешню ды й напой свайго гаспадара, а як ён ляжэ і засьне, вазьмі нож ды сягоння-ж, як я казала, і зрабі! Яны, валасы значыцца, так і стырчаць проціу шэрсьці. Ды толькі з гэтым трэ' сьпешацца, бо як сухія валасы перарастуць пісухія, то ужо Мікіта твой прапау, капут!

Марыська. Ах, я ужо сама ня ведаю, як вам падзякаваць за раду, родненькая! А мая-ж ты залаценькая, нехай Бог нагараду дасьць табе за тваё добрае сэрцо!

Баба (да сябе). Нагараду дасьць ні Бог...

Марыська. Што кажэце, родненькая?

Баба. Не... я нічога... Кажу: дай Бог, каб удалося табе вылячыць мужа.

Марыська. А чаму ж не? Я усё зраблю, як вы казалі.

Баба (устае). Ну, а мне ужо пара.. Засядзелася. Бывай здаровенька, зязюлька, дый памятай, значыцца, як ён засьне, дык ты яго таго... Бывай!..

Марыська. З Богам! з Богам!.. Як вылячу Мікітку, дык ужо вам пекна падзякую.

Баба. Німа за што! німа за што! (выходзіць).

## ЗЬЯВА IX-ая

Марыська (адна). Ах, як добра, што суседка прыйшла і так добра мне параіла! А то, каб ні яна, то я дагэтуль нічога ні ведала-б і марна згінуу бы Мікітка мой, а я удавой бы засталася!.. Ну, трэба сьпешацца... Ах, вось ізноу бяда!... Як раз учора я прадала усе яйкі і ні маю с чаго зрабіць закуску для Мікіткі. Трэба хіба пазычыць недзе у суседзяу! (выходзіць).

## ЗЬЯВА X-ая.

**Чорт** (вылазіць с-пад прыпечка).

Чорт. Эй, баба мяне хіба ашукала! Абецалася іх пасварыць, а замест гэтага пачала разводзіцца аб нейкіх сухіх валасох дый рады розныя даваць... Трэба і мне паглядзець у сябе пад барадой, ці і у мяне ні вырасьлі прыпадкам сухія валасы, а то хто ведае!? С такога гора вельмі легка могуць выпаусьці здаровыя, а вырасьці сухія.. С такога гора усё магчыма!.. Гдзе-ж тут люстэрко у іх? А вось!—(Глядзіць у сябе пад барадой). А даліпан!.. вось ёсьць... здаецца, што

сухі... Трэба згаліць, хаця усе сьмеяцца будуць... Які-ж гэта, скажуць, чорт без барады!.. А, ізноу нехта ідзе! ізноу хавацца трэба... Эх, жыцце!.. (хаваецца).

## ЗЬЯВА XI-ая.

**Мікіта**, пасьля **Баба**.

Мікіта (уваходзіць). Еду ужо, Марыська! Кажы, якую хустку... (разгледаецца). Гдзе-ж яна? У хаці німа... Кудыйсь падзелася. (Клічэ). Марыська! (пауза). Трэ' пачэкаць яе. (Сядае).

Баба (праз вакно). Эй, гаспадар! ці ты адзін?

Мікіта. Адзін. А што?

Баба. А так я толькі спыталася... Паглядзела .. Я зайду.

Мікіта. Заходзьце, зрабіце ласку!

Баба (уховадзіць, села на услончыку і голасна уздыхае). Э, хэ-хэ!..

Мікіта. Чаго уздыхаеце, бабулька?

Баба (махнуушы рукой). Лепш ні пытайся!

Мікіта. Ну, а што?

Баба. Кажу, лепш ні пытайся, бо сам пасьля шкадаваць будзеш!

Мікіта. Ну, і зацікавіла-ж ты мяне!.. Кажы, бо даужэй чакаць цярплівасьці ужо ні маю!

Баба. Шкада мне цябе, Мікіта, вось што!

Мікіта. Ну? Чаго?

Баба. Э, лепш ві казаць!

Мікіта. А каб цябе чорт!.. Кажы, бо ужо злосьць бярэ!

Баба. А вось твая кабета...

Мікіта. Што яна?..

Баба. Твая Марыська, жонка, значыць...

Мікіта. Ды чорт!.. Я ведаю, што Марыська жонка!.. Ну, дык што?

Баба. Вось любіш ты яе...

Мікіта. Ну, ведама, люблю, бо лепшай бабы німашака хіба на усенькім сьвеці... Ды й яна мяне любіць ..

Баба. Яна любіць!.. Хэ-хэ-хэ!..

Мікіта. Чаго сьмяецеся? Ведаеце нешта?

Баба. Каб ні ведаць! Усе ведаюць, уся вёска, ды толькі ты адзін сьляпы.

Мікіта. Што брэшэш! Ты кажы мне с сэнсам!

Баба. Каханак ёсьць ..

Мікіта. Брэшэш!

Баба. Але... Знайшла ужо! Ты тольві с хаты дык яна ураз да яго...

Мікіта. Брэшэш!

Баба. Да душы! Каб сонца мне ні бачыць... Вось і цяпер...

Мікіта. Брэшэш!

Баба. Цсс! Ні крычы! яшчэ скажу: яна зарэзаць цябе хочэ, каб, значыцца, с каханкам без ніякіх перашкод... От-жа пабачыш, яна цябе сягоння падпоіць, а як ты ляжэш спаць, то яна цябе зарэжэ. Вось пабачыш! Як ты вернешся з мястэчка, яна паставіць на стол яешню і пляшку гарэлкі. Гэта значыцца, каб ты упіуся ды ні скеміу, што яна ліхо замышляе. А ты тольві прыкінься быццым сьпіш, ды пабачыш, што яна будзе рабіць...

Мікіта. Брэшэш, патаскуха!

Баба. Вось і маю за свае сэрцо! Ах, і навошта я усе гэта расказала! Ды ні хацела, а ён усе: кажы, кажы... Вось і аблаяу за маю прауду!.. Такая заусёды на сьвеці падзяка! Эх,—эх!.. (выходзіць).

### ЗЬЯВА XII-ая.

**Мікіта** (адзін).

Мікіта. У галаве шуміць... Ох, я здурэю! Марыська каханка мае! Марыська зарэзаць хочэ!.. Ні можэ быць!.. ні можэ быць!.. Мы-ж так добра жылі, я ніколі благога ні сказау ей слова... О, Божэ мой! ні можэ быць! ні можэ быць!..

### ЗЬЯВА XIII-ая.

**Мікіта і Марыська** (уваходзіць).

Марыська. Што? ты яшчэ ні паехау да мястэчка?

Мікіта. А ты гэтаго тольві і чакаеш!

Марыська. Я ні чакаю.. ты ні едзь.. Ты думаеш, што я дзеля гэтай хусткі?

Мікіта. Я ведаю...

Марыська. Ці-ж я с хаты цябе ганю?.. А і запрауды, ведаеш Мікітка, ні едзь! Вось я прынесла пляшку гарэлкі, яек дастала, сьпяку яешню... Выпьеш, закусіш, ляжэш спаць... Мікітка, добра?

Мікіта (да сябе). Зарэзаць хочэ... (голасна): Чорт хай бярэ усе хусткі дый мястэчкі!.. Ні паеду!

Марыська. Вось і добра!

Мікіта. Пабачымо, ці добра...

Марыська. Што?

Мікіта. Нічога...

Марыська. Чаму ты нейкі дзіуны, Мікітка? Злуешся на мяне, ці што?

Мікіта. Не, нічагусенькі...

Марыська. Дык чаго?

Мікіта. Я... я... гэта... Нешта у сярэдзіне баліць... хвор штосьці...

Марыська (спалохаушыся). Баліць? у сярэдзіне? (да сябе): Гэта мусіць с сухіх валасоу, трэба сьпешацца!... (да Мікіты): Вось выпі чарку—другую, тагды лепш табе будзе, а пакуль што сырам закусі (дае сыр) яешня хутка будзе гатова (налівае чарку).

Мікіта. Давай! (Як Марыська адвярнулася, выліу чарку на падлогу і зацямкау быццым выпіушы яе). Фу, добра, моцная!

Марыська. Дык яшчэ пі, калі смачна...

Мікіта (налівае і вылівае на падлогу, як раней). Я пью...

Марыська. Пі, пі, Мікітачка, ды пасілкуйся!

Мікіта. А, гадзіна!

Марыська (спалохаушыся). Ах! дзе?

Мікіта. Не... я так... У полі бачыу... Кіем забіу...

Марыська. А, селёта шмат.

Мікіта. О, шмат!.. (пауза. Марыська прыгатауляе яешню). Каб цябе немач!..

Марыська (зьдзівіушыся). Чаго ты?

Мікіта. Нічога... Так... У сярэдзіне кальнуло...

Марыська. Кальнуло? Дык ты пі, ты пі, Мікітка!

Мікіта. Я пью... (Вылівае, як раней).

(Пауза).

Мікіта (устае, працягіваецца, хітра-няшчыра) Спаць нешта хочэцца...

Марыська. Спаць хочэш? Ну, дык засьні, бо замарыуся ты, каточак! Вось выпі яшчэ чарку і засьні... Лепш спаць будзеш..

Мікіта (іронічна). О, буду спаць... Прауду баба казала...

Марыська. Я заусёды кажу прауду.. Дык выпі і сьпі!

Мікіта. Але... Я пью... (кладзецца на лаві, і пачынае моцна храпсьці, паглядаючы ад часу да часу, што робіць Марыська).

Марыська (пачуушы, што Мікіта сьпіць, падыходзіць да яго і ціха клічэ: „Мікітка“, каб пераканацца, ці ен запрауды заснуу. Мікіта храпе і ні адказывае. Тагды Марыська хапае са стала нож і хутка пачынае яго гастрыць).

Мікіта (зірнуу і пабачыу, што Марыська робіць). А, шэльма!

Марыська (пачуушы гэта). Бедненькі! Праз сон гаворыць. «Баліць, казау, нешта у сярэдзіне»... Гэта усё мусіць ад гэных паганых сухіх валасоу! Добра, што я у пару аб усім даведалася, а то магла-б

быць беда! (гострыць далей нож; пауза). Вось нож ужо, здаецца, гостры... Пара ужо!.. (Плюнуушы тройчы пад печ, падыходзіць да Мікіты і граболіць у яго у барадзе).

Мікіта (ускаківае з лавы і пачынае яе лупіць). А! рэзаць хочэш, подлая ты душагубка! Вось я табе пакажу, хварэць твайму бацьцы ды стагнаць тваей маці, як гаспадара рэзаць!..

Марыська. Мікітка! дык я не... я ні тое...

Мікіта. А! яшчэ запірацца будзеш! Вось якая ты, мая галубка! Пакуль ты мяне зарэжэш, я табе усе костачкі палічу, паганая!

Марыська. Людзі добрыя! ратуйце!.. (уцекае, Мікіта за ей гоніцца).

## ЗЬЯВА XIV-ая.

**Баба і Чорт.**

Чорт (высоуваецца с-пад печы).

Баба (усунуушы галаву праз вакно). Ну, чорт! Хутчэй, хутчэй! давай мне мех! Няужо-ж мяне ты ашукаць хочэш?

Чорт. Не, цётачка! цябе і чорт ні ашукае!

Баба. Дык давай мех! гдзе грошы?

Чорт. Чакай!... баюся я цябе!... Я зара...

Баба. Давай хутчэй, бо часу ні маю!

Чорт (вылез на сцэну і цягне с пад печы цяжкі мех).

Баба. Што? цяжкі? Цягні, цягні, браток!... А то чакай! я зара увойду у хату і памагу табе.

Чорт (спалохаушыся). Ні йдзі!... ні памагай!.: баюся я!..

Баба. Чаго-ж ты, міленькі, спудзіуся?

Чорт. Баюся я, каб ты і мне жыцця ні атруціла!

Баба. Давай-жа мех!

Чорт. Чакай.. толькі да мяне ні йдзі! (бярэ з-за печы вілы і на вілах высовывае праз вакно мех).

Баба. Ці вага добрая? Ні ашукау? Бо у хаці у мяне бязьмен, я пераважу.

Чорт. Вага добрая.. Дый магу даць яшчэ, калі толькі споуніш маю просьбу.

Баба. Што, яшчэ кагосьці пасварыць?

Чорт. Не... Але як спаткаемся у пеклі, нічога там ты ні кажы, ні набрахай там на мяне... Я бедны чорт, я цяжка на свой хлеб працую... Мей літасьць нада мной! Ні пажадай жыцця майго.

Баба (прагавіта). А прынясеш мне яшчэ адзін мех?

Чорт. Добра, я ураз, калі мне абяцуеш...

Баба. Але да хаты мне..

Чорт. (страшэнна спалохаушыся) О, не!..

Баба. Нікога у мяне ні будзе..!

Чорт. Ой, не! ой, не! ты ні губі мяне!

Баба. Прыйдзі, ні пашкадуеш...

Чорт. Я вельмі молад... Я саромліу... Ты выбачай...

Баба. Прыйдзі, каточак! Прыйдзі, міленькі, да мяне!

Чорт. А ні зарэжэш там мяне?

Баба. Ды што ты! Цябе там соладка я буду цалаваці... Да раніцы маім ты госьцям будзеш!.

Чорт. О-ей! Прапау я, згінуу я зусім, бо баба закахалася ва мне! Хутчэй трэба да пекла уцекаць!.. Хай лепш Люцыпар бье, хай чэрці усе сьмяюцца, чымсь з гэтай бабаю кахацца! А як прыдзецца ужэ нам спаткацца на пякельным дне, смалы для яе ні буду шкадаваць дый, апрача таго, патэльню горачу лізаць прымушу там яе!.. (хаваецца пад печ).

Баба (усьміхаючыся да чорта бяззубым закахаушымся тварам). Каточак! Пачакай! Чакай!...

(З а с л о н а).

*КАНЕЦ.*

**А. Чэхов.**

# МЯДЗЬВЕДЗЬ.

Жарт у 1-м акці.

*(Пераклад з расійскага).*

# МЯДЗЬВЕДЗЬ.

**А С О Б Ы:**

АЛЕНА ПАПОВА, удава, з ямачкамі на шчоках, пані на маентку.

РЫГОР СМІРНОУ, пан на маёнтку, сярэдніх лет.

АНТОН, стары слуга Паповай.

АГАРОДНІК, ФУРМАН, РАБОТНІКІ.

**(Усе дзеецца у дварэ Паповай).**

(Гасьцінная у дварэ Паповай).

---

## ЗЬЯВА І-ая.

### Паповэ і Антон.

Папова (у глыбокай жалобі, не адрываючы вачэй ад фатаграфіі).

Антон. Ня добра, панічка!.. Загубіць сябе хочэце... Пакаёўка і і кухарка пайшлі у ягады, уселякае стварэнне весяліцца, котка і тая забауляецца: па надворку гуляе, птушак ловіць, а вы цалюсенькі дзень сядзіцё у пакоі, быццам у манастыры і ніякай прыемнасьці. Сапрауды! Мусіць ужо год прайшоу, як вы з хаты ня выходзіце...

Папова. І ніколі ня выйду!.. На вошта? Жыццё маё скончылося. Ен у магілі, я пахавала сябе тутака у чатырох сьценах... Мы абое памёрлі...

Антон. Ось яно! І слухаць ня хочэцца. Пан ваш памёрлі і нічога ні зробіш, вечны пакой яго душачцы. Бог так хацеу. Пагаравалі і годзі—на усё павінна быць мера. Шакжа-ж ня век плакаць і хадзіць у жалобі! Калісьці і у мяне баба памёрла... Ну, дык што? Паплакау, пасумавау з месяц і досі з яе будзе, а калі-б цэлы век заводзіць дык і баба не варта таго. [Уздыхае]. Аб суседзях забыліся... І самі нікуды, і нікога у сябе ня прыймаеце. Гэтак жывём мы, выбачайце, як павукі, сьвету белаго не бачучы. Каб жа-ж добрых людзей ня было, а то повен вуезд паноу. У Рыбалоуцы цэлы полк стаіць, ахвіцэры проста як цукеркі, не надзівішся! У лагерах кожную пятніцу баль, і бадай што-дзень ваенная аркестра музыку іграе... Эх, панічка! Маладая, пекная, як пісаначка, кроу з малаком—жыць бы вам сабе на уцеху! Шакжа-ж пекнасьць і усё такое па век не дадзены. Пяройдзе гадоу дзесяць, самі захочаце павай прайсьціся ды пусьціць пыл у вочы паном ахвіцэрам, але ужо будзе дармо...

Папова [цьверда]. Я прашу цябе ніколі аб гэтым мне не казаць. Ты павінен ведаць, што з таго часу, як памёр пан твой Мікалай, жыцьцё страціло для мяне уселякую цану. Табе здаецца, што я жыву, але гэта толькі здаецца. Я прысягаюсь да сьмерці ня скідаць гэтай жалобы і не бачыць сьвету... Табе ведама, што ён часта быу для мяне няспраўядлівым, грубым і... здраднікам, але я да сьмерці не здраджу яго, хай ён ведае, як я умею любіць. Тамака, на тым сьвеці, ён пабачыць мяне такой самай, якой я была да яго сьмерці...

Антон. Лепш, чым казаць усё гэта, панічка пайшла-бы у сад прайсьціся, ці наказала-бы запрагчы Гнедку, або Беланожку і у гасьціну да суседзяу...

Папова. Ах!... [Плача].

Антон. Панічка... Родненькая... Чаго вы?

Папова. Ен так любіу Гнедку! Ен заусягды езьдзіу на ім да Карчагіных, да Уласовых. Як ён умеу паводзіць коньмі... Колькі павабу было у яго хвігуры, калі ён нацягівау лейцы. Памятаеш? Гнедка! Гнедка! Накажы даці яму сёнвека лішні гарнец ауса.

Антон. Добра! [Нехта звоніць].

Папова [уздрогнуушы]. Хто гэта? Скажы, што я ніякіх гасьцей ня прыймаю.

Антон. Добра. [Пайшоу].

## ЗЬЯВА II-ая.

### **Папова** (адна).

Папова (глядзіць на фатаграфію). Ты пабачыш, Міколка, як я умею любіць і выбачаць... Любоу мая згасьне разам са мною, калі перастане біцца маё беднае сэрцо. (Сьмяецца праз сьлезы). Няужо-ж табе ня сорам? Я слухняна, верная жонка сяджу пад замком і не здраджу цябе да магілы, а ты?.. Няужо-ж табе ня сорам? Быу мне няверным, рабіу мне сцэны, праз цэлыя тыдні пакідау мяне адну...

## ЗЬЯВА III-ая.

### **Папова** і **Антон**.

Антон (уходзіць, устрывожаны). Пані, тамака нехта пытаецца вас. Хоча бачыць...

Папова. Шакжа-ж ты казау, што я з дня сьмерці майго мужа нікога ня прыймаю.

Антон. Казау, але ён і слухаць ня хоча. Кажа, што мае пільны інтэрас.

Папова. Я ня прый-ма-ю.

Антон. Я яму казау, але... чорт якісь... лаецца і проста у пакоі прэцца... ужо у сталовай стаіць...

Папова (са злосьцю). Добра! Кліч яго. . Які грубіян! (Антон вышоу). Якія дрэнныя гэтыя людзі! Чаго яны ад мяне хочуць? На вошта ім трывожыць мой спакой? (Уздыхае). Як я бачу, дык сапрауды прыйдзецца мне ісьці у манастыр... (Задумываецца). Але! у манастыр...

## ЗЬЯВА IV-ая.

**Папова, Антон і Сьмірноу.**

Сьмірноу (уваходзючы, да Антона). Дурань, шмат сабе пазваляеш!.. Вучыць цябе трэба!.. Асёл! (Пабачыушы Папову, с павагаю). Пані, маю за чэсьць апавясьціцца: паруччык артылерыі у адстауцы, зямельны уласьнік Рыгор Сьмірноу! Змушан турбаваць вас у вельмі важнай справі.

Папова (не падаючы рукі). Чаго вы хочаце?

Сьмірноу. Ваш нябошчык муж, з каторым я меу за чэсьць быць знаёмым, застауся мне вінен па двум вэксэлям тысяча дзьвесьці рублёу. Дзеля таго, што мне заутра трэба плаціць працэнты у зямельны банк, я прасіу-бы паню заплаціць мне грошы сённека.

Папова. Тысяча дзьвесьці!.. А за вошта мой муж быу вам вінен?

Сьмірноу. Ен купляу у мяне авёс.

Папова (уздыхаючы, Антону). Дык жа-ж ты, Антон, не забудзься наказаць, каб Гнедку далі лішнюю мерку ауса. (Антон пайшоу. Сьмірнову). Калі Мікалай быу вам вінен, дык я заплачу, але выбачайце, будзьце ласкавы, я сённека ня маю свабодных грошай. Пасьля заутра вернецца з места мой камісар і я накажу яму заплаціць вам усё, а сённека я не магу зрабіць гэтаго... Акром гэтаго, сённека як раз скончылося сем месяцау, як памёр мой муж, і я у такім настрою, што зусім не маю ахвоты займацца грашавымі справамі.

Сьмірноу. А у мяне цяперака такое настраенне, што калі я заутра не заплачу працэнтау, то павінен буду вылязець у трубу да гары нагамі. У мяне апішуць маёнтак.

Папова. Пасьля заутра вы дастанеце вашы грошы.

Сьмірноу. Мне патрэбны грошы не пасьля заутра, а сённека.

Папова. Выбачайце, сённека не магу заплаціць.

Сьмірноу. А я не магу чакаць да пасьля заутра.

Папова. Што зрабіць?.. У мяне сённека грошай німа.

Сьмірноу. Значыцца, вы ня можаце заплаціць?

Папова. Не магу!..

Сьмірноу. Гм!.. Гэта ваша апошняе слова?

Папова. Але, апошняе!

Сьмірноу. Апошняе?.. Аканчацельна?..

Папова. Аканчацельна!

Сьмірноу. Вельмі дзякую! Так і запішамо. (Варушыць плечамі). Хочуць яшчэ, каб я быу спакойны. Сустрэуся я цяперака па дарозі з акцызнікам, ён і пытаецца: «Чаму вы такі гнеуны, пан Рыгор?» Дык якжа-ж мне ня быць гнеуным? На гвалт патрэбны грошы!.. Выехау я яшчэ учора з раніцы, ледзьве сонейко узнялося, аб'езьдзіу усіх сваіх крэдытароу і хоць-бы адзін заплаціу мне. Замучыуся, як цюцька, начавау ліхо ведае дзе—каля барылы з гарай. Прыехау урэшце сюды, за 70 верстау ад хаты, маючы надзею дастаць грошэй, а мяне частуюць заместа грошэй—«настраеннем». Якжа-ж мне ня сердавацъ?...

Папова. Я, здаецца выразна казала, што, калі вернецца камісар, дастанеце грошы.

Сьмірноу. Я прыехау не да камісара, а да вас. На якое ліхо, выбачайце, здауся мне ваш камісар?

Папова. Выбачайце, міласьцівы пане, я ня прывыкшы да падобных выражэнняу, да такога тону. Я вас больш ня слухаю. (Хутка выходзіць).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Сьмірноу** (адзін).

Сьмірноу. Падумайце сабе! «Настраенне»... «Сем месяцау, як муж памёр...» Але-ж мне трэба плаціць працэнты, ці не? Я вас пытаюся: мне трэба плаціць працэнты, ці не? Добра, у вас тамака муж памёр, настраенне і усялякія штукі.. камісар паехау, чорт-бы яго узяу, але мне што рабіць? Задаць лататы ад сваіх крэдытароу, ці што? Ці, разагнаушыся, тарабахнуцца галавой аб сьценку? Прыежджаю я да Грузьдзеева—у хаці нема. Ярашэвіч схавауся, з Курыцыным палаяуся на сьмерць ды ледзьве яго ня выкінуу праз вакно, у Мазутава—халерына, у гэтай настраенне. Ні адна хвароба грошай не дае. А усё гэта дзеля таго, што я натта з імі цацкаюся, што нюня, баба! Натта я ужо з імі далікатна. Але пачакайце! Пазнаеце вы мяне!.. Я не пазволю жарты з сябе строіць. Застануся і буду сядзець тутака, пакуль грошай не дасьцё. Брр!.. Які я сярдзіты сёньнека, які я сярдзіты! Ад злосьці аж трасуся увесь і дух захапіло... Ху! Божанька.. Млосна нават робіцца... (Крычыць). Слуга!

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Сьмірноу і Антон.**

Антон (увайшоушы). Чаго вам?

Сьмірноу. Дай мне квасу, ці вады! (Антон выйшоу).

Сьмірноу. Не, якая логіка! Чалавеку на гвалт патрэбны грошы, хоць ты вешайся, а яна не плаціць дзеля таго, бачыце, што не мае ахвоты займацца грашавымі справамі... Праудзівая, бабская, турнюрная логіка! Праз тое самае я ніколі ня люблю гутарыць з бабамі. Для мяне лягчэй сядзець на бочцы с порахам, чым гутарыць з бабай. Брр!!. Аж мароз за скурай дзярэ—так разазлавау мяне гэты хвост. Мне досі пабачыць—хоць-бы здалёку—паэтычнае стварэнне, каб ад гневу у лытках пачаліся корчы. Проста хоць ты гвалт крычы.

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Сьмірноу—Антон.**

Антон (прынес і дае ваду). Пані хворая і ня прыймае.

Сьмірноу. Пашоу вон! (Антон выйшоу). «Хворая і ня прыймае»! Ня трэба, ня прыймай!.. Я застануся і буду сядзець, пакуль не дастану грошай. Тыдзень хварэці маеш і я тыдзень буду чакаць тутака... Год будзеш хварэць—і я год... Маё ня згіне, панічка! Мяне не парушыш жалобай і ямкамі на шчоках... Бачылі мы гэтыя самыя ямкі! (Гукае праз вакно). Сямен, адпрагай! Мы яшчэ ня хутка паедземо. Я застаюся тутака. Накажаш тамака у стайні, каб коням далі ауса! Зноу у цябе, быдлё, левы орчыковы конь заплутауся у лейцы. (Дражніць). «Нічога». Я табе дам—нічога! (Адышоушы ад вакна). Пагапа!.. сьпека несьцярпучá, грошай ніхто не дае, у ночы спау кепска, а тутака яшчэ гэты жалобны хвост з настраеннем! Галава баліць.. Гарэлкі выпіць, ці якое ліхо! Нехай сабе—выпью. (Гукае). Слуга!

Антон (увайшоу). Чаго вам?

Сьмірноу. Дай чарку гарэлкі! [Антон пайшоу]. Ух! [Сядае і агледае сябе]. Німа чаго казаць, пекная хвігура! Увесь запылены, боты брудныя, ня мыуся, ня чэсауся, на камізэльцы салома!.. Пані чаго добраго уважала мяне за разбойніка. [Пазевае]. Як-бы і ня выпадае зьяуляцца у гасьцінную так выглядаючы. Ну, але нічога!.. Я тутака ня госьць, а крэдытар.

Антон [прыносіць і падае гарэлку]. Перабіраеце мерку, паночку.

Сьмірноу. Што?!

Антон. Я... я нічога... я...

Сьмірноу. З кім ты гаворыш?! Маучаць!...

Антон. Прывалокся нячысьцік па нашу галаву... Нялёгкая яго прынесла!.. [Пайшоу].

Сьмірноу. Ах, які я сярдзіты! Такі сярдзіты, што здаецца, увесь бы сьвет патоук на парашок... Нават млосна робіцца... [Гукае]. Слуга!

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Сьмірноу—Папова.**

Папова [уходзіць, спусьціушы вочы]. Міласьцівы пане, у сваёй самоці я дауно ужо адвыкла ад людзкога голасу, і гоману не цярплю. Прашу вас вельмі пакінуць мяне у спакоі.

Сьмірноу. Дайце мне грошы—і я паеду сабе.

Папова. Я ужо казала вам, здаецца, досі зразумела: у мяне грошай немашака, пачакайце да пасьля заутра.

Сьмірноу. Я так сама меу гонар казаць вам досі зразумела: грошы мне патрэбны не пасьля заутра, а сённека. Калі вы сённека мне не дасьцё грошай, дык я заутра мушу павесіцца.

Папова. Дык што я маю рабіць, калі у мяне немашака грошай? Які дзіуны!

Сьмірноу. Дык вы ураз не заплаціце? Не?

Папова. Не магу!..

Сьмірноу. У такім разі я застануся тутака і буду сядзець, пакуль не дастану... (Седае). Аддасьцё пасьля заутра. Добра! Я буду сядзець тутака да пасьля заутра. Ось гэтак і буду сядзець!.. (Ускаківае). Я вас пытаюся, ці трэба мне заутра плаціць працэнты, ці не?.. Ці можа вам здаецца, што я жарты строю?

Папова. Міласьцівы пане, будзьце ласкавы не гаманіць. Тутака не стайня!

Сьмірноу. Я у вас пытаюся не а стайні, а аб тым,—ці мне трэба плаціць заутра працэнты, ці не?

Папова. Вы ня умееце весьці сябе у жоначай кампаніі.

Сьмірноу. Не, я умею вясьці сябе у жаночай кампаніі!

Папова. Не, ня умееце! Вы кепска выхаваны, грубіян. Добра выхаваныя людзі не вядуць так гутаркі з кабетамі.

Сьмірноу. Ах, дзіуная рэч! Якжа-ж вы накажэце вясьці з вамі гутарку? Хіба па-французску? (Злуе і сюсюкае). Мадам, жэ ву прі... які я шчасьлівы, што вы не плаціце мне грошай... Ах, пардон, што патурбавау вас! Якая сённека пекная пагода! І як вам да твару гэтая жалоба! (Разшаркуецца).

Папова. Неразумна і груба!

Сьмірноу (дражніць). «Неразумна і груба». Я ня умею вясьці сябе у жаночай кампаніі.. Панічка, я на сваім веку бачыу больш

жапок, як вы верабьёу. Тры разы праз жанок я стрэляуся на паядынку, двапацпаць жанок я кінуу, дзевяць кінулі мяне. Быу час, ка, лі я дурня строіу... Любіу страшэнна на уселякія спосабы, уздыхаукіс, растапляуся, халадзеу... Стракатау, як сарока, аб эмансіпацыі, прасьвістау на усім гэтым палову сваёй маентнасьці, але цяперака— досі! Цяперака мяне не ашукаеце. Вочы чорныя, вочы палкія, чырвоны вусны, ямачкі на шчочках, месяц, палахлівае дыханне—за усё гэта, панічка, я цяперака і макаваго зерняці не дам. Я не кажу а прысутных, але усе кабеты—ад маленькай да вялікай—крыулякі, брахухі над брахухамі, чванкаваты, дробязны, неміласэрны, логіка безталковая, а што датычыцца ось гэтаго (ляскае сябе па лобі) дык, выбачайце за адкрытасьць, верабей першаму лепшаму філёзафу у спадніцы дасьць дзесяць вачкоу наперад. Паглядзіш часам на паэтычнае стварэнне: батыст, эфір, поубагіня, мільён парывау, а заглянеш у душу—найзвычайнейшая налпа. (Хапаецца за сьпінку крэсла, крэсло трэскаець і ламаецца). Але больш усяго абурае, што гэтая налпа чамусь сабе думае, што яе прывілегія, яе манаполь, яго шэдэвр, дэлікатнае чуццё. Дык ніхай мяне трасца, павесьце мяне ось на гэтым цьвяку да гары нагамі—хіба кабета умее кахаць каго-небудзь апроч балонак! Кахаючы, яна умее толькі пішчэць і кіснуць. Тамака, дзе мужчына мучыцца і аддае усё, у яе выяуляецца каханне у тым, што яна круціць хвастом і пільнуе, каб мацней ухапіць за нос. Вы маеце за нешчасьце быці кабетай, дык вы самі па сабе добра мусіце ведаць жаночую натуру. Скажыце мне па праудзі: ці вы бачылі праз сваё жыццё кабету, каб яна была шчырай, вернай—не здрадніцай? Не бачылі! Верны і не здрадніцы бываюць толькі бабы і калекі. Хутчэй вы сустрэніце рагатую котку, або чырвоную зязюлю, як кабету не здрадніцу.

Папова. Выбачайце,—дык хто па вашай думцы не здрадлівы у каханні? Ці ня мужчына?

Сьмірноу. Але! мужчына.

Папова. Мужчына! [Голасна рагоча]. Мужчына не здраднік у каханні! Ось гэта дык навіна! Якое вы маеце права казаць гэта? Мужчына верны і не здраднік! Калі маемо аб гэтым казаць, дык я скажу ось што: з усіх мужчын, якіх я толькі знала і знаю, найлепшым быу мой муж... Я любіла яго агніста, усей сваёй істотай, як можа толькі любіць маладая кабета; я аддала яму сваю моладасьць, шчасьце, жыццё, сваю маентнасьць, дышала ім, малілася да яго, як язычніца і... і што? Гэты найлепшы з мужчын ашуківау як найлепш мяне на кожным кроку. Пасьля яго сьмерці, я знайшла у яго стале поуну скрынку лістоу ад каханак, а пры жыцці—страшна падумаць! ён цэлымі тыднямі пакідау мяне адну, прад маімі вачамі залецауся да іншых кабет і здра-

джывау мяне, марнавау мае грошы, глуміуся над маім пачуцьём... І не зважаючы на усё гэта, я любіла яго і заусягды была яму вернай... І ось ён памёр, а я засталася вернай яму. Я на векі пахавала сябе у чатырох сьценах і ня скіну жалобы да самай магілы...

Сьмірноу [рагоча]. Жалоба... Не разумею, за каго вы мяне уважаеце? Быццам я не знаю, на вошта вы носіце чорнае доміно і пахавалі сябе у чатырох сьценках. А якжа-ж. Гэта так таемнічна, паэтычна. Будзе ехаць каля двара які небудзь юнкер, або куртаты паэт, гляне на вокны і падумае сабе: «Тутака жыве таемнічая Тамара, што з кахання да свайго мужа пахавала сябе у чатырох сьценках». Бачылі мы такія штукі!

Папова [гнеуна]. Што? як вы важыцеся казаць мне усё гэта?

Сьмірноу. Вы пахавалі сябе жыуцом, аднача не забыліся напудравацца...

Папова. Ды як вы сьмееце гаварыць са мной гэтак!

Сьмірноу. Будзьце ласкавы, ня крычыце, я не ваш камісар. Дазьвольце мне іменаваць рэчы праудзівым іх прозьвішчам. Я не кабета і прызвычаіуся выказываць свае думкі проста. Калі ласка—бяз крыку!

Папова. Гэта не я крычу, а вы гвалтуеце. Пакіньце мяне у спакоі.

Сьмірноу. Заплаціце мне грошы і я пакіну вас.

Папова. Не дам я вам грошай!

Сьмірноу. Не дасьцё?

Папова. Ось на злосьць вам, ні капейкі не дастаніце! Можаце пакінуць мяне у спакоі.

Сьмірноу. Я не маю за шчасьце быць ні вашым мужам, ні нарэчоным і дзеля таго прашу не рабіць мне сцэн. [Сеу]. Гэта мне не спанарауна.

Папова [задыхаючыся ад злосьці]. Вы селі?

Сьмірноу. Сеу!

Папова. Будзьце ласкавы выйсьці!

Сьмірноу. Аддайце грошы!.. [У бок]. Ах, які я злы! які я злы!

Папова. Я не маю ахвоты вясьці гутарку з грубіянамі. Калі ласка, выйдзіце. [Пауза]. Вы ня пойдзеце? Не?

Сьмірноу. Не!

Папова. Не?

Сьмірноу. Не!

Папова. Добра! [Пазваніла].

## ЗЬЯВА IX-ая.

**Тыя-ж і Антон.**

Папова. Антон, вывядзі гэтаго пана.

Антон (падыйходзіць да Сьмірнова). Пане, ідзіце, калі наказываюць. Німа чаго!..

Сьмірноу (ускочыўшы). Маучаць! З кім ты маеш дзело? Я цябе на порахператру!

Антон (хапаецца за сэрцо). Баценька!.. (Падае на крэсло). Ох, млосна, млосна! Дух захапіло!

Папова. Дзе Зоська? (Гукае). Зоська! Параска! Зоська! [Звоніць].

Антон. Ох, усе у ягады пайшлі!.. Нікога нямашака у хаці... Млосна! Вады!

Папова. Прашу вас выйсьці!

Сьмірноу. Ці пані ня будзе ласкава быць крыху меньшай грубіянкай?

Папова [сьціснуушы кулакі і топаючы нагамі]. Вы хам! Мядзьведзь! Пудзіло!

Сьмірноу. Як? Што вы казалі?

Папова. Я казала, што вы мядзьведзь, пудзіло!

Сьмірноу [прыступаючы да Паповай]. Выбачайце, якое вы маеце права зьневажаць мяне?

Папова. Але, зьневажаю... ну, дык што? Вы хочаце мяне напалохаць!

Сьмірноу. А вам здаецца, што калі вы паэтычнае стварэнне, дык можаце усё рабіць безкарна. Так! Да бар'еру!

Антон. Баценька мой!.. Ох!.. Вады!..

Сьмірноу. Страляцца!

Папова. Калі у вас здаровыя кулакі, ды бычачае горло, дык вам здаецца, што я вас баюся, га? Мядзьведзь вы!

Сьмірноу. Страляцца! Я нікому не дазволю зьневажаць сябе, хоць-бы гэта была кабета, слабае стварэнне.

Папова [стараючыся перакрычаць яго]. Мядзьведзь! Мядзьведзь! Мядзьведзь!

Сьмірноу. Час ужо адракціся забабону, што толькі адны мужчыны павінны плаціць за зьневагу. Раунапрауе, дык раунапрауе! Да бар'еру!

Папова. Страляцца хочэце? Добра!

Сьмірноу. Ураз-жа!

Папова. Ураз-жа! Пасьля майго мужа засталіся пісталеты... Я іх прынясу сюды... [Хутка выходзіць; вертаецца]. З якой прыемнасьцяй я уляплю кулю у вашу галаву! [Пайшла].

Сьмірноу. Я падстрэлю яе, як куранятка, я не дзяцюк, для мяне немашака слабых створэнняу.

Антон. Баценька родненькі! [Стануушы на калены]. Зрабі ласку, пашкадуй ты мяне старога, ідзі адсюль. Напалохау ты мяне на сьмерць, ды яшчэ зьбіраешся страляцца.

Сьмірноу [не зьвяртаючы на яго увагі]. Страляцца—ось гэта раунапраунасьць, эманцыпацыя. Тутака абодва полы роуны. Падстрэлю яе дзеля прынцыпу. Але-ж якая кабета! [Дражніць]. «З якою прыемнасьцю уляплю кулю у вашу галаву...» Паузірайцеся! Расчырванелася, вочы блішчаць... Вызау прыняла. Далібог, першы раз у сваім жыцці такую бачу!..

Антон. Баценька мой! Ідзі ты! Вечна Бога маліць буду.

Сьмірноу. Гэта—кабета! Ось гэта—я разумею. Праудзівая кабета! Ня кісьляціна, не якая небудзь размазьня, а агонь, порах! Нават забіць шкада.

Антон [плача]. Баценька!.. родненькі, ідзі адгэтуль!

Сьмірноу. Яна мне проста падабаецца. Саправды. Хоць і ямачкі на шчоках, а падабаецца. Гатоу нават доуг ёй дараваць... і злосьць прайшла... Дзіуная кабета!

## ЗЬЯВА Х-ая.

**Тыя-ж і Папова.**

Папова [уваходзіць з пісталетамі]. Ось яны, пісталеты!.. Але перш, чым маемо страляцца, вы мяне навучыце, як трэба страляць. Я ніколі у жыцці ня трымала у руках пісталету.

Антон. Божанька!.. Зьлітуйся!.. Пайду, пашукаю агародніка і фурмана пашукаю... Скуль гэта напасьць на нашу галаву... [Пайшоу].

Сьмірноу. [агледае пісталеты]. Бачыце, ёсьцека некалькі гатункау пісталетау... Есьць пісталеты спэцыяльна для паедынку Мортімара. А гэта у вас рэвольвары сыстэмы Сміт і Вэссон з экстрактарам, цэнтральнаго бою... Добрыя пісталеты... Яны каштуюць меньш усяго 90 рублёу пара... Трымаць рэвольвар трэба так!.. (У бок). Вочы, вочы! Запальная кабета!

Папова. Гэтак?

Сьмірноу. Але, гэтак!.. Потым вы падыймаеце паукурча.. ось гэтак цэліцесь!.. Галаву крыху назад. Руку трэба выцягнуць добра!.. Ось гэтак!.. Пасьля вы ось гэтым пальцам націскаеце гэту штучку—больш нічога... Толькі глауная рэч: спакойна і ня сьпешаючыся нацэліцца... Старацца, каб не задрыжала рука...

Папова. Добра!.. У пакоях страляцца нязручна, пойдземо у садок.

Сьмірноу. Хадзем. Толькі я павінен вас папярэдзіць, што я страляць буду у гару, у паветро.

Папова. Гэтаго яшчэ неставала! Чаму-ж гэтак?

Сьмірноу. Дзеля таго... дзеля таго... гэта маё дзело, дзеля чаго.

Папова. Вы спудзіліся! Але! А-а а! Не, пане, вы ня выкручывайцеся! Прашуісьці за мною. Я не супакоюся, пакуль не прабью вашаго лобу... ось гэтаго лобу, што я так ненавіджу! Спудзіліся?

Сьмірноу. Але, спудзіуся.

Папова. Брэшаце! Чаму вы ня хочэце стряляцца?

Сьмірноу. Дзеля таго... таму, што вы... мне падабаецеся!..

Папова (злы рогат). Я яму падабаюся. Ен мае сьмеласьць казаць, што я яму падабаюся. (Паказывае на дзьверы). Можаце...

Сьмірноу (моучкі кладзе пісталет, бярэ шапку і ідзе; каля дзьвярэй затрымліваецца; момэнт абое моучкі глядзяць адзін на аднаго; потым ен кажа, баязьліва падходзючы да Паповай). Паслухайце!.. Вы усё яшчэ гневуны?.. Я так сама, як чорт злы, але, ці разумееце... як-бы гэта выславіцца? Справа у тым, што, бачыце, такога роду гісторыя, кажучы па праудзі... (Крычыць). Ну, дык хіба-ж я вінен, што вы мне да спадобы? (Хапаецца за сьпінку крэсла, крэсло трашчыць і ламаецца). Чорт ведае, якія у вас нямоцныя крэслы! Вы мне падабаецеся. Разумееце? Я... я закахауся!

Папова. Адступіцеся ад мяне, я вас цярпець не магу!

Сьмірноу. Божа, якая кабета! Ніколі у жыцці ня бачыу такой. Прапау! Загінуу! Папау, як мыш у пастку!

Папова. Адступіцеся, а то страляць буду.

Сьмірноу. Страляйце! Вы ня можаце зразумець, якое шчасьце умерці пад паглядамі гэтых вачэй, умерці ад рэвольвару, каторы трымае гэта маленькая, аксамітная ручка... Я звар'яцеу. Думайце і рашайце ураз-жа, таму, што, калі я выйду адсюль, то ужо мы больш ніколі не пабачымось. Рашайце!.. Я шляхціц, добры чалавек, маю у год дзесяць тысяч даходу... траплю куляй у падкінуту капейку... маю пекных коней... Хочаце быць маёй жонкай?

Папова (абурана, трасе пісталетам). Страляцца!

Сьмірноу. Звар'яцеу!.. Нічога не разумею... (Гукае). Слуга, вады!

Папова (на голас). Страляцца!

Сьмірноу. Звар'яцеу, закахауся, як дзяцюк, як дурны. (Хапае яе за руку, яна крычыць ад болю). Я кахаю вас! (Стануушы на каленкі). Кахаю, як ніколі не кахау. Дванаццаць кабет я кінуу, дзевяць кінулі мяне, але ніводную я так не кахау, як вас... Раскапусьціуся, разьмяк, раскіс... стаю на каленках, як дурны, і прашу васісьці за

мяне... Ганьба і сорам! Пяць гадоу не кахауся, дау сабе слово, і раптам уцюрыуся, як аглобля у чужы воз. Рукі прашу! Так, ці не?! Ня хочаце? Ня трэба! (Устае і хутка ідзе к дзьверам).

Папова. Пачакайце!..

Сьмірноу (затрымліваецца). Ну?

Папова. Нічога, ідзіце!.. А то пачакайце!.. Не, ідзіце. Я вас не цярплю. Ці не!.. ня йдзіце! Ах, каб вы ведалі, якая я злая, якая злая! (Кідае на стол рэвольвар). Набраклі пальцы ад гэтаго паскудзтва... (Рве ад злосьці хустачку). Чаго-ж вы стаіце? Вон!

Сьмірноу. Бывайце здаровы!

Папова. Але, але, ідзіце!.. (Гукае). Куды вы? Пачакайце!.. не!.. ідзіце лепш!.. лепш ідзіце!.. Ах, якая я злая! Не падходзьце, не падходзьце да мяне!

Сьмірноу (падыйходзючы да яе). Які я злы на сябе! Закахауся, як гімназіст, стаяу на каленках!.. Нават мароз за скурай дзярэ... (Груба). Я вас кахаю... Надта было мне патрэбна закахацца у вас. Заутра працэнты плаціць, сенажаць трэба касіць, а тутака вы... (Бярэ яе за стан). Ніколі гэтаго ня выбачу сабе...

Папова Адступіцеся! Бяз рук! Я вас... цярпець не магу Страляцца! (Доугі пацалунак).

## ЗЬЯВА XI-ая.

**Тыя-ж**, **Антон** з сякерай, **агароднік** з граблямі, **фурман** з віламі і **работнікі** з дручкамі.

Антон (пабачыушы іх у часі пацалунку). Баценька мой! (Пауза).

Папова (спусьціушы вочы). Антон, накажы тамака у стайні, каб сённека Гнедку зусім не давалі ауса!

**(Заслона).**

---

*КАНЕЦ.*

А. Чэхов.

# СВАТАННЕ.

Жарт у I акце.

---

*Пералажыў з расійскае на беларускую мову*
**Н. Чарнецкі.**

# СВАТАННЕ.

**АСОБЫ:**

СЬЦЕПАН ЧЫБУХ.

НАТАЛКА—Чыбухова дачка, 25 лет.

ІВАН ЛАМАКА—іхні сусед, таўсты, здаровы, ды ўсё пад сваім здароўем дрыжыць.

---

## ЗЬЯВА І-ая.

**Чыбух** і **Ламака** (увайшоу у сурдуце ды белых рукавічках).

Чыбух (спатыкаючы). Галубок-жа ты мой, каго-ж я бачу? А матачка-ж мая!.. ото-ж я уцешыуся, неспадзеваушыся! (здароукаецца за руку) Ці здароу хацяʼ?

Ламака. Дзякую вам! А вы-ж ці здаровы?

Чыбух. Жывём памаленьку, анёлак мой, Богу дзякаваць ды усё такое. Сядайце, будзьце ласкавы. Ці хараша гэтак суседзяу забываць, мамачка мая? Галубок-жа мой, чаму-ж з гэтакаю парадай? І у сурдуце, і у рукавічках, і усё такое? Ці едзеце куды, дарагенькія мае?

Ламака. Да не, такі-ж я да вас, пане Сьцепане.

Чыбух. Дык на што-ж той сурдут, цацачка мая, як Новым Годам віншуючы!

Ламака. Бачыце, во у чым рэч... (бярэ яго пад руку). Выбачайце, шаноуны пане Сьцепане, маю да вас просьбу. Ня раз ужо, дзякую вам, прасіу я вас памагчы, ды кожны раз, як той казау, але-ж я, выбачайце, сяромяюся. От, я вады выпью, шаноуны пане Сьцепане (пье).

Чыбух (да сябе). Мусіць грошай прыехау пазычыць. Ня дам! (Да яго) Чаго-ж трэба, мой харошанькі?

Ламака. Калі-ж, бачыце, паважаны, шанаваны... выбачайце... Сьцепанскі Сьцепане, як той казау, самі бачыце... Надта я саромяюся .. Адным словам, апроч вас, ніхто мне не паможа, хоць ведама, я таго і ня варты, ды... ды права на тое ня маю каб ад вас помачы спадзявацца...

Чыбух. А мая-ж мамачка! Ды годзі-ж вам ужо размазываць. Ды кажыце-ж адразу! Ну?

Ламака. Зараз... У мамэнціік. У тым справа, што я прыехау у сваты да вашай дачкі, Наталкі.

Чыбух (уцешыуся). Мамачка-ж мая! Пане Іване! Яшчэ разок скажыце, я не дачуу!

Ламака. Маю гонар прасіць...

Чыбух (перабівае). Галубка-ж ты мая! Які-ж я рад ды усё такое... (абняу, цалуе) Дауно я жычыу гэтаго... Мне жадалося... (сьлязу пусьціу) Заусёды я любіу вас, анёлак мой, як роднаго сына. Дай-жа, Божа, каб вам было як раз ды усё такое, ды і я-ж хацеу таго самаго... Чаго-ж я стау як дурны? Здурэу, чыста здурэу ад радасьці. Ад усяго сэрца. Пайду клікну Наталку, ды усё такое.

Ламака (ледзьве ня плача ад радасьці). Шаноуны пане Сьцепане, як-жа вам здаецца, ці спадзявацца мне, што не адкажа?

Чыбух. Гэткі, як той казау, хорашы ды каб яны адказала ні з таго ні з сяго? Палюбіла, ня бойся, як кошка ды усё такое... зараз... (пашоу).

## ЗЬЯВА II-ая.

**Ламака** (адзін).

Ламака. У холад кідае... Дрыжу увесь, як перад экзаменам. Калі доуга будзеш думаць, ды раздумывацца, ды разбіраць, ды шукаць зоркі у небе, або праудзіваго кахання, то гэтак і ніколі не ажэнішся... Брр... Холадна. Наталка—гаспадыня—ня трэба лепшай, з твару ня брыдкая ды вучоная... Якога-ж мне яшчэ ражна трэба? Аднак ужо мяне разьбірае, у вушах стало гудзець (пье ваду). А не жаніушыся німа як... Першая рэч, мне ужо 35-й год—такі век, што трэба, як той казау—ці сюды ці туды. Другое, пры маём здароуі трэба жыць па парадку, акуратна. Такі-ж я сапрауды маю біццё сэрца, абы чаго зазлую, так зараз мяне разбярэ. От і цяпер мае губы дрыжаць, ды у правай веялцы сударога пачынаецца... Але-ж найгоршая у мяне бяда, як спаць прыдзецца. Абы толькі лёг, так нешта у левы бок—штурх, а далей проста у плячо ды у галаву... Схаплюся як вар'ят, прайдуся трошкі ды зноу лягу, толькі лёг, задрамау, а яно і узноу—штурх у бок! Гэтак можа разоу з двадцаць...

## ЗЬЯВА III-ая.

**Наталка** і **Ламака**.

Наталка (увайшла). А што! Гэта-ж вы, а тата кажа: купец па тавар прыйшоу. Будзьце здаровы, пане Іване!

Ламака. Здаровы будзьце, паважаная панспачка!

Наталка. Выбачайце, саусім не адзета, у хвартуху... Гарох лупчым, сушыць будзем. Чаму-ж гэта вы у нас гэтак доуга не былі? Сядайце... (селі). А мо пасьнедаеце?

Ламака. Дзякуй вам, я ужо пад'еу.

Наталка. Закурыце... вось запалкі... Як сягоння на дварэ хараша, а учора гэткі дождж быу, што увесь дзень у полі работы ня было. А у вас многа накошана? Во я абласавалася, усю сенажаць скасіла, цяпер і сама ня рада, баюся, каб не пагніло. Пэуней было пачакаць. Ды што-ж гэта вы у сурдуце? От навіна! На вечарынку выбрауся, ці што? Прауду сказаць і пахарашэлі. . Але-ж куды гэтак выглаганталіся?

Ламака (саромяючыся). Бачыце, паненачка.. у тым справа... Я падумауся прасіць, каб вы мяне паслухалі... Пэуна вам і дзіуна будзе, мажа будзеце сердаваць, але-ж я... (сам да сябе). Які-ж страшэнны холад!..

Наталка. У чым-жа справа? (счакаушы). Ну!

Ламака. Я ужо пастараюся па-просту. Самі ведаеце, паненачка, я ужо з малых дзен маю тое шчасьце, што пазнау вашу сямейку. Мая цёця нябошчыца і дзядзька, па іх, самі ведаеце, мне і зямля засталася, яны надта шанавалі вашаго тату і маму нябошчыцу. Наш род, ды ваш род жылі заусёды, як суседзі, можна сказаць, як сваякі. Да таго-ж самі ведаеце, і зямелька мая ды ваша адна пры аднэй ляжыць. Будзьце ласкавы прыпомніць, тут мае Валовыя Лужкі, а тут і ваш бярэзьнік.

Наталка. Выбачайце, што перашкоджу. Кажаце: «мае Валовыя Лужкі...» Ці-ж яны вашы?..

Ламака. А ужо-ж...

Наталка. На табе! Валовыя Лужкі ня вашы, а нашы!

Ламака. Такі-ж мае, паненачка.

Наталка. Гэта мне навіна!.. Калі-ж яны вам асталіся?

Ламака. Як, калі? Гэта-ж тыя самыя нашы Валовыя Лужкі, ідуць між вашым бярэзьнікам ды Гарэлым Балотам.

Наталка. Але-ж, але... Гэта-ж нашы...

Ламака. Ды не, гэта вы несправядліва... Лужкі мае!

Наталка. Апамятуйцеся, пане Іване! Ці дауно-ж яны сталі вашы?

Ламака. Як, дауно? Заусёды былі нашы, колькі у мяне памяці.

Наталка. Ну, выбачайце, гэта яшчэ пабачым!

Ламака Паненачка, так яно у паперах стаіць. Былі яны некалі пад судом, і то прауда; толькі-ж цяпер яны мае, усім вядома. І спрачацца няма аб чым. От як яно было: маей цёткі бабка аддала

гэтыя самыя Лужкі у вечны чынш мужыкам дзеда вашаго таткі тады за тое, што яны для яе цэглу рабілі. Так і валадалі мужыкі, падданныя дзеда вашаго таткі, гэтымі самымі Лужкамі гадоу сорак бяз платы, так яны, прауда, думалі, што Лужкі нібы-то іхнія. Але-ж далей як вышло палажэнне...

Наталка. Саусім ня гэтак яно было. І дзед мой і прадзед ведалі, што іхней зямлі граніца там, дзе пачыняюцца Гарэлыя Балоты,— выходзіць, што Валовыя Лужкі нашы. Чаго-ж тут спрачацца? Аж злосьць бярэ!

Ламака. І паперу магу вам паказаць.

Наталка. Жартаваць, дражніцца са мной уздумалі... От навіна! Гадоу трыста будзе як валадаем зямлёю, а тут—на табе, кажуць, зямля ня ваша! Выбачайце, пане Іване, я вушам сваім веры не даю. Лужкоу я не шкадую... Усяго дабра дзесяцін з пяць, ня варта больш як рублёу трыста, але куды-ж вы прауду дзелі? Кажыце сабе што хочаце, а крыуды я ня хочу.

Ламака. Зрабіце-ж ласку, паслухайце. Мужыкі дзеда вашаго бацькі, я-ж кажу, палілі цэглу для бабкі маёй цёткі. Цёткіна бабка, дзякуючы ім за ты...

Наталка. І дзед, і бабка, і цётка... Нічога я тут не разьбяру! А толькі Лужкі нашы!

Ламка. Мае!

Наталка. Нашы! Хоць два дні даказывайце, хоць пятнаццаць сурдутау узлажыце на сябе, такі Лужкі нашы, нашы, нашы! Мне вашаго ня трэба, свайго ня дам! Як сабе хочаце.

Ламака. Мая паненачка, не аб Лужкі ідзе, адно аб справядлівасьць. А, калі, хочаце, то Лужкі я вам падарую.

Наталка. Я сама магу вам падараваць, бо Лужкі мае. Дзіуна мне толькі, пане Іване, га гэтае пары мы думалі, што вы сусед як трэба, што вы прыяцель. Легась мы вам і малатарню сваю пазычылі, цераз што ужо лістапад быу, як мы сваё збожжо дамалачывалі. А вы цяпер з намі, як з цыганамі, завяліся. Маёю зямлёй, мяне падарыць хочаце! Выбачайце, гэта ужо не па суседзку. Гэта ужо зьдзекі хочыце строіць.

Ламака. Так гэта па вашаму выходзіць, што я заграбіу? Чужой зямлі я ніколі ня грабіу! Гэткае на мяне узьвясьці, я не пазволю!.. (шпарка ідзе, пье ваду). Валавыя Лужкі мае!

Наталка. Такі нашы!

Ламака. Не, мае!

Наталка. Ня прауда, я вам пакажу! Яшчэ сягоння пашлю сваіх касцоу, ды скосяць.

Ламака. Што?

Наталка. От зараз мае касцы там будуць!

Ламака. А я іх па карку!

Наталка. Не пасьмееце!

Ламака. (Ухапіушыся за сэрцо). Валовыя Лужкі мае! Разумееце? мае!

Наталка. Не крычыце, будзьце ласкавы! Можаце сабе крычаць ды храпсці ад злосьці у сябе удому, а тутака—стрымайцеся!

Ламака. Каб ня гэтае страшнае біццё сэрца, каб у мяне жылы не лапаталі гэтак у лобе—пагаварыу бы я з вамі іначай (крычыць). Валовыя Лужкі мае!

Наталка. Нашы.

Ламака. Мае!

Наталка. Нашы!

Ламака. Мае!

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Яны-ж і Чыбух.**

Чыбух (увайшоушы). Што гэта? Чаго крычыце?

Наталка. Тата, растлумачце, будзьце ласкавы, гэтаму пану, да каго Валавыя Лужкі належаць: ці да нас, ці да яго?

Чыбух (да яго). Цыпачка, Лужкі нашы!

Ламака. Зьмілуйцеся, пане Сьцепане, чаму-ж гэтак яны вашы? Вазьміце хаця вы у розум! Маёй цёткі бабка дала мужыкам вашаго дзеда пакарыстаць зямлёй без грошай толькі да часу. Мужыкі карысталі зямлёй гадоу сорак, ды прывыклі як да свайго, а як вышло палажэнне...

Чыбух. Стрымайцеся, дарагенькі... То-ж то і ё, што вы забыліся, што мужыкі не плацілі вашай бабцы ды усё такое, дзеля таго, што за іх спор ішоу ды блізка таго... А цяпер усякі сабака ведае, гэта самае, што яны нашы. А вы, відаць, планау ня бачылі?

Ламака. Такі пакажу!

Чыбух. Мамачка-ж мая, на што-ж гэты крык? Аб тое-ж, што крыкам нічога не пакажаце. Вашаго я не хачу, ды свайго не папушчу! На што мне гэта? Ужо калі на тое ідзе, мілачка мая, калі са мною за гэтыя Лужкі зьвяліся, ды усё такое, то я барджэй іх мужыкам падарую, як вам. От як!

Ламака. Не пайму я гэтаго! Якое-ж права маеце чужое падараваць?

Чыбух. Гэта ужо маё дзело—маю я права ці не. То-ж то і ё, што я не прывык ад маладзікау гэтакую гутарку слухаць, ды усё такое. Будзьце ласкавы са мною паціхеньку гаварыць ды усё такое...

Ламака. Такі-ж я у дурні не запісауся, каб з мяне зьдзекі строіць! Маю зямлю ды сваёю назвау і яшчэ хоча, каб я спакойны быу ды гаварыу па людзку! Гэта ужо, пане Сьцепане, не па суседзку! Гэта ужо не суседзтво, ды зьдзірство. Вы узурпатар!

Чыбух. Як? Як гэта вы казалі!

Наталка. Тата, зараз на Лужкі касцоу пасылайце!

Чыбух (да Ламакі). Як гэта ягомасьць казау?..

Наталка. Валавыя Лужкі нашы, я не уступлю! Не уступлю! Не уступлю!..

Ламака. Пабачым! У судзе пакажу, што маё.

Чыбух. У судзе? Падавай ягомасьць у суд ды усё такое. Будзь ласкау. Ведаем мы вас, вам толькі аказіі прычакаць, каб судзіцца ды усё такое... Суцяга! І з роду усе былі суцягі! Усе!

Ламака. Роду майго ня сьмейце бэсьціць! Ламакі усе чэсныя былі. Ня было такіх, як ягомасьцяу дзядзька, што судзіуся за тое, як чужыя грошы патраціу.

Чыбух. А у родзе Ламакау усе вар'яты былі!

Наталка. Усе! Усе, усе!

Чыбух. Дзед ваш піу бяз меры, без памяці, а малодшая цётка, бо-ж то е Настуля, з будаунічым уцекла ды усё такое...

Ламака. А матка вашая была крывабокая! (ухапіуся за сэрцо) У бок таркануло... У галаву стукнуло... Бацюшкі! Вады!

Чыбух. А бацька ваш быу карцёжнік ды абжора!

Наталка. А цётка мантуйка-плёткарка, што ня трэба горшай!

Ламака. Левую нагу адняло... А вы інтрыган!.. Ой, ой, сэрцо!.. Ды усім ведама, што вы, як выбары былі пад... Іскры у вачах... Дзе мой капялюш?

Наталка. Брыдка! Не па людзку! Гадка!

Чыбух. А сам ягомасьць хітры, як гадзюка, паскудны чалавек! От як!

Ламака. Ось капялюш!.. Сэрцо!.. Куды я дзенуся? Дзе дзьверы? Ох!.. Здаецца, памру... Нага валочыцца... (ідзе у дзьверы).

Чыбух (за ім). Каб вашай нагі тут ня было!

Наталка. Падумайце - у суд! Пабачым! (Ламака пашоу, ківаючыся).

## ЗЬЯВА V-ая.

**Чыбух і Наталка.**

Чыбух. А каб яго чэрці! (шпарка ходзіць ад злосьці).

Наталка. Ці ня шэльма-ж гэта? І давай тут веру добрым суседзям!

Чыбух. Гупцват! Пудзіло гароховае!

Наталка. Вырадак гэты! Чужую зямлю цягне, ды яшчэ лаецца!

Чыбух. Яшчэ гэткая кікімора, гэткая, то-ж то і ё, курыная сьлепата, у сваты выбраўся ды усё такое. Бачыш? У сваты!

Наталка. Як, у сваты?

Чыбух. А як-жа. Таго-ж прыехаў, каб да цябе сватацца.

Наталка. У сваты? Да мяне? Чаму-ж ты мне пярвей не сказаў?

Чыбух. Для таго-ж і у сурдут выстраіўся, кішка гэтая! Смоўж!

Наталка. Да мяне? У сваты? Ох! (падае на крэсло ды стогне). Вярнуць яго! Вярнуць! Ах! Вярнуць!

Чыбух. Каго гэта?

Наталка. Хутчэй! Хутчэй! Ох! Кепска! Вярнуць! (хватае яе сударога).

Чыбух. Што гэта? што табе? (Ухапіўся за галаву). А мая-ж доля ліхая! Застралюся! Павешуся! Замучылі!

Наталка. Паміраю! Вярнуць!

Чыбух. Цьфу! Пачакай! Не дзяры горла! (пабег).

Наталка (адна стогне). Ды што-ж мы нарабілі? Вярнуць!

Чыбух (прыбег назад). Зараз вернецца ды усё такое, бадай яго чэрці! Ух! Гавары з ім сама, а я то-ж то і ё, што ня хочу...

Наталка (крычыць). Вярнуць!

Чыбух (крычыць). Кажу табе—ідзе! А Божухна, каб яго з гэтымі дачкамі! Зарэжуся. Канечна зарэжуся! Чалавеку сораму нарабілі, аблаялі, прагналі, а усё ты вінавата... ты!

Наталка. Не я, а ты!

Чыбух. Ну, але, я вінаваты, ото-ж то і ё... (У дзьверах паказываецца Ламака). Ну, гаворы з ім сама (пашоў).

## ЗЬЯВА VI-ая.

**Наталка і Ламака.**

Ламака. (Ідзе умарыўшыся). Сэрцо страшэнне трапечыцца... Нагу адняло... у бок торкае...

Наталка. Выбачайце, пане Іване, мы пагарачыліся... Цяпер я успомніла: такі сапраўды Валовыя Лужкі вашы.

Ламака. Вельмі сэрцо бьецца... Лужкі мае!.. На абодвух вачах сударга скача...

Наталка. Ну але-ж, вашы, вашы Лужкі!.. сядайце... (селі). Гэта мы вінаваты.

Ламака. А я за справядлівасьць... Зямля мне ня дорага, дорага справядлівасьць.

Наталка. Ну, але-ж, справядлівасьць... Пагаварым аб чым інакшым.

Ламака. Але тое, што і даказаць магу. Маёй цёткі бабка аддала мужыкам дзеда вашаго таткі...

Наталка. Годзі ужо! Годзі... (сама да сябе). З чаго тут пачаць... (Да яго). Калі-ж выбіраецеся на паляванне?

Ламака. На цацырукі, паненачка, пачну мусіць, як кончуць жаць. А вы ня чулі якое у мяне няшчасьце? Мой Адгадай, вы яго ведаеце, закульгау!

Наталка. Вото-ж шкода! І з чаго-ж гэта?

Ламака. Ня ведаю... Ці зьвіхнуу, ці сабакі пакусалі... (уздыхае). Найлепшы быу сабака, аб грошах і нема што казаць! Я-ж за яго Міровчыку 125 рублёу заплаціу!

Наталка. Гэта вы лішняе далі, пане Іване!

Ламака. А скажу, што яшчэ мала. Сабака быу—толькі дзівіся!

Наталка. За свайго Валяя, тата дау 85 рублёу, а вашаму Адгадаю куды да яго!

Ламака. Валяй лепяй за Адгадая? Што вы гэта? (сьмяецца). Ого—Валяй лепшы за Адгадая!

Наталка. Ведама, лепшы! Валяй, прауда, яшчэ малады сабака, а для таго ці рушыць, ці трымаць, то за яго і у Валчанецкаго німа лепшаго сабакі.

Ламака. Пачакайце, паненачка, вы-ж тое забылі, што у яго конская морда, а з гэтакою мордаю, сабака ніколі добра ня возьме.

Наталка. Конская морда? Першы раз чую!

Ламака. Сапрауды—ніжняя сківаца даужэйшая за верхнюю!

Наталка. А вы-ж зьмерылі?!

Ламака. Зьмерыу! Да гону, прауда, ён нічога, але, як прыйдзе «вазьмі яго», то аслабне надзея...

Наталка. Першая рэч, наш Валяй гатунковы (пародзісты), сабака, з сабак сабака, ён сын Запрагая ды Стружкі, а вашаго пярыстаго і роду не дамацаешся... а да таго стары калека, як анучнікава кабыла ..

Ламака. Стары, а я за яго пяці вашых Валяяу не вазьму .. Ого дзіво... гэтакіх, як ваш Валяй, сабакару німа куды дзець, калі хто дасьць 25 рублеу, то яшчэ падзякаваць.

Наталка. Ды вас, пане Іване, мусіць сягоння чорт ды да какалашні папіхае? То задумалі, што Валовыя Лужкі вашы, то ізноу Адгадай лепшы за Валяя? Не люблю я, калі хто тое гаворыць, чаму і сам веры не дае! Такі ж вы самі добра ведаеце, што Валяй лепяй за гэтаго вашаго дурня, Адгадая. Аб чым-жа тут спрэчацца?

Ламака. А вам, я бачу, здаецца, што я асьлеп, або здурнеу? Хто таго ня бачыць, што ваш Валяй падуздаваты?

Наталка. Брахня!

Ламака. Падуздаваты!

Наталка. Брахня!

Ламака. Чаго-ж гэта васпанна крычыш?

Наталка. А чаму-ж ягомасьць гаворыш няма ведама што? Ня сьцярпець слухаючы! Вашаго Адгадая застрэліць пара, а ня то што раунаваць да Валяя!

Ламака. Выбачайце, я ужо не магу далей! У мяне біццё сэрца.

Наталка. Гэта я дауно уважала: гэты мыслівы, што да палявання астатні, той да калатні першы!

Ламака. Годзі ужо. Годзі! Будзьце ласкавы. Сэрцо маё трэсьне... (Крычыць). Годзі!

Наталка. Ня сьціхну, пакуль не прызнаецеся, што Вяляй у сто разоу лепшы за вашаго Адгадая!

Ламака. Сто разоу горшы! Каб ён здох ваш Валяй... Ой,—ой!.. у скорні... у воко... у плячо тарканула...

Наталка. А вашаму падле Адгадаю ужо і здыхаць ня трэба, ён ужо і так здохлы!

Ламака (плача). Годзі! Маё сэрцо рвецца!

Наталка. Не! Ня буду маучаць!

## ЗЬЯВА VII-ая

**Тыя самыя і Чыбух.**

Чыбух. (Увайшоушы). Што гэта ізноу у вас?

Наталка. Тата, скажы шчыра, на сумленне, каторы сабака лепшы—наш Валяй, ці яго Адгадай?

Ламака. Пане Сьцепане, зрабіце ласку, скажыце адно: ці падуздаваты ваш Валяй, ці не?

Чыбух. А няхай сабе! Бяда вялікая! За тое на цэлы павет німа за яго лепшаго сабакі ды усё такое!

Ламака. Але-ж мой Адгадай лепшы! На сумленне!

Чыбух. Супакойцеся... дарагенькі... Пачакайце... Вашаму Адгадаю, то-ж то і ё, за што ня трэба—я ганьбы ня дам... Ен гатунковы, і у нагах моц мае і у задзе, ды усё такое. Толькі і твой сабака, калі ужо хочаш ведаць, мой харошанькі, дзьве важныя недахваткі мае: стары ды морда караткавата.

Ламака. Выбачайце, сэрцо у мяне трасецца... Скажу толькі тое, што усе бачылі. Успомніце, будзьце ласкавы, як на Марысьцінай руні мой Адгадай ішоу з графскім Размахаем вухо з вухам, а ваш Валяй на цэлую вярсту адстау?

Чыбух. Астауся цераз тое, што графскі даежджачы даумуѣ ргаапнікам.

Ламака. I варта было—усе сабакі за лісамі ідуць, а Валяй давай барана цярабіць.

Чыбух. Брахня... Галубка мая, не даводзьце мяне да злосьці, то-ж то і ё, будзьце ласкавы, пакінце ужо спрачацца! Даежджачы дау гарапнікам цераз тое, што на добраго сабаку гледзючы, усякаму зайздросна, што сабака не яго... То-ж то і ё... Усе такія зайздросныя! I ягомасьць трохі вінаваты! То-ж то і ё, абы угледзіу, што абы чый сабака лепшы за вашаго Адгадая, то і пачнеш—сёе, тое, ды усё такое... Ці я-ж не памятую як тут было?

Ламака. I я памятую!

Чыбух. (Дражніцца). «I я памятую...» А што-ж вы памятаеце?

Ламака. Сэрцо трапечыцца... Нага адняласся... Не магу...

Наталка. (Дражніцца). «Сэрцо трапечыцца...» Які-ж з вас мысьлівы? Вам у кухні на печы ляжаць ды тараканау душыць, а не лісіцу цкаваць! «Сэрцо трапечыцца...»

Чыбух. I прауду кажа, які з вас мысьлівы? З вашым, то-ж то і ё, быццём сэрца толькі у дому сядзець, а не на кані трасьціся. Няхай-бы палевау, як людзі палююць, а то толькі езьдзіце за тым, каб спрачацца, чужым сабакам перашкаджаць ды усё такое. Я шпаркі, пакінем ляпей гэту гутарку. А вам, то-ж то і ё, ня варта называцца мыслівым.

Ламака. А васпан нібы-то мысьлівы? А едзеш толькі за тым, каб да графа падмазывацца да на людзей яму на вухо шаптаць. Ой! сэрцо! Падхлебнік! Інтрыган!

Чыбух. Што? Я падхлебнік? (крычыць). Маучы!

Ламака. Падхлебнік!

Чыбух. Блазьнюк! шчанё!

Ламака. Стары пацук! Езуіт!

Чыбух. Маучы, а не то падстрэлю цябе з паганай стрэльбы, як куранашку, сьвістун!

Ламака. Усе ведаюць, што—ох!.. Сэрцо!.. жонка нябошчыца лупіла яго як трэба... Ой нага... скроні... іскры... Упаду, упаду..

Чыбух. А на табе твая ахмістрыня едзе, як сама хоча!

Ламака. От, от, от табе і на... Сэрцо трэснуло! Рука прапала... Дзе мая рука?.. Паміраю! (падае на крэсло). Дохтара! (самлеу).

Чыбух. Блазнюк! Малакасос! Сьвістун! Ой, кепска мне! (пье ваду). Кепска!

Наталка. Які з вас мысьлівы? I на кані сядзець ня умееце! (Да бацькі). Тата! Што гэта з ім робіцца? Тата! Глянь, тата! (Пішчыць на увесь голас). Пане Іване! Памёр!

Чыбух. Кепска мне... Дух забівае. Дайце дыхнуць...

Наталка. Ен памёр! (трасе Ламаку за рукаво) Пане Іване! Пане Іване! Што-ж мы нарабілі? Памёр (падае на крэсло). Дохтара! дохтара! (сударга бярэ).

Чыбух. Ох!.. Што кажаш? Што табе?

Наталка (стогне). Памёр... памёр...

Чыбух. Хто памёр? (глянуушы на Ламаку). Сапрауды памёр! А бацячкі-ж мае! Вады! Дохтара! (дае Ламаку піць) Пійце!.. Не, ня пье... Значыцца памёр ды усё, такое.. З няшчасных я няшчасны! Ды чаму-ж я не застраліуся? Чаму-ж не зарэзауся, да гэтае пары? Чаго я прычакаю? Давайце мне нажа! Давайце пісталет (Ламака варушыцца). Здаецца ачупівае... Напіцеся вады! от, гэдак...

Ламака. Іскры... Туман... Дзе я?..

Чыбух. Жаніцеся вы барджэй да бадай вас чэрці! Яна згодзілася! (Бярэ разам рукі Ламакі і дачкі). Благаслауляю вас ды усё іншае. Толькі-ж адчапіцеся вы ад мяне!

Ламака. Га? Што? (устае). Каго?

Чыбух. Яна згодзілася! Ну? Пацалуйцеся ды усё такое, ды... ды бадай вас чэрці!..

Наталка (стогне). Ен жыве... Але, але, я згодзілася...

Чыбух. Цалуйцеся!

Ламака. Га? Каго? (Цалуецца з Наталкай). Ото добра мне... Пачакайце, што тут рабіць? Ага, ведаю... Сэрцэ Іскры... Дзякую паненцы за шчасьце... (цалуе у руку). Нага адняласся...

Наталка. Я... і я шчасьліва...

Чыбух. Як гара з плеч звалілася. Ух!

Наталка. Аднак... прызнайцеся хоць цяпер. Адгадай горшы за Валяя?

Ламака. Лепшы!

Наталка. Горшы!

Чыбух. Ну, ізноу сямейка шчасьця ужывае! Гарэлкі!

Ламака. Лепшы!

Наталка. Горшы! горшы! горшы!

Чыбух (стараецца перамагчы). Гарэлкі! гарэлкі! гарэлкі!

**(Заслона).**

---

*КАНЕЦ.*